думаеш, Думаеш, думаеш, галава, як кацёл, зробіцца, і ня ведаеш куды, падзецца, за што рукі зацяць. А тут яшчэ і газа вышла, запаліць няма чаго, і дзе дастаць яе, ліха яе ведае.

Бабка Наста гаварыла доўга і многа. Адно слова чаплялася за другое, адна думка выклікала другую, і хоць моцнай сувязі паміж імі і ня было, але гутарка лілася бязупынным зацяжным восеньскім дожджыкам. Аўгіня ўважна слухала, ківала галавою ў знак згоды і глядзела на бабку ласкавымі, выразьлівымі вачамі. І ёй таксама хацелася гаварыць. А гутарка між жанок—вір слоў—бясконцы паток іх.

— У мяне газы трохі ёсьць у запасе. Я вам зашлю праз Алесю. А ўжо аб заплаце мы сойдземся. Ці кудзеляю заплаціла-б вам, ці скорамам.

— Да ўжо-ж памяркуемся, Аўгінька.

— А што чуваць у вас?—асьцярожна, украдліва запытала Аўгіня.

— Ох, любая ты мая!—цяжка ўздыхнула бабка Наста:—такое-ж ужо гора! Да гэтакае ліха навалілася на нас!

Распачала бабка цэлую доўгую тыраду пра бяду наогул, а потым пачала доўгую гісторыю аб ліху, што налучыла іхнюю хату. Расказала і пра стажок, і пра дзедаву бяду, пра ўварваньне ў хату сярод ночы палякаў. Як іх тады калацілі, як трэсьлі! Колькі страху нацярпеліся. А бедны Панас! Горкі плач перарываў бабчын расказ. Расказала, як арыштавалі Панаса і для чаго арыштавалі яго. Бабка так разгаварылася, што нічога не прапусьціла ў гісторыі гэтых ліхіх падзей. Расказала яна і пра тое, што прыходзіў стары Талаш гэтаю ноччу з Мартынам Рылем.

— З Мартынам?—вырвалася ў Аўгіні.

— Ах, міленькія-ж мае!—пляснула рукамі бабка Наста:—а на што-ж я расказала пра гэта! Мая-ж ты мілая Аўгінька! Не кажы-ж ты нікому пра гэта. Не кажы, што яны прыходзілі!

— Ня бойцеся, бабка, мяне: дзецьмі прысягну, што нікому не скажу.

— Не кажы, мая любая! Ты-ж—войтава жонка. А войт дабра нам ня мысьліць.

За бабчыну адкрытасьць і шчырасьць Аўгіня ад радаснай весьці не магла стрымацца, каб не адказаць тым-жа.

— Ой, бабулька Наста: гэта яго войтаўства мне ўпоперак горла стаіць. Пасварыліся з-за яго. Хто цябе, кажу, за войта ставіць? На што табе, кажу, з панамі знацца? Табе з людзьмі, кажу, трэба жыць і ладзіць з імі трэба. Не залюбіў. З якімі, кажа, людзьмі? З Талашом? з Мартынам?.. Вы яго асьцерагайцеся, бабка: дурны ён і злы чалавек. Дык вось-жа я вас папярэджваю. У Вепрах гавораць, што гэта ён Мартына ўдаў... Але-ж і вы, бабка, нікому, нікому не кажэце, што гэта я вам казала.

Аўгіня, як і бабка Наста, спалохалася, што залішне сказала. У выніку, як і ў альгебры, мінус на мінус далі плюс: гэта лішніца, сказаная з аднаго і з другога боку, прымушала іх маўчаць і ў той жа час клала пачатак для ўзаемнага давер'я.

Васіль зайшоў да свайго прыяцеля Кандрата Біркі. Бірка добры гаспадар, хоць скупы і зажымісты. Рыжая, як агонь барада і такія-ж валасы, маленькія хітрыя вочкі сьведчылі аб жорсткасьці і драпежнасьці яго натуры. Сюды падыйшоў яшчэ і Сымон Бруй, станавіты на выгляд мужык, разважлівы і спакойны. Яны—блізкія прыяцелі між сабою і самыя багатыя людзі на вёсцы. Кандрат і Сымон болей актыўна і жыва адгукнуліся на Васілёва паведамленьне аб тым, што ён—войт. Гэта ў значнай ступені падняло Васілёў дух. Яму патрэбна была перш за ўсё нейкая маральная апора і спачуваньне, чаго не знайшоў ён у Аўгіні. А калі Кандрат і Сымон азнаёміліся і з войтавымі абавязкамі, то актыўнасьць іхняя і задаваленьне з поваду прызначэньня Васіля ў войты праявілася яшчэ з большаю сілаю.

Станавіты і разважлівы Бруй урачыста заявіў новасьпечанаму войту:

— З цябе, брат, належыць фундацыя,—на што Васіль Бусыга выказаў пэўную сваю згоду. Ён нават падміргнуў сваім прыяцелям і таемна прызнаўся, што ў яго ёсьць польскі сьпірытус пад прыгожаю назваю „Злоты Клос", і запрасіў іх на вечар да сябе. А ўжо пасьля гэтага пачалася гутарка, адпаведная войтавай годнасьці.

— Дык значыцца—войт?

У гэтыя простыя словы Кандрат Бірка ўкладаў многа зьместу.

— Войт,—важна пацьвердзіў Бусыга.

— А раз войт, дык трэба і за парадкам дасачыць,— далучыўся да гутаркі Бруй:—а то ўжо на нашы галавы падымалася даўбежка—сьвярбелі рукі ў „таварышоў".

Вось тут раптам усердаваўся Кандрат.

— Як ты дасочыш, калі, паміж намі кажучы, польскія салдаты—бабы; ну, як гэта можна дапусьціць, каб гэтыя самыя „таварышы" з голымі рукам абязброілі канвой? Сьмех адзін! А вось цяпер ты іх злаві, папрабуй! Пазашываюцца ў лес і ў дзень ты іх з свечкаю ня знойдзеш. А яны табе сядзець там будуць?

— І не сядзяць, ужо не сядзіць і ня будуць сядзець! А вось прыдзе вясна, тады, брат, разгону ім болей будзе. Разлайдачыліся. Давай ім ўсё—і зямлю, і гаспадарку. А яна табе, гаспадарка, сама прышла ў рукі?

Разважлівы Бруй сказаў цэлую, усім вядомую прамову на тэму, чаму адны жывуць і хлеб маюць, а другія толькі на чужое дабро раты разяўляюць.

Выслухаўшы прыяцеляў, слова ўзяў сам войт. Ён заспакоіў іх. Страшнага няма нічога ў тым, што канвой абязброілі.

Такія выпадкі бывалі і бываюць, і сьвет ад іх не пераварочваўся. Але і ім што колечы рабіць трэба, а не чакаць, покі цябе дзяліць прыдуць.

— Што-ж, нам ці што ў партызаны ісьці?—запытаў Кандрат.

Разважлівы Бруй наляту падхапіў думку.

— А ты кажаш праўду. Не пашкодзіла-б нам сваіх партызанаў мець.

— А ты, Сымоне, праўду кажаш: трэба было-б знайсьці чалавека, ды падаслаць да іх, нібы іх хаўрусьніка,—ухапіўся войт за гэту думку.

Прыяцелі знайшлі спосаб. Усім спадабалася такая камбінацыя, і яны сталі падшукваць адпаведнага чалавека. Называлі кандыдатаў. А ў кандыдатах ніколі нястачы ня бывае на сьвеце. Знайшоўся зручны чалавек і ў нашых прыяцеляў. Разважлівы Бруй назваў такога кандыдата, а прыяцелі дружна падтрымалі яго. Гэтым кандыдатам аказаўся Саўка Мільгун. Хто-ж такі за Саўка і ў чым яго кандыдацкія вартасьці?

Перш за ўсё Саўка Мільгун размашысты чалавек, шырокая натура і гультай. Гаспадаркаю ён не займаўся, гуляў, выпіваў, трохі краў і прыставаў да розных цёмных людзей. Яго можна было наняць на якую хочаш справу. Камбінацыя трох прыяцеляў заключалася ў тым, каб падбіць Саўку за пэўную ўзнагароду зьвязацца з тулягамі, паўстаўшымі супроць багацеяў, і даваць аб іх інфармацыю. Прасьцей сказаць, прыяцелі прызначылі Саўку ролю правакатара і даносчыка.

Як толькі прыяцелі разыйшліся, па сяле прыйшла чутка аб Вепраўскіх падзеях. Гэта чутка дужа моцна ўсхвалявала сяло. Але і гэту весьць людзі ўспрынялі па рознаму. Васіль Бусыга адчуваў задавальненьне. Тая акалічнасьць, што палякі спалілі Мартынаву хату, гаварыла за тое, што яны шукаюць Мартына і ўсю кампанію, што была з ім, і помсьцяцца за разбраеньне канвою. У той жа час на яго павявала непакоем: хто-ж такі той невядомы, што застрэліў польскага салдата і раніў другога? І яго не злавілі! Можа гэта Талаш? а можа Мартын?

Калі дачулася аб гэтым Аўгіня, то яна моцна затрывожылася. На што спалілі Мартынаву хату? Куды-ж падзенецца яго сям'я? За што забілі Кандрата Буса, таго Кандрата, з якім яна калісь дружыла, які любіў яе? Ёй прыпомнілася, як ішла яна з Мартынам з Прыпяці, як сустрэўся ёй Кандрат Бус, і яны пашлі з ім поруч. Мартын угневаўся і ня прышоў да яе. Цяпер усё гэта ўсплыло ў яе памяці, і яна асудзіла свой лёгкадумны паступак. Весьць аб сьмерці Кандрата і аб падпале яго хаты зрабіла цяжкае ўражаньне на Аўгіню. Яе цешыла толькі думка аб тым, што нехта невядомы папомсьціўся за Кандрата, і яго не злавілі. Хто ён? Можа Мартын з дзедам Талашом? І гэта падобна было да праўды: яны сёньня былі тут.

Першым прышоў да войта Кандрат Бірка. У хаце была адна Аўгіня і меншыя дзеці. Аўгіня стаяла каля печы, папраўляла

вілкамі дровы. Кандрат паздароўкаўся і запыніўся каля Аўгіні. Ён ніколі не прапускаў здарэньня, каб не зачапіць яе.

— Ой, холадна, Аўгінька! Ці ня можна пагрэцца каля цябе? сказаў ён і пасунуў сваю рыжую мардасіну бліжэй да Аўгінінага твару і абняў яе адною рукою. Аўгіня рэзка павярнулася, хоць і казала, што любіць рыжых, і вызвалілася ад яго рукі. Яна зараз-жа стрымала сваю рэзкасьць і лагодна зазірнула яму ў вочы, зазірнула так, як умела зазіраць яна.

— Бач, які ваяка: на бабу напаў! Ты-б у лес пашоў ды паваяваў!

Маленькія Кандратавы вочкі замасьліліся.

— І зусім не нападаю: дакрануцца да цябе лічу за шчасьце... Эх,—зьмяніў ён рэзка голас:—Ну, каб ты ня была войтава жонка... войта мне шкода!.. А ваяваць я не пайду: мы за сябе ваяку паставім.

І расказаў Аўгіні пра камбінацыю з Саўкам. Такой прыгожай жанчыне, ну хоць добраю навінаю дагадзіць. Расказаўшы, самазадаволена захіхікаў.

(Далей будзе)

---

АЛЕСЬ ЗВОНАК

## З ВЕРШАЎ ПРА АБАРОНУ КРАІНЫ МАЁЙ

Так. Гэтым здарэньнем цяжарны гады.
Наступнае схована ў хмарах:
То полымя боек і пораху дым
Авейвацьме нашы штандары.

Яна падыходзіць кастлявай ступой—
Сусьветная катастрофа,
Скірованы плямамі чорных сьлядоў
На ўсход яе брудныя тропы...

І будзе аднойчы парушан спакой,—
Як гром сярод яснага неба.
Яна закране нас гарачай рукой—
Такая сьмяротная небыль...

Камандаю будзе парушан спакой:
— Здаровыя выпрастаць плечы!
І стаць па загаду рэспублікі ў строй...
...І ляжа трывогай індзігавы вечар
На ўзрушаны тлум чалавечы.

З прадымленых цэхаў,
З калгасных абшараў,
З лябараторый,
З унівэрсытэтаў
Ты выйдзеш, таварыш,
Я выйду, таварыш,
Нас тысячы выйдуць
Праверанных гэткіх.

Да твару шынэль і юхтовыя боты,
І шлемы да твару, і песьня да твару.
Ня дрогнуць шарэнгамі нашыя роты,
Як грымне каманда,
Заграюць фанфары
І закалышуцца нашы штандары.

Ты ўстанеш, як даўняга цень, разьвітаньне,
Зьмяёю тугі у каханых вачох,
І губы станцуюць дрыжачы свой танец,
І схіліць яна галаву на плячо.

Але гэты холад—ільдзінка у маі,
Яго разганяе усьмешкавы промень,
І разам з другімі ты, маладая,
Будзеш стаяць на вакзальным пэроне...

Маўклівую сілу таго разьвітаньня
Ня душыць сьмяротны і здрадніцкі страх,
І мы ад цябе не пачуем літаньняў,
Шматлікая наша сястра...

І вочы твае застануцца сухімі,
Шматлікая наша сястра,
Як ўздрогне паветра званкамі тугімі
І грымне калёсная гра.

І зноў паплывуць эшалёны ў даль
Па роўніцы нашых палёў.
І блісьне сурова халодная сталь,
Халодная сталь штыхоў...

І мы пранясем скрозь гарматны гул,
Скрозь здані зла весна е сьмерці,
Скрозь газы, і бомбы, і дождж куль,
Ці праз Палесьсе, ці праз тайгу,
Жывое рэспублікі сэрца...

Пакуль-жа ня грае труба на трывогу,
Пакуль-жа гарматы маўчаць,
Кладуцца ў наступнае нашы дарогі,
Алюрам праносіцца час;

Ня дрэмлюць на межах упартыя вочы,
А пальцы ляглі на замок,—
„Ні пядзі чужое зямлі ня хочам,
Ні цалі нікому свае не дамо“!

Масква 1932 г.

Іл. БАРАШКА

## ПАГРАНІЧНАЕ АПАВЯДАНЬНЕ

Хмурыя, туманістыя восеньскія адценьні хаваюць у сябе прасторныя, пагранічныя далі. Глеістая зямля, нібы перакіслае малако, бродзіць пад дажджом. Ад васеньняга ветру і халоднага, колкага дажджу парыжэла, выцьвіла зелень мурожных лугоў. Холад-вястун прыходу замаразкаў. Апошнія дні лістападу, а замаразкаў яшчэ няма.

— І калі гэта пачарсьцьвее зямля,—ня можа ўгаманіцца Астапчук. Апрыкрыла, надакучыла яму сёлетняя, даўгая, як ноч, золкая восень.

— Вось прыдзе зіма, пасьцелецца сьнег, можна будзе на лыжах... Эх, на лыжах...—І Астапчук не даканчвае сваіх разваг. Нашто даканчваць, калі гэта і так зразумела яго таварышом. Прыдзе зіма выпадзе глыбокі сьнег, а тады—куды хочаш, на пост, на заставу, у атрад, мігам сокалам зьлётаць можна... І самае галоўнае—на цянькі! Эх, на цянькі!

— І ў заставе чысьцей будзе... як ня мый, а восень сваё бярэ...

— Ды ты супакойся, Астапчук, а хадзі... Хутка прыдзе зіма... Хутка... дачакаемся...

— Ды знаю я, што хутка... Я гэта так... зіму люблю... Пойдзеш на пост, глядзіш, на заячы сьлед натрапіш... А то бывае і зайчыка сустрэнеш... а ён ад цябе, як шмыгане—памінай як звалі...

Астапчук марыць аб зіме.

Перад ім выплывае белая асьнежаная раўніна, магутны чорны, суворы лес, кучаравыя хмызьнякі, рэчка на сонцы іскрыцца сіньню ільду.

Хараша зімою!

У Астапчуковым выбражэньні распасьцёрся картай-аднавёрсткай увесь вучастак іхняй заставы. І вось ён у валёнках, у шлёме, у цёплых пушыстых рукавіцах, з вінтоўкай за плячмі едзе на лыжах на свой пост... Мароз шчыплецца, мароз прыемна казыча твар, на вачах ад марозу сьлязінкі, а ён сьпяшаецца, набірае разгон...

— Люблю зіму!..

Астапчуковы мары перарываюцца раптам. Дзяжурны па заставе—бялявы, вастраносы камандзір, зьявіўшыся ў дзьверах Ленінскага кутка, дзе Астапчук спаборнічаў у шахматы з тава-

рышамі,—назваўшы два-тры прозьвішчы, клічаі Аступчука ў тым ліку да начальніка, у канцэлярыю.

У канцэлярыі гутарка з начальнікам кароткая, ясная, як дзень. Цёмныя васеньнія ночы вымагаюць асаблівай пільнасьці. Парушыцелі дзяржаўнай граніцы могуць выкарыстаць цемень начную і прайсьці праз мяжу няпрыкмечанымі. Для ўзмацненьня аховы вырашана пасіліць варту...

І вось стаіць Астапчук на варце.

Ноч. Чорная яна, гэта восеньская ноч. Крумкач распасьцёр свае чорныя крыльлі над ахутанай зольлю ды туманамі зямлёю. Чорнай высокай сьцяной вырас ля граніцы лес. А Астапчук прытуліўся да хвоі і стаіць ён нярухома, моўчкі, адзін.

— Ну і ноч. Такой ноччу... чаго добрага...

І колькі не ўглядаецца Астапчук у цемень начную, далей дзесяці крокаў нічога ня відно.

Ледзь чутны шорах у хмызьнякох данёс да Астапчука парыў пагранічнага ветру. Да болі ў вушах пачаў прыслухоўвацца Астапчук. Але шорах, як раптоўна быў пачуты, так раптоўна і зьнік. Астапчук прыслухоўваўся ўжо ўсёй істотай. Яму хацелася яшчэ раз пачуць гэты шорах. Ад напружаньня ён нават прыжмурыў павекі вачэй і пераступіў з нагі на нагу.

Здарылася нязвычайнае.

Проста на яго, на Астапчука з начной цемені ляцеў перапуджаны, гадавалы лось. Ад нечаканасьці Астапчук ледзь быў ня прыставіў да плячука вінтоўку, каб выстраліць па жывой цэлі.

І ўсьміхнуўшыся так, як чалавек можа ўсьміхацца тады, калі ён адзін, Астапчук быў рад за сябе. Толькі на граніцы, дзе нечаканасьці сьцерагуць пагранічніка на кожным кроку, арыентыроўка ўзьнікае зараз-жа сьледам за нечаканасьцю.

Спакойная развага аб тым, што лось сам па сабе ня мог так позна по-начы ўцякаць з свайго логава, навяла Астапчука на думку аб прычынах, што парушылі спакой жывёліны. Прычыны маглі быць розныя і адна з іх, галоўная—парушыцелі дзяржаўнай граніцы. Не здарма-ж начальнік заставы пасіліў варту...

Астапчук робіць некалькі крокаў па свайму вучастку. Жудасная цішыня. Вецер даносіць з глыбі пагранічча сабачы брэх. Гэта адтуль, з пагранічнай вёскі. І зноў цішыня. Аднак, думка аб выпадку з лосем не дае спакою. Думка—такая назола. І Астапчук прыслухоўваецца. Ён чуе шорах сваіх ног, ён адчувае напружанасьць мышцаў на шыі, ён чуе боль у вушшу.

— Няўжо-ж гэта так сабе... без дай прычыны?...

Нечы прыглушаны шэпт, нечая гутарка з граніцы данеслася да слыху Астапчука. І зьнікла зноў. Няўжо гэта паказалася яму? Ня можа гэтага быць. Сваю чутнасьць Астапчук правяраў ня раз. І данеслася да Астапчука ў другі раз толькі адно слова:— „Ужо“... і пагасла ў хмызьнячку, што насупроць.

Узятую „на руку“ вінтоўку моцна сьціскаюць пальцы.

Ветрам разносіць у галаве думку—„Толькі-б не прапусьціць... І хто гэта там? Быць можа са зброяй?.. Колькі іх?..“

Ціха, ціха крочыць Астапчук у абход.

„Хто-б там ні быў, а адрэзаць шлях ад мяжы, такая задача“!..

Астапчук спазьніўся са сваім плянам. Раней за яго гэты плян ажыцьцявіў сусед па вучастку. І тады моўчкі, у двух з найвялікшай асьцярогай яны шпаркімі крокамі пайшлі на парушыцеляў. А вакол чорная ноч, і кожны куст—быць можа здраднік...

— Стой!—прыглушана, але настойліва гаворыць Астапчук і чуе адказ:

— Я, братка, свой.

Ня стрымаў Астапчук:

— У такую цемень, ды на граніцы ніякіх сваіх у нас няма.

— Няма?..—гэтае, поўнае жалю і скаргі „няма“ пачуў Астапчук ад жанчыны з маленькім хлапчуком на руках.

І далей, узнэрвавана, голасам поўным жальбы і скаргі гаварыла жанчына, спыняючыся на кожным слове:

— З сынам я... адтуль... да вас уцякаем...

Жанчына плакала сьлязьмі буйнымі і туліла ў падраную посьцілку свайго сына маленькага.

А ўсіх іх было пяцёра.

— Мы самі да вас...—абыякава гаварыў адзін з парушыцеляў, відаць—муж жанчыны.

— Значыць, мы ўсёй сям'ёй да вас...

Астапчук з суседам-пагранічнікам рабіў вобыск. Ён ні слова не сказаў парушыцелям. Ён выконваў вялікі ганаровы абавязак вартаўніка дзяржаўнай мяжы.

І гледзячы на рызманы, на ўбоства гэтых худых, чорных згаладаных, змучаных пакутным жыцьцём людзей, Астапчук глыбока, на ўсе грудзі, уздыхнуў:

— Эй, ты ,суседка, не з дабра паўзуць ад цябе ў такую цемень, у такое надвор'е, сем'і галодных людзей...

Так Астапчук толькі падумаў. Ён ні слова не сказаў, а проста гэстам рукі загадаў парушыцелям ісьці на заставу.

Раніцой, на заставе, Астапчук расказваў пра здарэньні на пасту.

— Ну, ужо-ж і ночка... Проста погань...

— Так, надвор'е паганае... Горшага ня выдумаеш...

— Хутчэй бы зіма прышла...—гаворыць Астапчук, дапіваючы кубак гарбаты, і лірычна ўсьміхаецца:

— Люблю зіму...

А на заўтра выпаў першы сьнег.

**АЛЕСЬ ДАВІДОВІЧ**

# УСТАВАЙ!

**Сто раз мы ўжо бітыя,**
**У сто першы паўстань!**

***Алазар Кам'ях***

Пурпуровую завею
Наквяці садоў
Ветры буйныя разьвеюць
Ў незваротны схоў.
Людзі стрэлі бляск маланак,
Як вясну і сьмех,
А у сьвісьце павіванак
Зрэзаў плечы стэк.
Сойм фіксуе тлустым сокам:
„Ў іх вясны няма
Яны любяць: склеп, мароку—
Ім жыцьцё—зіма“.
І папоў сытныя вёсны
Чадзяць галаву,
І рабочых дзяцей дзёсны
Цэдзяць крапіву.
Аднастайным зломным ходам
Сьмерці йдзе экспрэс.
За замкнутым-жа заводам
Цьвітуць ружы, бэз.
Пралетары мейсц Варшавы,
Ўзьняўшы к сонцу твар,
Каляровасьцю крывавай
Фарбаваў штандар.
Выйдуць з ім і стрэнуць ранак
Чалавечых рэк,
А ў сьвісьце павіванак
Зрэзаў плечы стэк.
— Нас завошта б'юць балюча,
Мы тутэйшых месц,
Ўчора дрот вілі калючы
Дзеля ўласных сэрц.
— Фармаваў і я гарматы

Стомай сваіх рук.
І на фронт пайду салдатам
Без нагі і рук.
— Дайце мне галінкі ружаў,
Водыр тапалёў,
Я ў крывавай тхлані лужаў
Не пазнаў любоў.
Гэй, вясна, сухотным грудзі
Працінай цяплом.
Бляск маланак стрэлі людзі
І магілай—дом.
І у роспачы брат любы,
Што зьвіваў драты,
Вар‘яцеў і бег да згубы
Ў панскія сады.
У садох гуляюць дзеці
Сытых баранэс.
— Мой каханы сыне Мэці,
Хлеба крошкі еш.
Я фармую стан гарматаў
Кроў вяшчае бунт,
Я ня маю больш дукатаў
Купіць хлеба хунт.
Будзе ў Мэці хлеб і бэзы
Крывяных заніз,
Як узьніме сьцяг гарэзны
Варшава й Парыж.
Як на зброю возьмем права,
Права ўсіх акрас,
Потам змочаны крывавым
Хлеб наш будзе ў нас.

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ *)

## 1. Ціхія сялібы.

Старая хата Міронава яшчэ больш пацясьнела, калі перабраўся жыць у падсуседзі Трахім з сям'ёй, фальваркоўскі. Бразгалі бабы чыгунамі, ёмкамі чапляліся, але сяк-так гаршкі свае пазнавалі, у чужыя ня лезьлі. Покуль цёпла—жыў Трахім у сенцах. І не зайдросныя сенцы, а з ґорам напалам упарадчыцца можна.

Напрэй зайшоў. Пахмурны, суровы.

— Дык жывем, кажаш?

— А ўжо-ж...

— Хлеб панскі кінуў, кажаш?

— Кінуў. Горкі задужа...

— Да яно так, не салодкі. І чаму-ж гэта нешта так?

— А йдзі ты папытайся ў яго, упраўляючага. Яму як усьсядзе што ў голаў, дык не заспакоіцца, пакуль тое ня зробіць.

— А ўсё-ж?

— Вот табе і ўсё-ж. Другога парабка на маё месца ўзяў. Мірон от кажа, што шваграа лясьнікова, швагра таго Сідара, з кардону. То та я гляджу, зачасьціў Сідар у двор. То цецярука прыпрэ, то зайчыны. Мусіць жа то просьбу яго і ўважыў. А мне раней усё думалася, што за коні... Думаў, што й сапраўды за коні прагнаў ён мяне. Ды хто ў іх вінаваты, даўно кажалупаў шукалі, каб да парадку тых коняй прывесьці—адна быдляціна—скура да рэбры...

— Та-а-ак... Так яно было, так яно і будзе... І раней, і цяпер, і мусіць-жа і надалей...

— Што гэта?

— Ды тое-ж, што з табой... Сьвет, браце, у нас на тым і стаіць: адзін гарыць, другі пры ім с.... грэе... Вот мяне ў каталажцы пратрымалі дні са два, клапамі ўсё пагражалі. Не-э..., браце, ня тыя клапы нам боязны... Вот дзе клапы, вот дзе яны тыя крывасмокі, каторыя кроў нашу ссуць. А высасуць—кідаюць вон. Як муху павук выкідае з свайго павучыньня, каб не

*) Працяг, гл. „Полымя Рэвалюцыі" №№ 2-3, 4, 5, 6.

засьмеціць яго здыхляцінай, цьвільлю. Цьвіль мы, браце, з табою на зямлі, самая што ні на ёсьць цьвіль. І здохнем от так...— сплюнуў і нагой расьцёр.

— Вот гэта, круці яго печані, правільна сказана. Ну й сказаў, дзядзька, у самы-ж раз...—І Лявончык, сын Трахіма Сапуна, аж затросься ўвесь, ні то ад радасьці, ні то ад спачуваньня словам гэтым.

— Але ўсё-ж няправільна вы гэта аб сабе, аб нас. Якая мы цьвіль? Ад нас-жа ўсё йдзе. І хлеб усім—мы даём. І паном, і прыставом, і папом, і царом...

— Ну, ты пачаў ужо вярзьці нямаведама што. Мы-ы да-а-ём... Падумаеш. Поліўку забяліць, і то скупа, дык ён дае... Ё-о-н дае... Давацель такі знайшоўся... Бог дае... Каму і як...

— Кіньце вы, татка... Вам-бы ўсё гэта: панок, паночак, да ў лапы тыя паганыя—бусі...

— От сьмелы знайшоўся!

— І сьмелы! Хваробы, каб гэта я да перад ім хрыбет гнуў, не дачакае таго... Ёсьць работа, буду рабіць, а кланяцца?—не ўжо, другім разам, як той казаў... А што бог там, дык дужа ты, татка, бачыў тэй дапамогі боскай. Петуешся як вол, а дзеці вунь ходзяць, як летам, так і ўзімку ўсё ў гусіных ботах чырвоных... А вунь твой паніч дарагі хіба толькі і пацее над талеркамі, а чаго яму не стае? Нешта-ж такі задужа літасьцівы да яго твой бог?

— А на гэта ўжо яго воля сьвятая...

— І дурасьць твая векавечная... Ты ўжо ня крыўдуй, татка. Багі твае, відаць, панскія...

— А хлопец праўду кажа, што і не кажы, Трахім. Маладзейшыя яны, брат, неяк, глядзяць шырэй. Ты гэта пад сябе глядзіш, пад ногі ўсё, а яны ад сябе... Бачаць больш, куды яно й што... Весялей з імі крыху. Такі-ж от сын у мяне Антоська, што забралі цяпер у салдаты. Як і твой—га-а-а-рачы—запалку прыткні—пшыркне. Няхай яму ўжо там пашанцуе.

— А за тое, што бацьку зволіў, я яму не дарую. Я ня буду, каб падараваць так...

— Зяпала зачыні, дурань... Ці можна-ж... Казаць гэта так...— І напалоханы Трахім кінуў позірк на дзьверы, ці прычынены хаця.—Ты ўжо, дзядзька Напрэй, ня слухай, што гэты дурань пляце... Наплявузгае яшчэ на сваю галаву...

— А няхай і скажа... Чаго там... Людзі-ж свае.

Прыслухаўся да гутарак Мірон, палохаўся крыху:—ну й набыў суседзяў. Дужа ён ня любіў няпрыемнасьцяй, гоману таго, зьвяганіны, спрэчак. Ціхі быў задужа. І калі што, людзям скардзіўся: „Паганы ў мяне характар, дужа паганы. Праз яго гібею няйначай... Слабы ў мяне характар...“. І ціхім характарам тлумачыў свае няўдачы і крыўды. Каторы год зямлю ў яго арандуе Цыбал. Зямлі тае—шворан пакласьці. Але ўсё-ж зямля і ідзе яна за панюх табакі. Арэнды тае—паўмяха гароху, бульбы там трохі, абы адчэпнае. Мала, задужа мала.

Але дзе-ж ты дасі рады. Дагаварыліся так. Як-жа гэта слова мяняць. Праўда, калі гэта яшчэ дагаварыліся... Ізноў-жа, адкуль ты болей і возьмеш. Яна самому зямля гэта, бадай, без карысьці, хіба ўскалупаеш яе без каня. Ну, а Цыбалу яно адно да аднаго—і карысьць мо' якая ёсьць.

— Галоўнае, спакой. А пражыць—мо' яно як і пражывецца. Шчэ' каб паміраць, дык да гэтага далёка...

---

Нядзеля была. Толькі, толькі каровы павыганялі на выган. Рыпелі журавы калодзежаў ды з каміноў хат віліся істужкі празрыстага дыму, купчыліся ў гары, раставалі там, дзе паблісквалі на сонцы срэбрынкі павучыньня. Дзень быў цёплы, пагодлівы.

Торапка бег Сяргей, аж засопся. Бег і крычаў:

— Паймаў-жа, браткі, дальбог паймаў...

І твар яго быў радасны, сьветлы. Нібы іскрылася радасьць гэтая з яго, цьвіла на ім. Ля Алтэравай хаты прыпыніў крыху бег. На ганках Алтэр стаяў, даставаў папяросу, прыкурыць цэліўся. Пачуўшы голас Сяргея, паклікаў яго:

— Дык нясі хіба да мяне, калі паймаў... Што там Мірон, а мо' сома падцэліў?

— Ужо ж паймаў...

З крам каторыя падбеглі: Еўніха, руды Абрум, Чырванец падыйшоў, манапольшчык—зацікаўленыя, у чым-та чалавеку пашанцавала.

— Лявона паймаў...

— Што ты вярзеш, якога Лявона?

— Да нашага-ж, Ражка... Дзён з дванацаць, бадай як загінуў, дык от пад самай каражынай... Паехаў па шнур я, ставіў там... Гляджу, пад каражынай тапельнік ляжыць, я за яго...

— Слухай ты, Сяргей, табе я гавару... Ідзі ты, чалавеча, ад маёй хаты... Добры ты чалавек, і не скажу худога слова пра цябе, а толькі ідзі, братка, ідзі... ня стой...—І рукамі замахаў Алтэр, а сам хуценька ў хату, нават папяросу на ганку пакінуў. За Алтэрам і ўсе—ціхенька, ціхенька ды падаліся хто куды, па сваіх справах. Толькі Чырвонец застаўся, запытаў:

— І што ты з ім думаеш рабіць?

— Як што? Начальству-ж трэба сказаць, няхай парадак дадуць, да закона чалавека прывядуць.—І сам рукамі разводзіў:—ну й народ, ну й людзі. От табе, беднаму чалавеку і памры, дык і пабягуць усе, у вочы табе зірнуць пабаяцца, вочы твае прыплюшчыць...

Пайшоў паціху па старасту, па вурадніка. Хутка ўзялі панятых, паклікалі фэльчара, старога Асроэла, на бераг пашлі. У чоўні, выцягнутым на пясок, ляжаў разбухлы, пачарнелы труп. Ужо нос пачаў асьлізацца, зацягнуліся мутнаю тваньню вочы, непамерна ўздуўся жывот.

— Уга, раздабрэў як ты, пане Лявон, гэтак-жа вады набраўся...—уздумаў пажартаваць Хвядос, але ніхто на яго жарт не адказаў. Скінулі шапкі, стаялі моўчкі. Стары Асроэл абышоў разы са два, агледзеў з большага.

— Патоп, тыдні са два як патоп. А прычыны якія, дзе ты даведаешся, віду ніякага ў чалавека, калі то пад ваду трапіў. Дзён з дванаццаць...

— Да гэта мы бачым, што ён патоп, ня з неба ўпаў, а з вады выцягнулі...

— А што-б вы хацелі больш?

— Да нічога, — буркнуў вураднік, — трэба вот пратакол скласьці.

— А вот і шапка,—заўважыў Сяргей,—там жа з ім разам знайшоў. Ён пад каражынай, а шапка ў руцэ, так і прыбіла яе вадой пад карэньні разам з рукой. Так і трымаў у руцэ шапку Лявон... І калі ўжо даставаў з вады яго, дык шапка з пальцаў высьлізнулася, дастаў ледзь...

— Нешта-ж не яго быццам і шапка, штосьці ня бачылі такой... У яго-ж была салдацкая, звычайная от лапавушка, зімоўка. Дзе ён дастаць мог такую, бачыш, з зайца...

— А ну, давай шапку сюды, мне яе, брат, да дакумантаў. Разам і здамо, з пратаколам разам.

Мірон, якому выпала быць за панятога сягоньня, прыглядзіўшыся пільна да шапкі, аж войкнуў быў нешта, але схамянуўся.

— Чаго гэта ты?

— Ікаўка, бачыце, напала...—а пра сябе:—дальбог жа Сідараясьніка шапка, шчэ залетась зайца забіў і пашыў потым. Адылі ліха яго ведае, чаго-б гэта яна да Лявона патрапіла. Ды й ці мала шапак тых. А ты патрапіся языком—да чалавека чапіцца будуць, трывожыць дарэмна: што да як... Ліха яго ведае, чыя гэта шапка...

Паказалася шапка падазронай і старасту, ды прамаўчаў—вялікі то клопат.

А сам вураднік, калі адвезьлі Лявона ў капліцу на клодаўі, каб пахаваць раніцой, сеў на буланага свайго ды падаўся у фальварак да самога Мацьвея Юльевіча. Запрогшы каня ў лінейку для ўпраўляючага, езьдзілі абодвы на кардон да Сідара. І ў выніку паездкі той трапілі ў кішэню вураднікаву аж цэлых дзьве пяцёркі залатыя. Гэта ад упраўляючага. Але сякія-такія гаспадарчыя разьлікі меў вураднік і ў дачыненьні да Сідара.

— Што, што, а пара подсьвінкаў будзе, даўно ўжо баба назаляе: набудзь, да набудзь ёй подсьвінкаў добрых, каб кірпатыя былі... А подсьвінкі ў яго важнецкія. І пасека нішто ў яго, у халеры. Паспрабуй-ка, адмоўся цяпер начальства пачаставаць мёдам тым лесавым. Уга...

І ў вясёлым настроі вураднік доўга карпеў над пратаколам. Каб сказаць, дужа тая грамаць у яго ўелася, не сказаў-бы. Але

і не ў грамаце справа была—трэба было як найлепей, ямчэй дакумант гэты скласьці. І ўрэшце склаў такі, падпісаўся, прачытаў:

„Сяго чысла мела месца здарэньне ў мястэчку. Сяргей, ён-жа рыбалка, ад'ехаўшы раніцой на воды, заўважыў на водах гэтых нейкае іншароднае цела, онае ў сапраўднасьці аказалася целам, прыналежным селяніну гэтага-ж мястэчка Лявону Ражку, трыццаці шасьці год ад роду, які дванаццаць дзён назад патоп ноччу ў вышэйпаказаных водах, ня меўшы магчымасьці адтуль выбрацца. Панятыя, оных стараста паклікаў на прадмет сьведак і навучна-мэдыцынскага агляду, устанавілі, што оны труп—цела памянёнага Ражка—сапраўды патоп без усякіх адзнак жыцьця, гэта значыцца на трупе. А як ён патоп: ці шляхам самавольнага пагружэньня ў ваду і немагчымасьці адтуль выбрацца на сухі бераг, альбо ўпаў па неасьцярожнасьці ў памянёныя воды і, зноў такі, ня мог адтуль выбрацца, ці трапіў туды па чыёй небудзь злой волі—гэтага ўжо ні панятыя, ні я—ураднік—устанавіць дасканала не змаглі. А таму і дадзены мной загад, каб адвезьлі на клодаўе ў капліцу і каб пахаваць яго зараз-жа па прычынах няўхільных клапот нашых па абароне здароўя ўверанага мне насельніцтва. Аб чым і складзены гэты пратакол.“

Прачытаўшы, доўга думаў, які загаловак паставіць на такім важным пратаколе. Поркаўся ў справах свайго папярэдніка, але нічога агульнага не знайшоў у старых пратаколах. „Пратакол аб пабіцьці морды,“ „Рапарт аб хуле на госпада бога“, „Пратакол аб дзякавай курыцы, якую зьверскім чынам забіла пападзьдзя“, цэлая процьма нядоімачных спраў, а тапельнікі не траплялі ў рукі.

— А напішу от „пратакол аб тапельніку“, няхай начальства само разьбіраецца...

Пра шапку ня пісаў.

А на кардоне яшчэ доўга, бадай з паўгадзіны жучыў Сідара Мацьвей Юльевіч. Ушчуваў:

— Ну, і надаўбень-жа з цябе, каб гэта да клопаты лішнія набываць. Дзе-ж твае вочы былі? Хіба ня мог от проста са стрэльбы забіць, тут яму й суд і закон. Бо сказаў-бы потым, што напаў на цябе, лес крадучы. І хто-б на цябе слова сказаў-бы. А так і ў Сібір запакаваць могуць, калі скажам, даведаюцца...

— Ды я-ж... Ня ведаю, як трапілася яно... Такі-ж, даруй божа, выпадак...

— Глядзі-ж, дурань, каб надалей мне такіх жартаў у лесе не выраблялць.

— Слухаю, паніч... Ніколі ўжо такое ня трапіцца са мной...

— Глядзі-ж!

---

Прыходзіла ў капліцу Гарпіна, жонка Лявонава. Доўга ўзіралася на твар, на ногі, што тырчэлі з-пад дзіравай дзяругі. Нема білася ў плінтусы дзьвярэй і, сеўшы на ганку капліцы, глядзела без усякае мэты на мястэчка, на сінія лясы навакол, на пяшчаныя бугры, курганы тыя над Дняпром—от жа ўлетку сонца на іх пячэ, як зірнеш у дзень ясны—нібы пара над імі сьветлая, празрыстая, трапяткая. Трымціць, пераліваецца. Намагалася плакаць, але толькі балелі вочы, высахшыя і пачырванелыя за гэтыя дванаццаць дзён. Зайшла ў хату к Мірону па Яўхіма.

— Яўхімка, вазьмі ты, галубок, сьвечку якую, да йдзі ты хаця псалтыр пачытай. Няхай-жа як у людзей. А я ўжо табе ва сарочку чаго-небудзь адрэжу, ці штаны якія там Лявонавы...

— А ня зломак, і так пачытае...—мармытнуў з кутка Мірон,— ідзі ўжо, няхай яго душы лягчэй будзе.

Хацелася Мірону ня пусьціць Яўхіма—дужа там псалтыры чалавеку дапамагуць. І часта папікаў ён Яўхіма за справы боскія і за клірас, за псалтыр. Але не адважыўся, і жывым папрокам думкам яго была постаць Гарпіны: шукалі вочы яе дапамогі ў людзях, падсобку таго, падтрымкі, слова таго суцяшальнага.

А раніцой, калі закопвалі Лявона на клодаўі, курчылася ў сутаргах Гарпіна на сваім рыпучым ложку, нема крычала, сьцяўшы зубамі дзяругу. У нагах корпалася заклапочаная Агапка—бабка-аднавочка. І вот ужо сьлед бледай усьмешкі асьвяціў канапаціны змучанага твару, ды засьмяглыя вусны прашапталі глуха:

— Ну як яно, бабка, там... Хлопчык? Дзяўчынка?

І ўсьмешка разгарэлася на твары, шырылася, адпачывала стомленае, спакучанае цела.

Павярнуўшыся ад вакна, праказала бабка:

— Нежывенькае, мая ты маладзіца. Не шанцуе, бачыш, табе... Хлопчык, але-ж ня дыхае...

Усьмешка на твары згасла, пашарэлі на ім калапаціны. Ды ўздых глыбокі коўдру прыўзьняў, апусьціў.

— Што-ж, бабка, трэба і за гаспадарку брацца, трэба-ж і мужыка праведаць на клодаўі...

— Ляжы ўжо, дурная, ня кратайся. Дзіва-то гэтулькі папакутвала... А Лявона пахавалі ўжо. Ляжы... Печку сяк-так я выпалю. Аддыхай хаця...

---

Думка аб жаніцьбе Банадыся не давала спакою Хвядосу. І лепшае пары, як у Цыбала Івана, не знайсьці яму. Да работы спрытная, ведае, як гаспадарку весьці, а дзе, дык і мужчыну не саступіць. Што касавокая трохі, дык ад таго-ж галава балець ня будзе. А галоўнае, грунт тады. Ды яшчэ які. І так яно пад нагамі цьвёрда, а тады й не падходзь, калі гэта з Цыбалам у саюзе. Згава-

рыцца от хіба, каб з мядзьведзем гэтым. Яму як у пень таўчы— упрэцца, і хоць ты аглоблі ламі. Не чалавек, а шуло тое дубовае. За тое-ж рукі, дасьціпныя, нечага сказаць. І нярухавы, здаецца, сам, а як павернецца, так усё да яго і ліпне, да рук да яго.

І кожнага вечару заглядаў да Івана.

— Дык як-жа, пане Іване, будзем сватамі, ці бо ня суджана нам...

— Ды яно, пане Хвядос, і бог нам судзіў... Ці я супроць? Яно, канечна, нязручна толькі мне. Каб гэта вот у прымы ўзяць, яно-б лацьвей было, куды лацьвей для мяне, бо ці мне-ж з гаспадаркай такой управіцца?

— Уга... Даніла вунь падрастае.

— А што яму, смаркатаму. Яму абы яшчэ з гаспадаркі цягнуць, капейчыну якую на цукеркі. Ужо гаспадар з яго... Але я ўжо думаў, думаў, і сяк і так узважыў... І нічога, браце, ня выходзіць, прыдзецца такі аддаць, гэта, дачку маю за твайго Банадыся, хіба ўжо сватоў шлі...

— От бы й подаўна так...

Сьвятым адвячоркам Хвядос сядзеў з Цыбалам і строіў яму ўсякія пляны.

— Усё сяло так, браце, у рукі возьмем, пішчом пішчэць будуць, аж пацячэ з іх...

І ён сьціскаў свой валахаты кулак і распускаў пальцы, паказваючы Цыбалу, як то яно цячы будзе.

— Да яно ўжо так...

— Ты, пане Цыбал, ведаю я—крэмень чалавек, ня скажаш дрэннага слова і пра мяне. Аднаму от мне нязручна трохі, а калі гэта мы, скажам, удвох—тады паспрабуй пад корань нас падчапіць, каб з месца гэта зварухнуць. Удвух яно лягчэй і зямлі яшчэ прыкупіць, ці ў арэнду ўзяць часам, і хлеб той прадаць ямчэй. Ды што хлеб. Можна й млын вунь паравы згараць, дужа-ж дабытлівая штука гэта, не параўнаеш ні з чым.

— Млын яно, пане Хвядос, як сказаць яшчэ... Як патрапіш. Млын, браце, гэта табе не малатарня, тут і ўскочыць можна, агрэхі зрабіць...

— Ня зробім... Удвох, браце, ня зробім. А ня хопіць грошай, у банку пазычым, а то куды няйшло,—і ўжо цішэй,—і папа можна да справы прыцягнуць. Ведаю, даўно гэты млынок у яго з галавы ня выходзіць, не асьмеліцца от толькі. А ў кампаніі ён ніштовато будзе, і грошай у яго тым часам хапге...

— З млыном, пане Хвядос, ты ўжо як хочаш. Гэта-ж дужа рызыка тут вялікая... Ты ўжо сам як-небудзь. А вось наконт зямлі, дык у мяне згода. Чаму-б якога кавалку не прыгарнуць яшчэ да сваіх палос—еесьці-ж прасіць ня будуць. А з млыном не таварыш гэта я, не.

— Ну пажывём, пабачым... Дык прысылаць, кажаш, у сваты?

— Да ўжо-ж... Няхай яно ўжо так... Адным-жа разам, калі рабіць да трэба, не абыйдземся ўжо... Хоць той клопату, і прыбытку таго — не сказаў-бы — каб у гаспадарку задужа... Дык-жа прысылай ужо...

---

Пасьля дажджу твар у Валодзькі, як лапаць той ліпавы, новы. Жоўты ад загары, нос лупіцца, так і паўзе шматкамі. Дыміць на сонцы мокрая шапка, шэрая, з лямца бітая. Ды з-пад шапкі ліпнуць кудлы валос, каўтунамі вісяць жаўцявымі. Як мёдам іх з воскам памазалі—колер такі. А барада тая — званьне адно: валасіна за валасіну не засіліцца. З-пад далоні ўзіраюцца шчылінкі воч на лагчыну, на ўзьлесак, на поле бліжняе.

— І дзе-б яму собіла, халера яго вазьмі?

І зноў уважліва агледзеў статак. Авечак ня лічыў, да бараноў прыглядаўся. І колькі ня браўся — аднаго ўсё-ж недаставала, як чорт яго ўхапіў, даруй, божа.

— Ня можа быць, каб адбіўся. Как то авечка, а то-ж баран... А можа воўк? Ды зноў-жа ня можа быць... Тут яны звычайна не трапляюцца.

І зноў аглядаў поле ўважлівым позіркам жаўтавата шэрых выцьвілых воч. Але поле было чыстае, як ток. Калі то ўжо жыты пазвозілі. Толькі курылася пара над ім, празрыстая, трапяткая. То прыгравала сонца-хоць і восеньскае, але-ж высокае яшчэ. І да самага лесу было чыста, як на выгане тым. Чыста было і ў лагчыне. Агледзеў яшчэ раз і ўздыхнуў. І тады пацямнелі зьлёгку вочы, з жаўцява-шэрых набылі адценьне сваё, асаблівае, колеру таго чуць-чуць зелянявага.

— То-ж удача, дай ты рады...

Статак быў панскі, а таму і прычын хваляваацца было куды больш, каб баран, скажам, свой быў.

— А мо' да вечару і прыкульгае адкуль... Хвароба яго ведае... Не казаць-жа адразу, а мо' й не заўважаць... Ды дзе ты яго не заўважыш, калі чатыры ўсяго. Было чатыры, тры стала.

„Дзе, скажуць, падзеў, ідал... Зарэзаў няйначай, украў...“ Але казаць аднак ня буду.

Але калі праз тыдзень зноў зьнік баранчык адзін—заўважылі. Да самога „паніча“ запрасілі.

— Ідзі ўжо, браце, да яго, да самога...

Мацьвей Юльевіч на ганку сядзеў. Пазяхаў, балазе ноч з-за кустоў просіцца.

— Ну, падыйдзі, падыйдзі, Уладзімер... як там бацьку твайго?

— Ахрэмавы мы...—ссутуліўшыся прамовіў пастух і змоўк. Кепскія гутаркі з заразай гэтай, калі пачынае бацькоў пытацца...

Той устаў. Сунуўся паціху з ганку, і на твары яго хоць-бы жыўчык які прамільгнуў, да таго-ж гэты твар нярухомы, не ўгадаеш, аб чым ён думае гад. „Як воўк той да авечак падкрадаецца“—мільганула ў думках Валодзькі. І ўрэшце, стаў

насупраць, пацягнуўшыся наперад, у самыя вочы ўныпіў буркалы свае, вызьвярыўшыся. І як вокам міргнуць, ухапіўся Валодзька за вуха апечанае як варам. І не варушыўся, на нагах трымаўся.

Іначай горш, яшчэ больш разлуецца, высьпяччa пачне даваць... Няхай ужо ахвоту спагоніць..

Той-жа біў моўчкі, наводліў, усё стараўся каб патрапіць ямчэй, каб больш жорсткі ўдар быў, востры, калючы. Ледзь рукі свае ня скрываніў, трапіўшы косткамі рукі ў Валодзькаў падбародавік.

Стаяў Валодзька, апусьціўшы рукі, да пакручваў галавой—каб-жа ня ў вока, крый божа. Стаяў і думаў. І думак, тых—роіла цэлае. Узяў-бы, здаецца, да гэтага гладкага, да аберуч, да галавой аб прыступкі каменныя—на тую-б ляпёху ўдрызг, у кароўю. Толькі-б мокрае месца засталося... Ці хрыбтом аб слупок—і ня піснуў бы, воўчае рыла. Ці ўзяць за нагу, да стаць на яе, ды за другую—разарваць як жабу балацяную, як квокала тое... Уздыхнуў і глуха—нібы ня з грудзей і словы гэтыя:

— Даруй, паніч, ні душой, ні целам не вінаваты...

— Злодзею каб даравать? На-ж табе ад бацькі твайго, ад Ахрэма, ці ён-жа на цябе, на злодзея спадзяваўся?

Пазелянела ў ваччу, ледзь ўстоіў, сьліну праглынуў, салоную...

— Ты ўжо ў мяне будзеш ведаць, як авечкі красьці... Згнаю, паскуда, у турме згнаю... Бач ты, да чаго народ разьбязуліў, сярод белага дню, на вачох у цябе, можна сказаць, дабро псуе, дабро нішчыць, ці імі-ж нажыванае... Ідзі... Да калі хоць раз яшчэ здарыцца што, тады на сябе крыўдуй—скуру спушчу...

Адпусьціў, але на сяле, дзе жыў Валодзька поплеч з Мялавым Сілівонам, усю хату ператрэсьлі, хляўчук, саваліся ў суседнія гумны.

Пыталіся фальваркоўскія, з сяла пыталіся:

— Дзе-ж ты, браце, падзеў іх усё ж такі?

— А дай ім рады... Каб-жа то я ведаў!

І ўсе ведалі, што не такі ўжо Валодзька чалавек, каб на якую авечку зарыцца... І ў раду яго ня было такога... Колькі то год на сяле пасьвіў і заўсёды-ж яно парадкам у яго. Спачувалі... А Лявончык—от гніда—сустрэў, сьмяецца:

— Адчалахвусьціў, кажаш, натоўк? Іш і пыса ў цябе дзядзька, ня пыса, а макацёр той цэлы: кладзі сьмятану...

— Сьмяешся, ірад, каб ты ўжо кроўю заліўся...—адказваў са злосьцю.

— Эх, дзядзька, дзядзька! Сьмяшкі нашы сьмяшкі, каму то іх толькі ведаць...—і кінуў кепікі строіць.

Зразумей ты басату гэтую...

---

Жвенькалі людзі пра шапку.

І тое, і другое вярзьлі. Паміналі Сідара, узгадвалі на Хвёдара Жаранка—колькі то сядзіць бяз віны вінаваты.

— Чужыя грахі, небарача, пакрывае.

Мірон Напрэю прызнаўся, што бачыў тую шапку, сам на свае вочы бачыў, не Лявонава то шапка была...

— Чаго-ж ты не казаў тады, як паняты?

— Братачка, да душы-ж баяўся... Бачыш, яно сказанеш, а за чалавека і пачнуць брацца і часам за нівошта за каўнер возьмуцца. А я, браце, ціхі чалавек, не дазваляе характар, па слабасьці сваёй, дужа-ж характар у мяне слабы...

— Табе от заслабіла, а чалавеку сіло на шыю ўзьдзелі. Паглядзеў бы цяпер на дзяцей, гарэтуюць дзеці, за нішто гарэтуюць...

— Да яно-ж ужо так... Каб гэта я да...

— Толькі-ж і ведаеш: каб да каб... „Кабы" гэтыя і губяць нас.

Быўшы ў воласьці — траяк насіў на пошту, сыном каб адаслаць,—памкнуўся быў да старшыні, каб-жа неяк пра справу расказаць, а мо'б і толк які, нашто-ж чалавеку гора несьці за нівошта. Ды ня выйшла нічога. Суд няйначай ішоў—п'яныя былі і старшыня, і пісар. Патрапіў выпадкова на земскага начальніка, шапку зьняў, прыпыніць асьмеліўся.

— Чаго табе, стары?

Пачаў расказваць. Той нецярпліва пацінаў плячмі, да коняй сьпяшаўся, да фаэтону.

— Ну, шапка, кажаш? Падумаеш—выдумаюць чорт іх ведае што... Дык пасадзілі, кажаш? І добра... А што-ж ты хочаш, каб закон душагубаў мілаваў...

— Да я не аб тым... Шапка от...

— Кінь ты, стары, глупства цягнуць, да і мне некалі... Закон, брацец, на тое й закон, каб злачынец сядзеў. На тое і закон, каб баяліся. Іменна, каб баяліся. Каб распусты гэтай, душагубства ня было...

— Да яно...

— От-жа я й кажу... Ну, усяго стары...

— Як відаць, з імі да ладу ня дойдзеш...—нацягваў сваю лапавушку Напрэй, пазіраючы на чабаты, якія сьпяшаліся ўніз па ганках, пераскакваючы праз цэлыя прыступкі.

---

Ноччу ня стала з панскага хлява каровы аднэй. Бадай найлепшай каровы. Наймічка, якая даглядала кароў з вечару, галасіла на ўвесь двор—то-ж кара будзе, то-ж кара будзе.

— Ціху ўжо ты, суніміся... Ці ты-ж іх вартавала ноччу, ці што... Клопат табе...—суцяшаў яе Мірон.

— Канечна мне, а не табе...

Сам Мацьвей Юльевіч замкі аглядаў, дзівіўся. Быў вывернуты прабой і зноў закладзены, каб неўзаметку пакінуць. Шукалі сьлядоў. Але дзе ты іх знойдзеш, калі гэтулькі то народу шныпарыла, на замкі дзівілася.

Ужо хацеў Мацьвей Юльевіч пастуха паклікаць, Валодзьку— а што калі ён ды зрабіў гэта. Але, памеркаваўшы з хвіліну, адкінуў гэтыя думкі—навошта Валодзьку праз замкі лазіць, калі ён днём от увесь статак пасе, што захоча, тое і зрабіць можа.

Шукалі сьлядоў па двары, па агародах, па садзе. Знайшлі толькі сьлед адзін—ляпёх цэлую ля рэчкі. Відаць, вялі праз сад за рэчку. А далей ужо алешнік пачынаўся, а за ім і лес. У лесе дзе яе знойдзеш карову, асабліва, калі з-пад замка яна ўзята. Так табе й дасцца ў рукі. Мацьвей Юльевіч вярнуўся ў пакой, хадзіў знэрваваны з кутка ў куток, лаяўся ў голас. Ля дзьвярэй тупала Ганна.

— Рана яшчэ...

— Да я, паніч, не з абедам... А сказаць хачу от... І сорам аж казаць. Увесь хлеб пакралі.

— Што-о-о?

— Цэлых, кажу, чатыры буханкі, усё печыва... Як выняла ўчора з печы, так увесь няма ведама дзе і падзеўся... От жа з кухні так і вынес нехта, праз вакно няйначай, бо вокны не зачыняліся, а я ў баковачцы спала.

— Ідзі, дурніца... Пераспускаліся, ліха вам у печані. Вот ужо я падзаймуся вамі. Папрыкручваю хвасты. А вурадніка трэба паклікаць. Бо гэта ўжо чорт ведае што робіцца. Сягоньня карову да буханку хлеба, заўтра каня, а пасьлязаўтра і да цябе дабяруцца. Аднак, хто-б гэта мог на такую нагласьць пайсьці? Ну й пападзіся ён толькі ў рукі...

На нач усіх на ногі паставіў варту несьці. Вышаў сам з дубальтоўкай і шпацыраваў паціху прысадамі парку, пакуль сон не змарыў.

— Так ён на цябе і папнецца злодзей—жартавалі між сабой парабкі.—Але-ж даўся гэты злодзей у знакі нашай заразе, аж не пагаліўся сёньня, з твару сышоў...

Раніцой на другі дзень прыяжджаў вураднік, нюхаў прабоі, ізноў шукаў сьляды.

— Бач ты сышчык... Як-жа, знойдзеш... Табе толькі ў баб матузы шукаць, ды й то з такой пысай ня дужа...—пасьмейваліся між сабой парабкі.

Вураднік езьдзіў па лесе. Ды дзе яго аб'едзеш, калі вёрст мо' на трыццаць цягнецца ён у адзін бок пад самую графшчыну. Ды графшчыны той колькі вёрст, хіба то іх хто мераў. Праезьдзіўшы з паўдня, назад зьвярнуўся.

— Да ні з чым, пан упраўляючы, не заўсёды-ж усё адразу, каб гэта вот выняў і паклаў. Але кожнае злачынства ня можа ад людзей схавацца, павінна быць выкрыта. Таму і ў зборы законаў...

— Панёс... Па-а-нёс... Годзе ўжо.

Патупаўшы колькі ў пакоі, пасунуў вураднік за дзьверы, падаўся на сваім буланым да хаты, увесь час крыўдуючы на свой лёс. Тое-ж жыцьцё, можна сказаць... Ты душой і целам, і на табе: заместа падзякі той, гаварыць з табой і то ня хочуць. Старайся от тут, здароўе псуй з мужычком гэтым, надрывайся дарэмна. А галоўнае—хоць бы табе які шэлег медны, дарма цэлага дня пратупаў.

Ноччу-ж зьявілася карова сама на двор. Праўда, не карова, а толькі скура ад яе. Прышлі даяркі да калодзежа, воду брацъ зір на жураў, а на ім скура прывязана, вісіць сабе, баўтаецца. Тыя і раты разявілі. Аж страх праняў: то-ж нібы жарты нячыстага, хто-б то мог думаць, каб гэта злодзей назад скуру пацёг. Дзівіліся, плячмі пацінэлі, прыбралі скуру тую...

— Няйначай у воласьць давядзецца зьезьдзіць, з прыставам пагаварыць...

Сьмяяліся на сяле, у мястэчку.

— Зьявіўся хапун у фольварку, каравячы хапун—схопіць уночы, праз ноч скуру зьверне.—Каторыя сьмяяліся, а бабам боязна. Прыдзе поначы патрэба якая на двор выйсьці, зор паглядзець, штырхае мужыка пад бок:

— Хадзем хіба ўжо, Мацьвей!

— Дзяцей хаця пасаромся, пыса паліваная... Глядзі, маладзік ужо ўзышоў..

— А як схопіць?

— Цэла будзеш... А калі што, язык пускай у ход. А ўжо любы хапун ад твайго языка зьвяне...

— Выдумае што...

— Ідзі, ідзі... толькі ад ганку далей...

— Каб табе ўжо сапраўды заляпіла чым рот твой паганы... Ляжыць от, бухціла, не паварушыцца...

— Во-во-во... Цяпер крый, браце, сьмела...

---

А вураднік над рапартам карпеў. Аб „лысай карове з фольварку, оная таемным чынам з чатырмя буханкамі хлеба зьнікла—оныя, відаць, праз вакно—і праз ноч зьвярнулася ў выглядзе сваёй уласнаручнай скуры, павесіўшы памянёную скуру на калодзежны жураў, з якавой прычыны на ўвесь фольварак была наведзена вялікая паніка і хваляваньні парабкоў. Хваляваньні даволі мірнага парадку, паколькі дзівіліся, як вышэйпамянёная скура магла над калодзежам апынуцца. Ніякіх сьлядоў злачынства, акрамя аднаго сьледу—і то ў задужа раскіслым выглядае, оны ніякаму майму аналізу не паддаваўся—знойдзена ня было, аб чым і даношу пакорнейша вашаму благародзьдзю“.

---

Вечары цяпер доўгія, доўгія—колькі той кудзелі можна выпрасьці. Але не заўсёды яно бывае—усё больш на людзей даводзіцца прасьці, не на сябе, на чужых. Смыляць пальцы сьлінячы бясконцу нітку, гудзе самапрадка—густым такім гудам.

І ў гудзе тым чуваць, як ціўкае понаж, як рыпае зьлёгку кола—хіба шруб от аслабіць. Ды й за вакном чуваць, як цурчыць са страхі—цярушыць дождж, халодны, восеньскі. Замурзаныя шыбкі цякуць сьлязьмі, і ў кроплях тых пераліваюцца водблескі пылаючых смалякоў на комінку.

На вокнах сум. Макрэдзь восеньская.

Ад комінку ўтульнасьць.

Зірнеш на вакно—спыняецца кола, зьвісае нітка з кудзелі, вісіць нярухома. І як нітка гэтая—навісьне думка цяжарам непарушным, ня зьбыць яе, не разьбіць. Да чаго-ж дабегаліся ножкі мае, ножанькі, ногі тыя белыя, ды дзявочыя...

Дзявочыя?

А чаго завялі вочы ясныя, вочы сінія, што ўзіраліся ў неба чыстае, воблакамі белымі мілаваліся, мілаваліся бярозкаю, зеляненькаю, ды лугамі тымі мурагамі з краскамі пахучымі, з пчаліным гудам. Мілаваліся, да сьвету ўсяму, сьвету беламу, маладосьцю усьміхаліся...

Маладосьцю?

Была маладосьць і прайшла маладосьць...

Пылаюць смалякі на комінку, цёплыя цені па сьценах ніжуцца, карагодамі расплываюцца.

А мо' не прайшла...

Не!

Хваробы! Не прычакае, каб перад сьлімаком тым да скарылася, долі сваёй прасіла, выпрашвала. Не... не дачакаецца таго... Ні багацьце ваша, ні хаты вашы высокія, ні душы вашыя сабачай шкурай падшытыя, не... Няма таго, каб перад вамі сьлёзы ліць, прыбіваць імі пыл па дарозе. Здохнеце, не прычакаеце... Русы чуб, сукрысты... Што-ж... Прападзі ён пропадам...

Адставіла самапрадку ў кут. Накінула хустку і за дзьверы. Сьцішэў дождж, і толькі нізкія разарваныя хмары нізка, нізенька паўзьлі над зямлёй, бадай кранаючы мокрымі крыльлямі сваімі за ветраковыя мхі, за высокія ліпы клодаўя. І з-за парванага рызьзя хмар праглядаў украдкаю месячык і быў ён чысты задужа, халодны такі, вымыты. Цялёпкалася гразь пад нагамі. Ішла ў самы канец аж да Прузынінай хаты, дзе супрадкі. Зазірнула ў вакенца. Прадуць дзеўкі, хлопцы сядзяць, гарбузікі лузгаюць, відаць, Банадысь частуе. Гарманісты аб нечым з Анісам гавораць. Так... сядзіць Аніс... Ды Ігнат—мыліцы ля боку—на гармоніку грае. Пілікне і змоўкне, ды зноў пачынае пілікаць. Ня грае, а балуецца, ці ён-жа ўмека, каб на тыя кадрылі гармонік пусьціць.

Аніс-жа сядзіць...

Ну, і добра... І доўга ён яшчэ прасядзіць, другія пеўні пракукарэкаюць, тады толькі лясьне клямка Агапчынай хаты... Дык-жа хутчэй да Агапкі...

Ідзе Тацяна, сьпяшаецца. Не глядзіць, што гразь, што золкасьць тая за ногі хапае. Зызнуць яны, зьнібеюць.

Торапка йдзе, азіраецца.

---

Ляжыць на печы Напрэй, дрэмле. І добра гэта пад дождж дрэмлецца. Думкі тыя растаюць, прыслухаючыся, як вецер страхой варушыць, шархаціць там саломаю, да лат прадзіраецца.

І ня вецер то страху варушыць, расчэсвае. То матка ў галаве шукае... Ходзяць пальцы матчыны, пальцы жорсткія—малаком ад іх пахне цёплым—ходзяць па галаве, шуруюць... Галава на каленях матчыных.

І дзынкнула нешта, прахапіўся. Скробся кот ля галавы, за вухам чухаўся і шамацеў нагой па цэгліне.

— Апсік ты, шкнара.,. То-ж нягода... І сны, каб на вас звод. То-ж надаўбень сівы, малым прыкінуўся, качарэжынаю-б цябе, ды па хрыбту старому: ня трызьні чаго ня трэба. Але якая-ж немач там барабаніць у шыбку, ціхесенька так барабаніць. Пастукае, пастукае і змоўкне. Ізноў. Зьлез, цераз палаці пераступіў асьцярожна, каб як малога, Хведзьку таго, ня збудзіць. Няхай сьпіць, раскінуўся вунь, коўдру з сябе пасьцягваў.

Рыпнуў дзьвярмі, за парог пасунуў у сенцы. Сьціхла шыбка, чуваць, як нехта ля дзьвярэй на ганках тупае.

— Хто тут?

— Пусьці, бацька.

Ёкнула сэрца старога. Антоська. Родны. Голас яго. У хату прапусьціў, кінуўся лямпу паліць.

— Пастой, пастой, бацька. Не сьпяшайся, абыйдземся і без сьвятла...

— Да як-жа, сын-жа ты мне родны і не пацалую цябе ўпоцемку тут.

— Нічога, нічога, бацька. Ты от Хведзьку ня будзі толькі, няхай сьпіць малы.

— Надоўга-ж ты?

— Ды-й... А хопіць тым часам...

— А ўсё-ж?

— Назаўсёды, бацька, адслужыўся, бач... Няхай яшчэ брат там ваюе, калі мае ахвоту. Ды дзядзька Сымон. А з мяне хопіць...

І ня ведае Напрэй, ці радавацца яму ці не: дужа-ж незразумела гаворка гэтая Антосева. Словы тыя, ды ўсё круглыя: і так яго палажы і гэтак, а з якога канца брацца за яго—няведама.

— Дык ты ўсё-ж скажы, ці табе хіба вольную далі, ці не? І ці доўга ў хаце будзеш?

— Вольную, кажаш? Так... Далі... Толькі ня далі, а сам узяў...

— Самавольшчык, значыць...

— Да ўжо-ж... Выходзіць, што так... Можаш, бацька, зваць, дызэртырам...

Сеў Напрэй на лаву ўпоцемках, на конаўку напароўся. Бразнула тая, заляскатала на падлогу. Рыпнулі палаці, павярнуўся Хведзька на другі бок, мармытнуў нешта праз сон. Як сеў, так і сядзеў моўчкі, ды адчуваў, як нямелі і зызьлі ногі.

— Дык як-жа, сукін ты сын, ды рашыўся ты на гэта, прысягу, можна сказаць, парушыў? Ці-ж ты ня ведаеш, што знача гэта? Каб супроць да прысягі?

Пытаўся паціху і прыслухаўся да сваіх слоў. І здаваліся словы гэтыя пустымі, далёкімі. Фальч адчуваў у іх, але стараўся казаць цьвярдзей, каб гэтае фальчы не адчуў сын. Антоська-ж маўчаў. Ці то ён думаў што, ці, сагрэты цяплынёй хатняй, зьліўся з цяплынёй гэтай, ціхай, старожкай—толькі вецер гудзе за сьцяной, страху чубаціць.

— Дык ты скажы ўсё-ж?

— А што казаць? Каб біў мяне кожны? Каб кожны гад, як сьлівень той, кроў тваю ссаў? Каб гаварылі з табой толькі ў каршэнь? Каб ты папіхачом быў у кожнага, які можа падэшвы тваёй ня варты? Каб... Ды няхай яно ўсё засмыліць, агнём-полымем возьмецца...

— І даўно гэтак ты?

— Ды з месяц, бадай... Усяго тры месяцы, як пабылі там, у маршавай роце, ды ў акопах з месяц...

— Хіба не адзін?

— Чацьвёра нас... Дык вось што, бацька, некалі мне разгаворы з табой весьці, бо і разьвіднее хутка... А давай ты хлеба якіх буханкі са тры, ды калі ў кубле ў цябе вядзецца што, дык пакладзі ў кайстру кавалак які...

— А куды-ж ты?—ужо са страхам запытаў Напрэй і адчуў, як захалодала сьпіна.

— Хіба-ж у хаце быць. У хаце, бацька, доўга ня высядзіш, падмятуць...

— А дзе-ж гэта вы?

— Уга... Сьвет шырокі, ды цёмны лес...

Соўдаўся па хаце Напрэй, сабіраў сына ў дарогу. У дарогу? Дзіўна: прышоў і пашоў. І каб людзі таго ня бачылі. Чуткі тыя ды дзейкі пра кароўяга хапуна ўспомніў. „Божачка, чаго, чаго не наробіш, ой-жа быць бядзе—ня мінеш яе...“ Хацеў запытаць, да не рашыўся. „Ці мала то хто вырабляе...“ Не разьвітаўся нават як сьлед. Дзе ты ў цемрані гэтай. Толькі-от кайстру сабраў, сунуў у рукі яму, да, правёўшы на ганак,—узлахмаціў вецер валасы, кроплямі тымі са страхі твар ахаладзіў,—праказаў ціха:

— Глядзі-ж, сынок... каб усё-ж добра... Не рабеце чаго... Ды калі што, дык па суботах на гумно. Кайстра там будзе ў ёўні... на жэрдках... Сьцеражэцеся-ж, пілнуйце адно другога...

І ў мокрай цемрадзі растала чорная постаць—стукнуў парканчык, і ціха на дварэ. Пацягнуў старэчыя ногі ў хату. „Бач ты—і не працаваў, а як-жа яны змарыліся“. І палез ізноў асьцярожна на печ, скінуўшы адтуль ката на палаці.

— Разьлёгся, псікота, усё цябе на чарэнь цягне, мяса сабачае...

---

— Іш, халера гэ-э-тая... яна ня хо-о-ча...

Узьюшаны Цыбал разбэрсваў лапці, класьціся рыхтаваўся. Шкадаваў боты па восені і мясіў па двары ў стаптаных лапцях.

Боты-ж надзяваў тады, калі трэба было ехаць куды, ці ў воласьць, ці ў фольварак па справах, ці так куды, у лес.

— Бот, гэта, ён табе ботам і будзе. Паважай яго, і ён цябе ўшануе. Бач падэшва—ты іх пусьці ў ваду, патупай дзень, яны і разыйдуцца табе, асклізнуць... А так—яно ў акурат усе... Ды й матар'ял які важнецкі... Вазіся от з халерай гэтай. Дзіва то: тут справы ідуць як няма куды лепей. І машыну прывезьлі ўжо, талакой аж са станцыі цягнулі—у горадзе купілі. Бадай што і зруб той для млыну скончаны. Канечне, не хацелася яму ў гэтую справу ўтыкацца, ды адумаўся пасьля. У папа быў. Той і давёў усё як сьлед—няма больш прыбытковай справы. Яно й зямля, канечне, добрая справа. Але зямля ніколі не зьбяжыць, зямля зямлей і застанецца. А тут жывая капейчына ў рукі штодня. І, сказаць, каб клопат вялікі быў—ня скажаш. Спачатку от цяжкавата крыху, пакуль гэта ўсё ўсталюецца. А потым ужо ўсё як па маслу пойдзе, лічы толькі грошы. І далучыўся. Утраіх і кампанію склалі: Хвядос, поп і Цыбал. Праўда, поп нібы з асьцярогай той... „Вы, кажа, не асабліва там па людзях языкі распускайце. Каму якая справа, але-ж каторы жвенькаць будзе, кепікі строіць". Стольki-то таго клопату...

І тут вот упёрлася размазьня.

— Ня хочу, ды й ня хочу за Банадыся...

— Дужа там пытацца ў цябе буду,—калі ў цябе хаценьне тое зьявіцца. Як-жа... От паспытаеш, як сьлед, папругі, хліпай цяпер у досталь... А жонка будзе заступацца, і жонцы тое будзе. Каторы год жыве, а розуму таго ні на капейку, карысьці сваёй не разумее, здыхля гэтая... Ты ёй пра карысьць даводзь, пра грошы выкладай ёй, а яна толькі й ведае:

— Затлуміўся-б ты з грашмі сваімі, як ты век мой ужо затлуміў...

Даў-бы божа кожнаму тлуміцца так... Добры той тлум... З грашмі...

Ня любіць хвалявацца Цыбал. Кожную справу яму цішком каб, бяз гоману гэтага, бяз вэрхалу. Ды дзе ты з імі...

Трасуцца рукі, блытаюцца забарсьні, парвалася от адна.

— Дай ты ёй рады... І тыдня не прайшло, як зьвіў... Напрэева работа, не дагледзіў, як сьлед, за пасканьнём... А табе і ўбытак у хату.

Разуўшыся, схапіўся, што й богу яшчэ не маліўся.

— Ат, прыме ўжо госпад бог маю малітву і босую. Патрапіць...

Шапацеў вуснамі, ды ў голас кідаў словы якія, ды ціха шалахцела сарочка, калі нагінаўся, каб адбіць паклоны. Захліпалася Макрыда на палацях, да пачэсвала рубцы тыя пякучыя, што ад папругі, ад банькі той.

— ... і памілуй нас грэшных... а бразгаюць, каб на вас ліха ніколі, як сьлед, ня прычыняць хвортку... то-ж шкнарадзь... сьвяты божа, сьвяты крэпкі... ці зачыніла ты хаця хвортку? Цябе пытаю, халера?.. благадатная дзева Марыя...

— Маліся ўжо, сьвяціцель...

---

Сядзела Агапка ля комінку, пер'е скубла курынае. І здаецца, яшчэ больш сьляпой выглядала яна. Водбліскі лёталі ад коміну і садзіліся на ўпадзіне той, дзе замест вока рубец чырвоны. Відушчае вока ў цяні хавалася. І страшкі позірк рубца гэтага, нярухомы такі і золкі да касьці працінае. І палавінка твару гэтага ня ўздрыгне, не ўзварухнецца асьветленая.

І ня зьдзівілася прыходу Тацяны, так-бы яно ўжо і трэба. І ведала-ж чаго. Якія там сакрэты агульныя паміж старой і дзяўчынай, каб гэта ў госьці адна да аднае хадзіць, у праведзіны. Не ў праведзінах справа.

— Садзіся от, рыбачка мая... Дык дождж, кажаш? Пара ўжо... даўно пара. Калі ўжо тое лецечка адышло, а дзівіся— суха было, ні дажджынкі табе, ні хмары. Дык-жа на каторым месяцы, мая рыбка?—і чырвоны рубец глядзіць, ня міргне, проста ў вочы табе цэліцца.

— Ды ўжо чатыры дні, як на трэці пашло,—сказала зьніціўшыся і ўздрыгнуўшы...

— Уга... Не бяды... Не бяды... А я меркавала—болей... Калі-ж так, дык мы гэта вобмегам адным... А ты не хвалюйся, не хва-а-люйся... З кім гэта ня трапіцца... Маладосьць ты наша, маладосьць... А мая от, рыбачка, даўно прайшла, даўно адляцела... Калі-то ўжо мужыка свайго пахавала. Аніс у мяне які ўжо... Уга... І шкадаваць каб, дык не... Кожнаму свой час... Аджыў, і пяткі складай як той казаў, хавай душу ў мяшок... А твае гады—вясна красная. Калі сьляза якая—як расою абмые, толькі-ж ты зеляніся, буцёлкаю распукайся чырвонаю... Але-ж давай-жа, дзеванька, да справы, праходзь-жа ў баковачку тую, а мы і дзьверы зашчэпім.

Устала з трыножкі, рэшата сваё з пер'ем адставіла, абцерла аб спадніцу рукі, каб-жа пух абіць,што папрыліп да далоняй, да пальцаў. Запаліла газьніцу-капцілку і панесла яе ў баковачку.

— Дык на трэці месяц пашло, кажаш? Так... Ну, дык лажыся, рыбка, на ўслончык гэты... лажыся, лажыся, ня бойся, чаго там... Гэта-ж плюнуць раз, ды й расьцерці...

Поркалася старая, ля ног завіхалася. Гарэў твар у Тацяны. Касавурыла вочы на сьценку, дзе травы віселі, сушаныя краскі. От па сьцяблу бясьсьмертніка клоп паўзе, на самы цьвет запоўз, далей некуды. Прыюшыўся клоп, нібы думае, ці то скочыць уніз, ці то не: а будзе там толк які, ці ня будзе. І павіс, нагамі заварушыў тымі, адарваўся, проста на грудзі ўпаў, аж спужалася.

— Цётачка, клоп...

— А ты не шманай... Чаго ты... Вазьмі і прыдушы, столькі то клопату... З чаго гэта ты?

— Ды я нічога.

Завіхалася Агапка, бегала на хату, вазілася з нечым. І сказала:

— Вазьмі от рушнічок, рыбка, ды от так рот завяжы, добранька завяжы, шчыльна. Да пакладзі на зубы кончык... Закручвай, да не жалей, тужэй, галубка, тужэй, бо ад крыку душа заходзіцца, ня трэба таго крыку. А завяжаш, яно й добранька будзе... От так... А цяпер ужо рукі давай, мая рыбка, каб сама сабе ня шкодзіла... Рукі нашы—ворагі нашы... Ляжы, галубка, ляжы... А цяпер вочы прыплюшчы...

Прыплюшчыла Тацяна вочы.

---

Гумно панскае вялікае, а вільчык высока, высока. „От бы на арэлях дзе пагушкацца“—кажуць дзяўчаты, што адграбаюць салому ад малатарні.

— Толькі-ж вам на арэлях і гушкацца,—нібы ні да кога кажа Настуля, разьвязваючы жытнія снапы, каб кінуць іх у малатарню.

— А хіба-ж то, Настуля, гэта кепска...

— Да не, не к таму я сказаць хацела... Жыцьцё гэта ў вас такое, галовы не пазьвязаныя, таму й кажу я, што толькі-ж вам і гушкацца на арэлях...

— Гэ, Настуля... Яна ўсё журыцца... Чаго? Настуля сама яшчэ дзевачка... Як гэта... З вадой дзевачка...—І аўстрыяк Язэп, лёгка ўзьняўшы пяціпудовы мяшок на плечы, і, прытрымліваючы яго левай рукой, падкручвае доўгі чорны вус свабоднай рукой—фарсіць перад дзяўчатамі. Увесь ён у пыле, у саломе, шэрая кэпі спаўзла на бок, казырком на вуха. І стаіць, як мядзьведзь, шырока раставіўшы пругкія ногі. Толькі лысіна блішчыць, мокрая ад поту. Рагочуць дзяўчаты, падстаўляюць ножку Язэпу, і той ляціць потырч на ахапкі саломы, рассыпаючы незавязаны мяшок жыта.

— Вот табе і Настуля, корч стары, вот табе й дзевачка з вадой... з сокам, дурань, з сокам, табе казалі. Калі ўжо гаварыць навучышся?—І маладзейшы Янук кідаецца, жартуючы, на Язэпа, коўзаецца з ім па саломе.

— А ну, мала куча, невяліка!

І ўзьнімаецца такі гармідар, што ляціць аж пыл пад самы вільчык, узьлятае ахапкамі салома, мігацяць дзявочыя спадніцы, голыя лыткі, ускудлачаныя галовы.

— Паддай, яшчэ, яшчэ...

— Глядзі, дзеўкі, каб не павысмальвалі вочы хлапцом каторым, не загаляйцеся дужа...—жартуе Настуля, стоячы на малатарні.

— Нішто, цётачка, ня зглазім...

Нават Яўхім крывы, што паганяў за сьцяною коняй на прыводзе, і той прыбег і чыкільгае з пугай ля кучы, захліпаецца...

— Марыля, не паддавайся... Вылазь, кажу табе, вылазь. Прыцісnуць—усе выхады выпаўзуць...

— А ну, крывога сюды, хапай яго за качаргу кульгавую...

І раптам верхніх нібы віхор зьмёў, хапаюцца хуценька за граблі, за вілы, у работу ўнішліся, паглядаючы скоса на кучу. І толькі ўжо Язэп з Януком качаюцца па саломе, аж пыл ляціць, падкоўкі дацінаюць да току, і вылятаюць з-пад іх пыркі жыта. Хоча Янук санкі загнуць Язэпу да добрых банак яму ўклеіць, каб разумеў, дзе сок, дзе кроў з малаком, і якія дзяўчаты бываюць. Высклізнуўся Язэп, азірнуўся, ды як цэпам падхоплены ўскочыў, ва фрунт выцягнуўся перад Мацьвеем Юльевічам, які стаяў ужо колькі хвілін, назіраў моўчкі. Толькі тоўсты карак налілваўся крывёй, чырвоным рабіўся. Стаў ва фрунт Язэп, ды хуценька да работы. Узьняўся Янук, пусты мяшок падняў і стаіць, апусьціўшы вочы.

Выцягнуўся да яго ўсім тулавам Мацьвей Юльевіч да, выхапіўшы мяшок з рук і зьлямчыўшы, сунуў ім у твар хлапцу—паляцела шэрая кэпі, плюхнулася на салому, на жыта рассыпанае. Ды з носу—адна за адной—кроплі крыві на падстаўленую руку. І зацурчэлі цененькім струменчыкам, віхлястым.

— Гэта вы мяшкі толькі рваць, сволачы, абібокі—жыта псаваць, спыняць малатарню... разганю як сабак, усе морды скрывяню...

Стаіць Янук, рукі апусьціў, пазірае. І не зразумець—што ў позірку гэтым: ці ўтаропленасьць то, ці ўсьмешка тая, няўдалая, ці жаль да сябе, ці то злосьць захаваная... От на міг толькі вусны скрывіліся, да чаго-б запытаць... Сустрэлася позіркам з ім Настуля,—глыбокія то вочы чорныя, глядзяць, працінаюць, ці то крыўдай сваёй, ці жалем, ці спагады чакаюць... Насілу аж адарвалася ад іх, занавесіла вочы, аж цені па твары пашлі ад веек, доўгіх, русявых.

І не заўважылі, як падскочыў Лявончык Трахімаў. З грабілнам. Да ўпраўляючага. Зьбялеў увесь, трасецца, як у ліхаманцы.

— За-а-б'ю, з гразёй зьмяшаю...

Ды дзе там. Спрытны Мацьвей Юльевіч. Ужо й грабілна ў яго, хруснула на калене на часткі, паляцела. І ўжо абмяк пасьля Янука, хмуры, унурлівы.

— Зараз-жа каб і духу твайго паганага на дварэ ня чуў я... У мо-о-мант адзін. Вон, паскуднік, пакуль вураднiку не аддаў пад бізун... Бачыш ты, дай работу, дык ён на цябе... Толькі распусьці іх...—І ўжо да ўсіх:—А ну, варушыся, заснулі... Я вас навучу спрыту... А ты,—да Янука,—нечага носам сьвіціць, айда да калодзежу, да абмыйся як сьлед... Ды глядзі мне... Стукну калі я, па дабраце сваёй стукну... Іначай скуры з вас ня грэх паспускаць, ваякі вы ля бабскага падала...

І не сказаць, каб чужыя былі для Мацьвея Юльевіча аўстрыякі. Як-ні-як не расійцы, ня туркі... Але раз палонны, адна павага яму. Трэба было спрыт свой на фронце паказваць, а ня тыркаць рукі ў гору перад кожнай барадой расійскай. Пастаяў колькі, засіліў жыта жменю і цярушыў праз пальцы, сочучы, як сыплецца зерне, як цярушыцца пыл, саломінкі, асьцякі каласовыя. І тапыршчылася ў злосьці шчаціна пухлых шчок.

— Ніколі ня прыладзяць малатарні як сьлед, бач, збожжа псуецца, на насеньне ня будзе ні каліва.

І, выцершы запыленыя пальцы аб бліжэйшую спадніцу, пасунуў з гумна. Саплі дзяўчаты, падаючы разьвязаныя снапы, моўчкі завіхаліся другія з грабілнамі, ды аўстрыякі насядалі на мяшкі, прытоптвалі, уміналі, спрытна, гаспадарліва завязвалі хахлы, ды, падставіўшы шырокія плечы, адносілі мяшкі ў бок, асьцярожна ступаючы па коўзкай саломе. І калі грузная постаць Мацьвея Юльевіча схавалася за дзьвярмі—неяк уздыхнулі ўсе, азірнуліся.

— Ну й зараза!

— От бы вілашніка таго ў бок.

— Ды што ты вярзеш—вілашніка, вілашніка... Дзе гэта бачыла ты, каб то пану ўказваць..,

А хлапцы ўжо над Януком кпілі:

— Зьеў, брацеl

Але і кпіны былі ня кпінамі. Было больш спачуваньня ў іх і крыўды—ціхай, няпрыкметнай і такой-жа моцнай, як іржа, што есьць сталь і жалеза. Ці з імі-ж параўняцца сэрцу, калі возьмецца за яго ціхая крыўда. І сьмяяліся хлопцы, і зубы белыя скалілі—але сьмех гэты, рогат хлапечы не радаваў неяк, не весяліў, цяплыні ня было ў ім, і таму і зьнікаў ён, раставаў няўпрыкметку пад запыленым вільчыкам. Таму й асабліва выцінаціся гострыя плечы Яўхімавы, і ўся яго кульгавая постаць нібы ўцягнулася ў сябе, зьнішчылася, скамечылася. І быў бязуважлівы голас:

— Но, падлы... Но, но... Не прыставаць каб, а то агрэю, падлы сухарэбрыя...

І кульгаў за дышлем малатаркавага прыводу, матлялася з боку ў бок дзіравая калашына на сухой назе, скурчанай, скукарэчанай. Ды пасмы валасоў гойдаліся ў тахт чыкільгаючым крокам. А вочы бачылі толькі дышаль, бярозавы парэпаны дышаль, які гойдаецца ўніз і ўверх, ды імкнецца ўвесь час уцячы, то моцна б'е па нагах, калі прыстаюць гэтыя падлы-коні.

---

Ня любіў Цыбал на людзях хадзіць. Каб гэта бачыў кожны, ды яшчэ языком чаго добрага пра цябе мяньціў. І калі выбіраўся куды—заўсёды подвечар, ля платоў, а то ўпоцемку. Любата. Ідзеш сабе——відно табе ўсё: у Смыка бульбу таўкуць—вячэраць зьбіраюцца, скіголяць дзеці ў Ражковай хаце—то-ж небаракі: недагледжаныя, дзе там адной маці ўправіцца—і накасі, і нажні, і гэтыя рты-заткалы накармі. Ці ёй з зямлёй управіцца,

няхай-бы ўжо сваёй бабскаю справай займалася, ці ў наймічкі вось. Хіба-ж то зямлю абсее, няйначай пагаварыць давядзецца, памагчы бабе гора гараваць...

А вось і кавальская хата, то-ж вокны заўсёды такія сьветлыя: няма чалавеку каб падумаць, навошта газу псаваць так. Ня зусім каб чалавек падабаўся гэты, ніяк ты ад яго слова шчырага не пачуеш, от кажа часам, кажа, да й падколе. „Нешта ў вас, дзядзька Іван, рукі задужа парэпаліся, з чаго-б гэта? Ці не з натужнае працы?" А чаго-б яму, скажам, да добрага чалавека чапіцца? Ды яшчэ, бач, ты яго штодня ў млын завеш, работу даеш, а ён 'шчэ над табой думае кепікі строіць. З такім чалавекам хіба пагаворыш. І цярпіш вось... Як-ніяк, а рукі ў яго дасьціпныя, дужа-ж спрытныя рукі. Добрыя рукі... Але-ж навошта кампанію чалавек водзіць з рознымі Напрэямі там, з абібокамі некаторымі. І дзе толькі галава ў чалавека? А здаецца, яшчэ трохі й вучаны—сьвет прайшоў, колькі людзей тых пабачыў. Узяць бы мяне да прыкладу. Не сказаць, каб і ў грамаце які толк ведаў, от абы расьпісацца, а галоўная ўдача—вязе от, сам паніч упраўляючы і то з табой за ручку. Чаму-ж гэта, спытацца. Таму, што разум маеш, абыходжаньне, як і з кім. Ды кеміш, дзе і як падыйсьці, як за справу ўзяцца, дзе словам ласкавым, дзе просьбаю, а дзе трэба, то і грозьбаю. Яно й горнецца ўсё— і капейчына, і зямлі кавалак, і дзялянчка там пад ляды, і засекі поўняцца, і людзі на цябе з павагай глядзяць, сваяцтва твайго шукаюць.

Ішоў Цыбал, мякка ступаючы па зямлі і пазіраючы на вокны ды на стрэхі саламяныя, шулы новыя ды трухлявыя, ішоў радасна ўсхвалёваны сваімі ўдачамі. Дзіва-то, зямелькі новай клін прыдбаў. Не сказаць, каб і ўгавораў тых багата было. Здаўся чалавек, адразу на згоду пашоў. Уга, есьці захочацца, апошняю сарочку аддасі.

І кожнае шула, кожны паркан радаваў Цыбала. От стаіць шула, гаспадаром значыць пастаўлена, рукамі руплівымі. Вось хіба вароты мялаўскія—дзёрзкі чалавек Хвядос, хвацкі, жытку бярэ за самыя зябры, за чэлюпі тыя. Гаспадар разумнік, пранайдоўная галава. Гарачы, хіба, задужа. Але-ж яму гэта ня шкодзіць. І сваяк будзе... Куды там... Тады Цыбалу яшчэ больш пашаны, 'шчэ больш павагі: сам стараста сватам. А там дзейкаюць людзі: і на старшыню Хвядоса мецяць у воласьці. От-жа зажывём: добра яшчэ, што гэта падла мая згадзілася... круціла, круціла хвастом, адылі-ж здалася.

— Хоць за чорта лысага,—кажа,—аддавай, а мне ўсёроўна... Табе мо' й роўна, а мне ня зусім. Гэткага чалавека за зяця займець... Праўда, зяць зяцем, а сват—хвацкі чалавек, няма чаго бога гнявіць. Галоўнае сват. Вось жыцейка будзе. Вось-жа жыцейка...

Да таго захапіўся сваімі меркаваньнямі Цыбал, што й ня прыкмеціў, як засіліў упоцемку нагой за нешта цьвёрдае, ледзь

устоіўшы на нагах. А тое цьвёрдае адскочыла ў бок, нібы адваліўшыся ад чорнай постаці, што насунулася пад самы нос, і гэтая постаць грузна ўпала на дарогу ды ляснула, нібы качэргі тыя адна аб адну, калі ступіць на іх незнарок у цёмным кутку. І тое чорнае, што ўпала на дарогу, раптам вызьвярылася балючымі, прыдушанымі ў шаленстве сваім словамі лаянкі. Тут былі і госпад бог, і сьвятыя апосталы, і мацер тая, і ўсе тры дывізіі, і ўся зямля з яе ўтробай-магілай.

Адступіў Цыбал, прыслухаўся.

— Уга! Да гэта-ж калечка Прузынін—інвалід царскі... Чаго гэта ты, хлопец, узьюшыўся так?

— Узьюшыўся, кажаш? Асьлеп, нябось... Вочы табе засьляпіла, каб на жывога чалавека перціся, мала табе дарогі?

— Ды чаго-ж ты, пане Ігнаце? Хіба я знарок?

— От я табе дам знарок...

— Да гэта-ж я, Цыбал.

— Бачу, што ты... Ходзіш, падлюга, ды прыглядаешся, дзе ўкусіць балючай, дзе сіло сваё сьцярвяцкае ставіць...

— Ды што ты вярзеш, голуб... Калі напіўся, дык ідзі сваёй дарогай...

— Уга... Пойдзеш праз вас, крывасмокаў. У-у, падлы... Адыйдзі, а то мыліцай змажу пысу тваю ваўкарэзную, зубы твае зьвярыныя павыбіваю... Пачакай, пачакай: прыдзе звод на вас, павыцягваем жыльлі вашы, ды на жыльлях гэтых засілім...

— Што ты, што ты вярзеш? Пераксьціся...

— Ідзі, ірад, а то зараз-жа перахрышчу... Пачакай... Прыдзе на вас гібель...

Напалоханы ўжо не на жарты, падлыбаў хуценька Цыбал да хаты, палахліва азіраючыся па бакох.

— З чаго-б гэта? То-ж чалавеча: ты да яго ніякай рахубы, можна сказаць, ня маеш, дык бачыш-жа выскаліўся. А 'шчэ дурніца, і хлеб Прузыне анодысь пазычыў. Падзякі, бачыш, чакаў... Дачакаўся... То-ж народ...

---

Патрэсквалі сьцены—мацнеў мароз. Ды зрэдку лашчыў вецер шурпатай рукой саламяную страху, і тады чуваць было, як сыплецца па ёй сьнегавая жарства, як трэсьне ледзяная сусолка і, абарваўшыся, рассыпаецца звонкімі бразготкамі пад замёрзлымі капяжамі.

У ёўні было зацішна і куды цяплей, чым у самым гумне, дзе марозным пылам былі асьнежаны сьцірты саломы, колькі тых кулёў у кутку ды рэшта сена—мала таго сена перад вясной. Хлопцы абменьваліся зрэдку скупым словам, і адразу гублялася гэтае слова ў аўсяных снапох, што густа стаялі па жэрдках. За снапамі ня відно было і саміх людзей.

— Жызьня наша, можна сказаць...

І маўчалі сьцены чорныя, пракапцелыя, з бліскучымі сьлязінкамі смалы. Над сьценамі нібы павісьлі доўгія вейкі—то панабіваўся ў шчыліны пыл, жытнія да аўсяныя асьцюкі, ды пацяруха тая, пацяруха гумённая.

— І калі гэта яно ўсё скончыцца, дай-жа ты рады...

Ізноў маўчала ёўня, убіраючы ў сваё змрочнае і прытульнае нутро ўсе знадворныя гукі. Толькі шапацела ў кутку.

— Эх, вышаў-бы на сьвет. Ды па вуліцы гэтак днём ясным, каб кожны-ж цябе бачыў: і стараста, і ураднік, і соцкія нашы. Вышаў бы да сказаў... А ну, падходзь каторы, падходзьце, крывасмокі, падужаемся... Ды каго ў твар, ды каго ў патыліцу, ды па самым цемені; а гэта вам салдатак абіраць, а гэта вам—пожні Канчанскія, а гэта вам сьлёзы матчыны... А гэта вам...

— Вам, вам... А пры чым тут соцкія?

— Ты, брат, іх не абараняй! Каму, каму, а матцы маёй даліся ў знакі. І падвода—вязі. Падатак—плаці... Збор які—ізноў-жа тут... Акопы вун надумаліся капаць—ізноў-жа каня апошняга, і таго надумаліся ўзяць на мабілізацыю, на работу. Ты, брат, не кажы... Акапаліся пузаны нашы за сьпіной салдацкай... У цябе вун каўнер сатлеў, па рубцу разьехаўся, а падзівіся на Цыбала: карак як у кабана таго кормнага Ты думаеш, што гэта так такі і лёгка мне было пасунуць сюды, аж з самага фронту... Дапяклі лістамі з хаты. А хіба й тут пасобіш—хаваешся, як крот той. Але-ж нішто... Яшчэ прыкруцім хвасты... Будзе і на нашым баку хадзіць козырам сонца.

— Паходзіць, прыжджэш...

— Дурань ты, Антоська. Малады ты і з розумам, здаецца, але-ж у справах гэтых ты бот ботам. Ты, можна сказаць, пораху таго, як сьлед, не панюхаў і ўцёк вось сюды ў бацькаву ёўню. І нічога ты, браце, акрамя гэтай ёўні, і не разумееш. А я тры гады на фронце быў. Ты гэта падумай толькі—тры-ы га-а-ды... Тры гады—ня тры дні і ня тры месяцы. Людзей бачыў. Гаманіў з людзьмі. І ўсякія былі людзі. Адзін табе ходзіць, і ног пад сабой ня чуе, бо кожнага дню сьмерць сьцеражэ, калі гэта яна да яго прыплікне. Так і ў акопе сядзіць, і ў атаку ідзе, і сьцяўшы зубы, бяжыць па полі, і нічога ня бачыць, акрамя кончыка свайго штыха—так ляціць за гэтым штыхом, каб напароцца на сьмерць, думаючы толькі аб сьмерці, бо мазгі ў яго даўно атруціліся. Другі—нішто... І сьмерць над ім, і нягода над ім, над ім камандзір і фэльдфэбэль—а яму хоць-бы што... думкі ясныя і ясныя вочы. Што і к чаму—заўсёды скажа, і параду табе, і ўцеху... Розныя, браце людзі. І колькі іх. І харошыя-ж часам людзі, абыходлівыя. Звыкся я з імі, прызвычаіўся; акоп, што твой родны бацька... Што твой родны бацька...

— Нешта-ж ты, пане Антось, разьвітаўся з ім, з родным сваім, ды патрапіў у ёўню...

— А гэта ўжо, браце, другая песьня. Прыцісьне, уцячэш, азірацца ня будзеш. А справа, бачыш, была звычайная. Нада-

слалі нам камандзіра новага. Камандзір, як камандзіры—ці мала іх, сабак, на нашага брата, але-ж такога сабакі, бадай, і сьвет ня бачыў. Ні яму чалавека пашкадаваць, ні падумаць, каб салдату як найлепш было, каб ужо не ганяць яго залішне, дзе трэба, дзе й ня трэба. Бо як ні кажы—на фронце-ж мы, павінен-жа і камандзір нейкае сумленьне мець, бо кожны-ж дзень чакае нас сьмерць. Дык дзе ты бачыў: кара за карай, нарад за нарадам, такія павыдумляў пасты—пастаў чалавека, а праз гадзіну яго й няма—забілі—бо проста перад германскімі акопамі ставіў. Мала гэтага, дык-жа такі кат быў, што ў роце нашай, бадай, ніводнага салдата ня было з цэлымі зубамі—вялікі быў майстра выбіваць. Дык вось і пачалося гэта аднае раніцы. Пашлі ў атаку. Ну, пачалася мітусьня, нашы хлопцы ня будзь дурні, і пасадзілі на мушку паручыка. Яно-б то ўсё шыта і крыта было-б, каб, скажам, бой пашоў як сьлед. А то толькі прагуляліся з акопаў, ды хуценька ізноў назад. І трэба было нейкаму чорту лысаму падабраць паручыка, а тут яшчэ фэльдфэбэль умяшаўся. Ну, і пашла завseparуха: а чаму камандзір забіты адзаду, а чаму ўся чарапянка разварочана. Фэльдфэбэль таксама пастараўся, няйначай выслужыцца хацеў, ведаў, хто чым дыша. Пашло следзтва, чалавек з дзесяць ужо апыталі, але 'шчэ нікога не арыштоўвалі. Подвечар павінны мы былі ў рэзэрв пайсьці. Хлопцы мы ўсе цямкія, добра разумелі, чым гэтая справа кончыцца, былі ўжо такія выпадкі. А таму, доўга ня думаючы, ды далі лататы. Праўда, некаторыя трапілі на этап, некаторых яшчэ ля фронту забралі, а мы ўдвох з Мацьвеем дастукаліся так і да тваей ёўні.

— А кіньце вы ўжо пра фронт, от даўся ён у смакі, ніяк з языка ня сыйдзе. Давайце хаця ў ачко зрэжам, усё-ж бліжэй да начы будзе.

Мацьвей Ражок, прыўзьняўшыся на саломе, дастаў з-за пазухі замусоленую калоду карт і лоўка пстрыкнуў па ёй спрытнымі пальцамі.

— А ну, мабілізуйся, каторыя... Стаўлю чаравікі з абмоткамі—тры рублі капіталу... Падходзь ды сядай, на туза насядай, дзе сятка будзе—выйдзеш у людзі...

Ігралі нудна—прыелася ўжо гэтая гульня за доўгія ночы, за дні зімовыя. Нават не зьвярталі асаблівай увагі на спрытныя Мацьвеевы пальцы, якія неўзаметку маглі дастаць з калоды любую карту. Вялікі клопат—абы час правесьці.

— Зіма-б от хутчэй скончылася—тады латва нашаму брату—кожны куст табе за панібрата.

—Сказаў бы ты, дурніца, вайна каб скончылася. Зіма тут ня пры чым. Калі скончыцца яна—ізноў-жа хавацца нам трэба.

— А ты думаеш, што пасьля вайны так цябе па галоўцы і пагладзяць?

— Ну, тады пабачым... Ня можа быць, каб усё ды па-старому засталося. Дужа ўжо жызьня пашла цяжкая, ні спакою табе, ні палёгкі. Тры гады ты на фронце вошай корміш, а ска-

заць, каб на дабро гэта йшло—ня скажаш. Дапякаюць цябе там, а тут матцы тваёй сьвет зводзяць, бацькоў тваіх у разор пускаюць. На ўсё йдзе звод. Калі й добра каму, дык хіба багацеям нашым. Ім нічога ня робіцца, як былі пузанамі, дык цяпер яшчэ больш растаўсьцелі. І ня толькі ў нас на сяле. Паглядзеце местачкоўцаў—яўрэяў. Вунь Алтэр, узяць хоць-бы яго. Што яму дзеецца? Раней плыты ганяў, лайбы, лес спустошваў. А цяпер каровамі гандлюе, пастаўшчыком зрабіўся. І сваякоў каторых ад вайны вызваліў. А ўсё грошы. Маеш багата грошай—ты і харошы. І не адзін Алтэр. А што робіцца Лейбу... Хіба толькі лазакруты—іх скурціла як лазу тую—ходзяць няпрыкаяныя, ні хлеба, ні грошай, дзе ты зімой у заработкі якія ўкінешся, ды й лес табе ня дасьць цяпер хлеба ўкусіць...

— Кінь ты ўжо, Антось, і так нудна, а ты-ж такую зануду распускаеш, хоць ты лезь на бэльку. Ці не ад Івана Іванавіча ты навучаешся? Той усё пра вайну ды пра багацеяў—няма ў яго другой гутаркі.

— Пра Івана Іванавіча ты, Мацьвей, кінь. Нічога ты тут не разумееш. А Іван Іванавіч—гэта, брат, чалавек наскі, пабольш-бы такіх людзей.

— Наскі, ці ня наскі, а мне ўжо абрыдзела ў ёўні горш, чым пеўню таму пад печчу. Эх, і выпіў бы цяпер з гора, ну й выпіў-бы. Ды дзе дастанеш? Трохі ня ёмка да Козіхі йсьці, ды наўрад і ці будзе ў яе.

— Знайшоў мудрэц хаду да Козіхі... Вось, ці не паспрабаваць нам часам да пана ўпраўляючага дабрацца? У даведзіны, так сказаць, у госьці. У яго, гада, і сьпірту знайшлі-б, жыве чалавек у выгодзе. А лоўка гэта мы тады кароўку вывелі, вот-жа будзе памятаць...

— Аб карове ты паменш языком цялёпкай... Зьбяднеў твой пан ад каровы...

— Зьбяднець і не зьбяднеў, а будзе ведаць нашых.

— Яму то гэта ня мудроная справа—нашых ведаць. А вось што Валодзька паспытаў праз твае рукі—дык падзякі табе не сказаў-бы.

— А што ты думаеш, упраўляючаму гэта так і пройдзе? Так мы на гэта й забудземся, думаеш? Ці здаецца табе, я так і дарую за брата? Ці ты думаеш, я ня ведаю чыіх рук гэта справа? Ці ты думаеш, што Сідару гэта так мінецца? Не, яго рук гэтая справа? Пачакай, усё прыдзе, мы брат пакажам, мы брат уга...

— Уга, уга, аддавай сямёрку лепш... Але пачакай, стукаецца нехта...

Усе адразу зашыліся ў салому, затушылі ліхтарык, што стаяў ля печы, і нібыта і ня было нікога жывога ў ёўні, да таго старожкая цішыня павісла ў гумне, павісла над бэлькамі, над змрочным вільчыкам, над прапыленымі сьценамі.

— Ды годзе вам там прытварацца, свой-жа, халера на вас, яшчэ хавацца задумалі...

— А, каб цябе паляруш... Толькі банк сапсуў, пачынай цяпер усё спачатку.

Ігнат Прузынін даўно пранюхаў пра Напрееву ёўню і часьцяком заглядаў у яе, наведваў хлапцоў. Тут можна было адвесьці душу, можна было часам перапусьціць келіх, другі перагону, можна было патрымаць карту. Не з падшывальцамі-ж кампанію вадзіць на вёсцы, ня з гнілым Банадысём вечарыны праводзіць, бо ад адных ботаў Банадысёвых— бліскучых—так садніла на душы, аж пачынала стукаць у кульцяпкі ног і сьціскаліся ў руках мыліцы—ды дзе ты адзін управішся.

— Дык от-жа іду я, а насустрач мне Цыбал. І да чаго-ж ён абрыдзеў, да чаго напастылеў, а тут на табе, упоцемку прэ, ды проста табе на ногі...—І, зморшчыўшыся, падцягвае Ігнат пад сябе зашытыя ў абрэзаныя халявы кульцяпкі.—Ну, я яго й пераксьціў.

— Не хваліся, Ігнат, дзе ты гэта яго пераксьціш?

— Не пераксьціў, кажаш? Ня будзь я Ігнат, калі кажу няпраўду...

— Ну, добра, бяры, браце, карту. На веру кажаш? Ну што-ж дамо на веру...

Скупа сьвяціў ліхтарык і змрочныя цені палахліва, як кажаны тыя, насіліся па закураных сьценах. І такія-ж палахлівыя неспакойныя думкі роіліся ў Антосевай галаве, Антося Напреева.

— Што-то яно будзе? Дзе той канец заблытаны, як да яго дабрацца. Каторы ўжо месяц то пад кустом, то ў саломе, як гад той, як зьвяруга апошняя.

Мулела пад бокам салома—мусіць сноп не разьвязаны. Ад сьцяны павявала холадам, працінала праз худы кажушок і, здаецца, пранізвала да самай касьці. Скажанелі рукі, бо хіба сагрэеш ты ёўню гэтым гаршком вугольля, што акуратна прыносіў досьвіткамі Хведзька. Агню-ж не раскладзеш у печы, адразу суседзі пазнаюць. І так штодня, каторы ўжо месяц. Жыць бы хаця як Мацьвей Ражок. Таму нішто ня трэба, абы карты ў рукі ды табакі пачак, забыўся на ўсё на сьвеце. А тут з думкамі сваімі—неўгамонныя так і рояцца, як пчолы ля вульля.

---

Яшчэ з вечара зайшоў да Сілівона брат Хвядос, стараста. Сілівон атосы віў пяньковыя. Ушчапіўшы на крук на сьцяне пачатую столку, мерна адступаў на сярэдзіну хаты, і з-пад спрытных віц ляцела на падлогу кастрыца, ляцела на рукі, на тоўстыя, працёртыя крыху на каленках штаны, на парыжэлыя боты. Хвядос сядзеў на лаве, церабіў сваю чорную бараду і прыслухаючыся як шчоўкалі Сілівонавы віцы, думаў аб ім-жа, аб Сілівоне.

— Чалавек да чалавека, што ні кажы, а няроўны. Брат, можна сказаць, кроўны брат. І хата ў яго спраўная, спраўная і гаспадарка, і ўсё ў яго як гэтыя, нераўнуючы, атосы—туга скручанае, моцнае. Але-ж мог-бы жыць чалавеча куды вальгатней, дужа гэта трэба за кожную справу самому ўбівацца, хоць-бы гэтыя самыя атосы віць. Ці ня зьвіў-бы злыдзень які за тую міску гуркоў, за капусты жбан. Ня ўмее от з людзьмі абыходзіцца так, каб кожны табе дагадзіць думаў і ў большым, і ў малым, каб самому за якую больш рупную справу ўзяцца, ад якой і прыбытак табе, і павага.

Думаў і пазіраў на Сілівонавы плечы, на яго бязвусы твар, на які маршчакоў тых, як у бабкі-аднавочкі,—ня зьлічыш, на Сілівонавы рукі, на яго камізэльку-ватоўку. Ля комінку сядзела за самапрадкай Аўгіня і сьпявала сабе нешта пад нос. Не разьбярэш песьні ўсяе, бо гудзіць кола, завываюць відэлцы з цэўкай і зьліваецца песьня з завываньнем гэтым. Толькі чутны паасобныя словы аб сонцы красным, аб ім, русявым, прыгожым, у якога блакітныя вочы, з якім ноч—ня ноч, з якім зоры сьвятлей. І марозы шаўкі пасьцілаюць, белатканыя, беласьнежныя, што нявесты тае харашунскія ўбёры.

— Палла ўжо, пад вачыма лапкі, а туды яшчэ: мілый ёй, ненаглядны ёй... Узяў бы Сілівон гужа да па гэтых сухарэбрынах, от-бы заякатала з пераляку, быў-бы і русявы ёй, і прыгожы ёй, нябось, зрабілася-б шоўкавай...

І вочы на стан перавёў—паўнее гадыня. Ня йначай зоры дапамаглі, ізноў як кубел. Зоры, ня зоры—Анісаў інтарэс, шахцёрскі клопат. Прыбытак у Сілівонаву гаспадарку, няйначай.

Кончыў атосы Сілівон, выцер рукі, на лаву прысеў. Глядзіць вінаватым крыху, абмінае позіркам жонку.

— Дык па справе, кажаш?

— А хто бяз справы ходзіць? Дужа гэта мне лынды біць прысьпічыла. Чаму гэта табе, браце, ня слухацца мяне? Колькі разоў перадаваў—ідзі да нас у кумпанію, на млын. Ёсьць-жа сякія-такія капейчыны?

— Ды што з таго... Ну, ёсьць якая пара сот рублёў... Я чалавек не камерчацкі, што сваімі рукамі прыдбаў, тое і спажываю. За другімі-ж, хоць-бы і за табою, ня ўгнацца, ды й ня трэба мне. Ізноў-жа ў цябе ў гаспадарцы памочнікі, табе й на полі петавацца ня трэба, бо ўсёроўна прыгледзяць, а той людзі памогуць. А ў мяне не разгонішся: і за канём сам, і за касою сам. А што сам зарабіў, тое й добра. На чужыя рукі не спадзявайся, бо яны да пары, да часу лагодныя. А потым, брат, так адпомсьцяцца, што й дзесятаму закажаш.

— Ты гэта к чаму?

— А вось хоць-бы і цябе ўзяць. Дужа ўжо людзі языкамі мянцяць, асабліва-ж салдаткі, што ты і хцівец, і драпежнік, апошнюю сарочку зьдзіраеш з плеч, ды яшчэ з Цыбалам гэтым зьвязаўся.

— Ты ўжо кінь... Кінь, голуб... Гэта ўжо не твае галавы клопат, ведай, каго вучыць, вунь жонку павучыў-бы, як на сьвеце жыць, як людзей паважаць, хоць-бы, скажам, род наш, дзе байструкоў яшчэ не траплялася.

Сілівон нічога не адказаў, толькі губамі памыліў, ды ўнурыўся ў масьнічыну. Старая злосьць бруілася недзе глыбока ў душы і падкочвалася калючым камяком пад самыя грудзі, аж сьцінала дыхаць. Кастрыца на падлозе лезла сьляпіцаю ў вочы, раздражняла і ўзьнімала такія калючыя і хрусткія, як кастрыца гэтая, думкі, і ў голас дадаў:

— Аўгіня, а ты-б тым часам хоць-бы прайшлася венікам па хаце. Чалавек-жа сядзіць...

І стараўся гаварыць ціха, спакойна, нібыта з развагаю. Але па тым, як бегалі сківіцы твару, як мітусіліся агеньчыкі ў заняпалых вачох, як прарываўся гэты пісклявы і танклявы голас, чуваць было, як стрымлівае сябе чалавек, ня хоча перад братам сароміць сябе зьнявагай жончынай. А тая так-жа ў голас адказвае:

— А ты, Сілівонка, бяз працы-ж вось, узяўся-б, ды й падмёў.

— Эге, да чаго-ж ты, браце, дажыў, як-жа яна табой патурае,—падміргнуў Хвядос і лагодна церабіў сваю шырокую бараду.

— А вы, дзядзечка Хвядос, заткнеце ляпу сваю, ды пашукайце байструкоў ва ўласнай хаце. На што дык і гнілы Банадысь ваш, а на гора дзявочае спрыцён. А мне ў маёй хаце, нечага тут пра байструкоў гаварыць.

— Уга, уга, разышлася, рассыпалася... Па-першае, і не ў тваёй хаце я, а ў Сілівонавай. А па-другое, ня лезь куды цябе ня клічуць.

— Ня клічуць калі, дык плявузгаць няма чаго...

— Ну, годзе там... Дык я да цябе, Сілівон, з запрашэньнем Бачыш, жаніць-жа трэба байбуса майго Банадыся, годзе яму дзяўчатам падалы аціраць. Дык ужо сватаю, бачыш, за Макрыду яго. Запоіны будзем рабіць хутка. Дык ты ўжо заходзь, глядзі...

— Ды ўжо-ж,—адказаў панурысты Сілівон—як-небудзь зойдзем, як-жа, пляменьнік-жа, можна сказаць. Дзякуй за запросіны. Прыду...

І калі вышаў ужо Хвядос за дзьверы, тады ўздыхнуў неяк лягчэй і Сілівон, нібы ў плячох паслабанела. Падышоў да жонкі, унырнуўся ў яе твар і ў прыжмураных шчылінках воч яго скакалі агеньчыкі, ад комінку, ад пякучых смалякоў і ад пякучае чалавечае злосьці. Доўга глядзеў нібы ніколі ня бачыў. Трэсьліся абвіслыя мяшкі шчок, натапырыліся губы, ды дрыготкаю хадзілі шызыя сківіцы і па іх плавалі, і расплываліся белыя плямы—зьбялеў твар ад злосьці, ад зьвярынае нянавісьці.

— Сьцерва ты паўзучая...—І ўздыхнуў.

— А яшчэ што скажаш, разумец мой—і сказала гэтак спакойна, ціха. І гэта яшчэ больш кранула Сілівона, узарвала ўсё, раскідала сэрца на друзачкі, на крывавыя, на гаручыя.

— Паганка ты, у яго сын ахвіцэр, ён стараста над усё сяло, а ты гадаўка, думаеш яшчэ насьміхацца. Яна думае над ім кепікі строіць, бач, раўню знайшла сабе, ашметак ты анісаўскі...

— А вось табе з афіцэрам тваім, з старастам тваім дурным— і спакойна гэтак плюнула на падлогу, да прыўстаўшы з услону, нагой расьцерла.

— Вось я табе на тваіх ахвіцэраў і на тваю галаву плюгавую.

Ляжаў цюльпах бярозавы ля печы, важкі, сукаваты—усё зьбіраўся Сілівон калодкі выстругаць на лапці тыя, на вераўчаныя. Пасьпела такі адхіліцца Аўгіня і толькі храснула катушка з калаўротам, засьвірчэлі ашкалёпкі ў комінак, на агонь, ды бразнула кола, пакаціўшыся на падлогу. Зачапіўшы калыску, дзесьці ўпаў на палацях цюльпах ды зайшлося плачам дзіця ў калысцы, прачнулася.

— Зарабіў, гнілы...

Наступаў Сілівон з кулакамі, падкрадаўся, як воўк. І быў твар Сілівонаў белы, як сьнег, як зямля ў сьнегавым убёры, ды трэсьліся ліхаманкава рукі. І тады апанаваў Аўгіню страх, звычайны страх чалавечы перад жудасным, перад сьмяротным. І ўжо зьбіралася закрычаць Аўгіня, закрычаць на ўсю хату, голасам немым, зьвярыным, каб шукаць паратунку ў чорнай ночы, што стаіць за вакном змрочная, ціхая, жудасная—толькі паблісквае камінок у сьляпых ваконных шыбах.

І раптам нібы асеў Сілівон. Апусьціў рукі, да вокан падбег. Нехта недзе страляў—аж брашчэлі вокны. Адзін, два, тры стрэлы. Яшчэ і яшчэ. Чуваць, як пабеглі па вуліцы людзі, затупацелі коні. Нехта недзе крычаў, і крыкі гэтыя прарэзьліва ўрываліся ў цішыню, разьдзіралі яе, каламуцілі.

— Дык ты ўжо хіба сядзі ў хаце, пайду пагляджу, што там, крый божа, дзеецца.

І накінуўшы кажух, Сілівон пасунуў за дзьверы.

---

Набіралася зіма апошніх сіл, кідала ў абадраныя стрэхі, у сьляпыя вокны хат сялянскіх апошнія жменькі сьнегу. І мокрым быў сьнег, азызлым, ліпучым. Убіраў ледзяною карой сьцены, пазьедзеныя старасьцю і шашалем дзьверы і вокны, наліпаў на шыбкі, з-за якіх ледзь-ледзь паблісквалі цьмяныя цяпельцы камянкоў, ды закураных газовак.

Ды плакалі стрэхі. Нуднымі цягучымі сьлязьмі, якія падалі глуха ў макрэдзь, у халяпу, у рэдкую сьнегавую кашу.

Прыхіліўшыся да спарахнелае шулы, галасіла ўдава Барташыха. Яна даўно ўжо выплакала свой голас і асіплыя словы выляталі праз сілу з высахлых грудзей, вылялі з глухім надрывам і губляліся адразу ў парываньнях ветру, мяшаліся з замецьцю, з сьнегавою завеяй. Галасіла Барташыха аб сыне, аб Антосі, аб

долі сваёй безталаннай, аб сьмерці той, што даўно ня прыходзіць, аб днёх тых, за якія выплакала даўно вочы—і ня спраўдзіліся дні тыя, надзеі тыя.

— Ці думала-ж, ці чакала... Прыдуць адбяруць у цябе сына, адбяруць кармільца-паільца. Колькі то год ня было. Сустрэліся ўпотайкі... І няма ўжо болей. І ня вернецца болей... Прышлі прыляцелі, як груганы тыя, каб адабраць, забіць, жыцейку тую маладую прыкончыць...

Колькі ўжо разоў клікаў з сянец Ахрэмчык—старэйшы з малечы, каб да хаты ішла. І, не дачакаўшыся, махнуў рукой, ды пашоў у хату.

— Няхай ужо выплачацца...

І, не паліўшы сьвятла, сядзела сям'я Барташысіна. Чатыры сыны. Старэйшаму—чатырнаццаць, малодшаму—шэсьць.

І малодшы дзівіўся...

— А навошта было ім карову браць? Ну й сярдзітыя-ж, адзін яшчэ мяне як вытне.

— Як надзяру вот патыліцу, дык змоўкнеш. Карову, карову... Галава твая дурная,—агрызаўся Ахрэмчык. А ў самога думкі не давалі спакою.

— Нашто-ж усёжткі было карову браць. Лёгкая гэта справа—набыць яе... Але ліха яе бяры, усёроўна ялаўка... кармілі от толькі здарма, колькі тае трушанкі аднае пашло... Але нашто-ж было Антося браць, ды вязаць яшчэ. І так тры гады праслужыў, ці ім мала? Да яшчэ ранілі, у плячо, казалі людзі ў самае плячо патрапілі. Ці выжыве яшчэ? Ат, выжыве... Вунь, як дубы калісьці панскія валілі, дык жа як яшчэ прыціснула лясінай, думалі і духі тыя вон. Але не такі ён, Антось, акрыяў, уга...

Маўчаў і прыслухваўся, як вые за вакном вецер, завывае ў коміне, ды ўсё чакаў: а ці хутка ўжо маці да хаты прыдзе, ды якую там вячэру пастравіць. Ці так жа сядзець бяз справы, час марнаваць. Ды й малым жа пара на куросаньне.

— Так, малым жа пара на куросаньне...—адганяў ён думкі назойлівыя, дрымоту, што ахінала з усіх бакоў, ішла ад печы, ад змрочных куткоў, ад запарушаных сьнегам шыбак—холадна там, сьцюдзёна. А ў хаце ўсё ж зацішна і ў печцы палілі—ідзе цяплыня ад яе, разьліваецца. І калі напрацуешся за дзень—трэба і ў дровы зьезьдзіць, і каня дагледзець, і карову тую—дык як сеў за стол, адразу і зьліпаюцца вочы. І ўсякая тады чамярыца ў галаву лезе. А часьцей за ўсё пірог, вялікі, вялікі, як тая матчына скрыня. Вялікі і салодкі, саладжэй чмялінага мёду, саладжэй соку клёнавага веснавога. Важнецкі пірог. Але дзе-ж ты яго пакаштуеш. Толькі от бы рукой за яго, каб адкрамзоліць кавалачак той, як гіне пірог, рассыпаецца і нямаведама дзе прападае. Толькі матчын голас суровы, ды моцныя кухталі ў плечы.

— Ізноў парасьселіся, ірады, ды спаць за сталом, ня іначай вам і месца няма на палацях. Ай-да, супастаты.

— А ты, глядзі... разышлася...—агрызаецца Ахрэм.
— Ты мне пагавары яшчэ, дык аперажу матузамі. Кладзецеся ўжо на месцы...
Ї матка доўга яшчэ будзе сядзець ля стала і ўглядацца ў запарушанае сьнегам вакно, прыслухацца, як кідаецца вецер, ловіць у свае ледзяныя абыймы шурпатыя стрэхі, ды спарахнелыя сьцены. Будзе доўга прыслухацца, будзе доўга глядзець, будзе доўга чакаць. Ї, не дачакаўшыся нічога, пасунецца, як цень, як чорная здань, туды, дзе ўтулак прусоў, кажуха, пахкае цаглянае цяплыні чарэні. Туды, дзе за комінам чорным, так ціха, зацішна, дзе адыйдзе сэрца, саграюцца старэчыя грудзі, і тады з даўно выплаканых воч выцісьнецца сьляза, другая.
Ї стане лягчэй. Бо „падрастуць, адужэюць, на людзёх не загінуць". Не! Не загінуць...

---

Сьвяціла сонца шырока, ласкава. Кідала цяплынь поўнымі жменямі на пачарнелы сьнег, на вуліцы, на хаты, на мокрыя стрэхі. Ї курыліся стрэхі парам, нібы кудзеркі дыму слаліся па саломе, лашчылі яе, спавівалі.
Ї здавалася—усьміхалася пад сонцам чорная барада Сяргеева, рыбалкі Сяргея. На базары шчупакоў прадаваў, вуюноў піскля-вых, ды колькі там плотак тых, карасёў.
— Ї дзе табе так пашанцавала, пане Сяргей? „Шчэ летам—сюды, туды, а дзе ты гэта зімой шчупака паддзеў?
— Уга, на іх, браце, прыдуха прышла. А калі прыдуха—бяры іх тады голымі рукамі. Ведаць вось толькі трэба, дзе можна іх прычакаць. Ну, а вуюноў у скрыпках набраў, іх цяпер сіла ідзе, абы толькі скрыпак хапіла. Бяда толькі, што ня ўжываеце вы рыбы гэтай, няма каму прадаваць.
— Нельга нам, бо нячыстая рыба. Вось шчупак, плотка—гэта нашая рыба. А вуюны—грэх, бачыш на вужа падобны.
— Гм... вужаку... Ты паглядзеў-бы вось як учора ў мяне стражнікі аб'ядаліся імі, сам прыстаў і той загадаў дзесятак прынесьці.
— Стра-а-жнікі... А няхай ім духі заложа...
— Эге, дзе ім залажа, калі з аружжам яны. Але-ж лоўка гэта хлопцы правялі іх учора. Бадай усе ўцяклі. Я гэта скрыпкі ставіў, бачу раптам, бягуць чалавек з пяцёра, бягуць, спатыкаюцца, да цераз балацянку ў лес. Толькі гэта яны перасігнулі рэчку, як тут чалавек з дзесяць конна за імі. Прыскочылі да мяне, куды, кажуць, пабеглі...
— Куды, кажу, у лес, канечна, вун...
— Ты так і сказаў?—пытаюцца дакорліва Моталь шавец ды Янкель Пагода.
— А што мне было казаць?
— Як што?

— Я-ж усёроўна ведаў, што з коньмі туды не пераскочыш, праз балацянку нашу.

— От так і казаў бы ты...

— Дык вы думаеце, што гэта я ўжо і знарок дарогу ім паказваў, стражнікам гэтым? Уга, такі я дурны. Туды, брат, ня толькі што конь, птушка туды не заляціць. Паспрабавалі-б, усіх коняй-бы там патапілі. Толькі-ж і собіла ім Антося Бартаха ўзяць, і то не на рэчцы, а ў самым гумне. Не пашанцавала хлопцу, замарудзіўся, а тут ўжо й некуды было ў вароты кідацца. Сігануў праз сьценку—бярвенцы там аселі—ну, стражнікі яго якраз на сьцяне і прышылі.

— Ну?

— І ўсё... Узялі з сабой і зьвязалі.

— А навошта было Івана Іванавіча браць, прычым ён тут?

— А гэта вы ўжо запытайцеся ў каго-небудзь другога. Прычым тут ён—гэта мне невядома.

І сапраўды,—думаў Сяргей,—а пры чым-жа тут Іван Іванавіч. Ну, дэзэртыры, ну трэба страляць, раз закон так загадвае. Карова Барташыхі і тая пры месцы, за дэзэртыра. Іван-жа Іванавіч, як відаць, з боку прыпёку...

І нават бровы нахмурыў Сяргей, да таго-ж ён нязвыклы быў думаць, а тут раптам Іван Іванавіч. Як-жа гэта так, што тут можна сказаць і да чаго?

— Эх, рыбіна ты, бяз голасу таго, без разуменьня. І кроў, можна сказаць, у цябе халодная, а туды-ж лезеш, каб пажэрці каторую, праглынуць, ня йначай. Цыбал той прожар—от бы ўзяў, да праглынуў усіх...

І шчокнуўшы шчупака па носу, сунуў было яму палец у зябры—войстрыя там, хвацкія зубы.

— Ня ўкусіш цяпер, падла, прышла на цябе прыдуха—дзень чорны. Але-ж ня йначай прыдзецца самім шчупачка зьесьці, дзе ты таго пакупца на аўторак знойдзеш. Няхай хіба ўжо жонка паласуе... Дзе яно наша не прападала...

---

Чыталі дванаццаць эвангельляў.

Жоўтыя сьвечкі сагіналіся ад сваей цяплыні і разьлівалі трапяткое сьвятло на посныя і закураныя твары сьвятых, на мядзяныя ўбёры багародзіцы, на чорныя ў змроку начным пратасэі.

Людзі сагіналіся на калені, прыкладаліся лбамі да закапленай воскам халоднай падлогі і замíралі на міг, нібы адчуваючы таемную сьвятасьць у гэтым дотыку халоднай царкоўнай падлогі, дзе воск, дзе ладан, дзе бруіцца сьвежае паветра ад дзьвярэй, дзе чутны шэпты парэпаных вуснаў:

— Даруй-жа мне, госпадзі...

Людзі ўставалі і ўглядаліся задумённа ў блеклую пазалоту царскіх дзьвярэй, у змрочныя цені, што лялалі па сьценах ад жоўтых, танюткіх са сьлязою васковай, сьвечак. І твары ў людзей

былі посныя, блеклыя, васковыя. Прыслухаліся, як бубніць Лаўрэнаў голас, лавілі паасобныя словы, паасобныя сказы, сачылі за рухам яго рук, і, калі жагнаўся ён, тады, як па камандзе, узьнімаўся лес рук, і ціхім шолахам пранасіліся шэпты-словы: „ва імя айца і сына, і сьвятога духа...“

І пад шолах гэты калыхаліся змрочныя пратасэі, мігцелі жоўтыя, трапяткія, са сьлязой васкавой, гаручыя сьвечы, і скакалі ад уклонаў цені пад столь, пад блакітны кумпал, адкуль углядалася адзінае, у адзінстве сваёй суворае і варожае вока, вока госпада Саваофа. Пасьля Лаўрэна чытаў Яўхім сухэрухі. І калі жагнаўся ён левай рукой—людзі нехаця думалі:

— Ці ня грэх гэта,—а ці можна-ж левай?

Думалі і жагналіся, праганялі грэшныя думкі, што адрывалі ад слоў эвангельскіх, ад пакут божых. Слухалі, і ў кожнага былі свае думкі, у кожнага былі свае меркаваньні, свае надзеі. І, бадай ува ўсіх: „а можа й вайна хутка скончыцца, дай-жа, божа, дай-жа ты літасьцівы...“

Думалі і аўстрыякі аб гэтым, што шчыльнаю купкаю згрудзіліся ля дзьвярэй, стаялі з суворымі, настарожанымі тварамі. Тут быў і Язэп з абвіслымі чорнымі вусамі, і чорнавокі Янук, што скоса, нібы засароміўшыся, пазіраў на людзей, на жанок, на палахлівыя позіркі дзявок. І старэнькія бабкі, каторыя думалі:

— От жа як наскія... звычайныя людзі і жагнаюцца нават, і каторыя моляцца нават... І няўжо-ж Івана майго загубілі, у акопах застрэлілі... Няўжо-ж ворагі ўсе вось такія... Ня можа быць... Даруй-жа, божа, мне грэшныя думкі, непатрэбныя словы...

І торапка жагналіся, торапка шапацелі словы да бога, торапка падалі сьлёзы ў каторай і сьлёз гэтых было ня чуваць. Былі яны слабыя, бязьсілыя. Лягчэй сьлёз тых васковых гаручых—іх чуваць было, як падаюць яны, капаюць перад мядзянымі ўбёрамі багародзіцы. Падыходзілі людзі тады, у сьвітках, у кажушкох—і папраўлялі сьвечы, выпроствалі і тушылі каторыя. Папраўлялі, жагналіся, адыходзілі на сваё месца і зноў жагналіся. І над усім разьляталіся словы—то ціхія і плыўкія, то гучныя, сьмелыя, то таропкія, заходлівыя—не разьбярэш, адкуль яны.

А знадворку ўлятал галасы звонкія, крыклівыя, да задзірлівыя. Яны часам дзёрзка ўрываліся пад змрочную столь, крывілі ўсьмешкай каторыя твары, ды бабка якая, палахліва азірнуўшыся, прасіла госпада бога:

— Даруй ты ім паганцам, хіба яны разумеюць...

То гуляла на цьвінтары моладзь—хлапцы, дзяўчаты. Неўгамонная піскпявая малеча віхарам насілася ля агарожы, ля распрэжаных вазоў, ля панскага саду, што насунуўся на цэркву купамі кленаў і ліп, ды высокім яловым штакетам.

Гудзелі званы на дванаццаць эвангельляў, дрыжэла званіца тады і дрыжэла паветра, пахучае, вясновае пад глыбокім і чорным небам. І захліпаліся сэрцы дзявочыя, сьціналіся грудзі. Ды дзе-ні-дзе па змрочных кутках пішчэлі дзяўчаты, рагаталі хлопцы

і ўзьнімаўся гармідар цэлы. Стары Лаўрэн, які выходзіў, каб падаць знак на званіцу, дакорліваківаў галавой, ды кідаў з ганкаў царкоўных:

— Ах, жа і шкнарадзь гэтая... Ні ім месца сьвятое, ні ім слова тое эвангельскае... То-ж распуста...

Але гаварыў так, абы гаварыць. І, зірнуўшы на зоры,—то-ж год ураджайным будзе, колькі іх высыпала—браўся за вяроўку, торгаў яе, знак падаваў на званіцу, каб не праспаў званар, не прапусьціў чарговае эвангельле.

Ля дзьвярэй Настуля стаяла. Прыслухалася да звону, да слоў эвангельскіх, да звонкіх галасоў. Спрабавала маліцца, углядалася ў твар багародзіцы, да той застыглай усьмішкі, з якой пазірала багародзіца на свайго сына. І нічога нельга было разгадаць у гэтай усьмішцы, абыякавай, нярухомай, халоднай. Таму й на сэрцы было суха, ня шлі словы малітвы, нібы садніла і гарэніла на душы. Стаяў перад алтаром стараста Хвядос, жаўцеў Цыбалаў кажух і кажух быў шырокі ў плячох, прысядзістыя, да таго-ж шырокі, да таго-ж раздаўся ўшыркі, што, здаецца, засьціў усіх сьвятых, адціскаў іх сваей жаўцізной. Ды пабліскавала намасьленая патыліца Цыбалава, некаторыя валасіны зьліпшыся старчма стаялі на ёй, настырбучыліся.

— Іш, як цялушка языком залізала, зашурпаціла...

І крыўдна стала.

— Цялушка-ж...

І ўсьміхнулася:

— От-жа няхай так і будзе...

А што яно „так"—добра й ня ведала. Толькі ўсьміхнулася, бо дужа-ж сьмешныя гэтыя валасы настырбучаныя. І ўсьмішка расплылася на твары, зьлілася з позіркам сырамяжлівым, што кінула на людзей, на суседзяй бліжэйшых, на аўстрыякаў. І позірк той Янук спаймаў, спаймаў і засіліў, і цяжка было адвесьці яго, ад воч яго адыйсьці. Толькі згасла ўсьмішка, схавалася пад расьніцамі, ды зацяплілася сэрца цяплынёю трапяткою, глыбокаю.

— Даруй-жа мне, божа.—Адагнала думкі звычайныя, жаночыя, чалавечыя.

Шлі з цэрквы удвох з Тацянай Козішкінай. Пасябравалі на працы ў фольварку. Таму і хадзілі разам. І гаварылі разам, абменьваліся думкамі разам. І думкі, як сьвечкі тыя, што з цэрквы нясьлі ў гэтую ноч, калі дванаццаць эвангельляў, такія-ж палахлівыя, трапяткія.

— Бачыла і я... Зірнуў на цябе як, а ты нібы салома тая—пырх і гатова...

— Дужа то...

— А ты ня дужкай, хлопец ён над хлапцамі хлопец, даў-бы кожнаму божа яго прыгажосьць і спрыт...

— Не кажы, Тацяна, грэх... Ды яшчэ ў сьвятую ноч...

— Ат сьвятую...

— Ціху ты...

— Чаго цішкаць і чаго саромеешся? Калі што, дык я й скажу, перадам, што любіш яго, заляцаешся...

— Дурная, ён-жа ня наскае веры, краю ня наскага, аўстрыец...

— Толькі то клопату, рукі ў яго-ж наскія, на работу наскую спрытныя...

— Кінь хаця...

Ішлі далей моўчкі. І ў кожнай былі думкі свае, звычайныя, жаночыя, чалавечыя. І нехта не гаварыў, а шыкаў адзаду, глытаючы словы, пырскаючы сьлінай:

— Іш ты яе, кабыла... Нагуляла і дзе што падзелася... І жывучая, як кошка, бач ты яе, раздабрэла...Ліпучае да жыцьця гэта байструцкае племя... З Настуляю, бач, пасябравала.

— Хадзем хаця хутчэй,—падагнала сяброўку Настуля.

---

Ахіналі ноч туманы.

Вільготныя, цёплыя, якія бываюць хіба толькі ў красавіцкія ночы, калі чуеш, здаецца, як дыхае зямля, як прачынаецца яна ад зімовага сну, ад зімовае скутае нярухомасьці. Цурчаць гучныя ў цішыні ручаіны, шумяць вадаспады лагчын і ў хмялявым паветры, напоеным сокамі абуджанай вясною зямлі, узьнікаюць таемныя галасы, таемныя гукі. То шархане аб бераг нерасталая крыга, то сава кігікне раптам у кусту, напалохаўшы нечаканасьцю сваёй стомленага падарожніка, то падасца лёд на балоце, асядзе, альбо ўздымецца, узадраўшы прымерзлыя купіны, махавіну пухнатую— з карэньнем выскубе яе і падрэжа. І гук той—як цяжкі ўздых— ляціць павольна над полем, над лесам, над дарогай лесавой, балацянаю.

Тады настаражаваецца сэрца і б'е часьцей у тахт узбуджаным сілам зямлі і цямрынь ночы настаражвае вуха. І чалавек прыслухаецца: да ночы, да зямлі, да яе вялікага і таемнага подыху, у якім захована няўміручая радасьць—радасьць нараджэньня жыцьця. Новага, з новай зелянінай палёў і лясоў, з новаю чырваньню красак, з новаю цяплынёю сонца, з пяшчотамі вясновага ветру, з росамі, туманамі, дажджамі, з радаснымі нястрашнымі грымотамі. Грымне раз—і набрыяюць сокамі вербалозы—у колькі тых сьвірысьцёлак загудзіць дзетвара, сьвірысьцёлак—гукі ў якіх як кволыя палявыя званочкі, як цурчэньне ручаёў пад ценкімі шкелцамі ледзяных убёраў.

Грымне два—ахінуцца берагі курасьлепам, нібы сонца ападзе на лугі, жаўціню сваю цёплую скіне з недасяглых вышынь.

Грымне тры—і кволая зелень убярэ палі, будзе буяніць рунь, расьцьвітуць мурагі пахучымі краскамі—сінімі, чырвонымі, блакітнымі. І над краскамі тымі будзе пчаліны гуд, гуд бадзёры, як жыцьцё, як змаганьне, як слодач узьвіхуранай працы.

Ахіналі ноч туманы, цёплую красавіцкую ноч.

Шла бяз конца дарога. І такія-ж бязконцыя думкі шлі, узьнімаліся, налятталі гурбай на спадарожнікаў. Цямрынь ночы хавала

іх постаці. Толькі чуваць было, як длыпаюць наперадзе разьмераныя крокі аднаго, ды адзаду, крыху збоку пасьпяшае за імі другі, часам у подбежку, сапучы, кідаючы нахаду абрыўкі слоў, абрыўкі сказаў.

— Дык пусьцілі, кажаш?

— А як-жа іначай, Іван Іванавіч? Ці гэта мне за другіх сядзець, чужыя грахі на свой карак прымаць.. Дужа тое... І так, бадай, больш, як паўгода праседзеў...

— Па суду пусьцілі?

— Да ўжо-ж... І колькі гэта ўсё прыставалі, як смала чапіліся: прызнайся, да прызнайся Жаранкоў, і нічога табе ня будзе... Добра то прызнацца... Хто гэта гатоў на сябе сіло ўзьдзець? Уга...

— Та-ак... Дык памучылі, кажаш?

— Ці 'шчэ, ці годзе... Няма чаго казаць, на гэта яны аматары. Ама-а-тары ліха на іх... Каб на што-што, а на гэта спрыт маюць, вя-я-лікі спрыт. Яны, брат, цябе вышпігуюць, а да званьня, а да нітачкі. І душой ты не вінаваты, а прасіцца станеш—пусьцеце хаця жывога...

— Б'юць?

— Б'юць.. Ва-а-жнецкі б'юць... Так цябе зьлямцуюць, што ляжыш толькі, ды думаеш: і навошта толькі людзі стараюцца, кулакоў не шкадуюць, сябе зьнясільваюць. Бо ўсё-ж дарэмна, хіба-ж я чалавека забіў?

— А каб і забіў?

— Што вы, крый мяне божа... І да чаго вы?

— Гэта так... Да слова... Бачыш, худога чалавека і забіць ня грэх...

— Дык-жа худога, але—ўсё-ж ткі грэх, няхай яго лепш пярун заб'е... На тое-ж і суды ёсьць, каб разабрацца. Вось і я... Не вінаваты, ну дык і пусьцілі, навошта-ж ім трымаць мяне.

— І затое-ж пратрымалі колькі.

— А як-жа? Тут закон, нічога ня зробіш... Закон, ён, Іван Іванавіч, па галоўцы ня гладзіць. На тое-ж і закон.

Шлі і маўчалі. Жаранкоў думаў аб хаце—нябось хапілі гора, бедалагі—думаў аб двух цалковых, што засталіся яшчэ за Лейбай, каб-жа, крый божа, не наняў ён каго-небудзь новага. Зайздросьціў Івану Іванавічу—шчасьлівейшы то чалавек на сьвеце, ні жонкі ў яго, ні дзяцей—вольная сабе галава: рабі што хочаш, ідзі куды хочаш. Аднак, як сказаць—рабі што хочаш... Вось хоць бы яны...

— Іван Іванавіч!

— Ну?

— А вось, скажам, такая справа. Ніяк я тут не дабяру, што і да чаго. Сядзелі са мной—уга, колькі іх панагналі—чыгуначнікі гэтыя самыя, прайдзісьветны народ. Баставалі яны там, ад работы адмовіліся. Ну, й пасадзілі іх у турму. А за што-ж саджаць, скажам? Ну, адмовіліся ад работы, вялікі клопат, другіх наймуць, а гэтыя самі па сабе. Прычым-жа тут турма?

— Турма, кажаш? За забастоўку. Вось за што.

— Як гэта за забастоўку. Нешта я не разумею.

— Не разумееш? Яно й я не разумею... Ты от сядзеў столькі, а за што ты сядзеў, запытацца. Не адкажаш. Твая справа—не такая ўжо й вялікая справа. Але-ж і то вось колькі месяцаў вошы пакарміў.

— Гэта было...

— Бачыш-жа, было... Ні за вошта карміў, бо закон такі, царскі закон, каб схапіць чалавека і няхай сядзіць. Ім клопату мала, што ў цябе дзеці, што ў цябе жонка. А вось забастоўшчыкі, рабочыя. Скуры дзяруць з іх, у дзесяты пот уганяюць. А дома ў гэтага рабочага дзеці з голаду пухнуць, прусу пажывіцца нечым, бо бязхлебіца, нішчымніца. Ясна, што рабочыя хочуць, каб па людзку жыць, каб ведаць, за што працуеш, каб з голаду не памерці. Таму й забастоўка. На работу ня йдуць, чыгунка стаіць. А гэта ўжо закон не дазваляе. За гэта закон у турму садзіць... Ня бунтуй, паставілі цябе на працу, працуй і без ніякіх хітрыкаў. Дадуць што--дзякуй, не дадуць—пакланіся.

— Дзіва што пакланіся... Гэта, Іван Іванавіч, мэханіка тут, як бачу я, не такая ўжо хітрая. Вось яно што забастоўка. Але-ж і цара зьневажаюць. Другі гэта пачне, дык хоць ты вушы закладай. Так і думаеш, вось-жа добра, што няма ля цябе ураднiка нашага, ён бы табе сялёдкі задаў за такія размовы.

— Цара, кажаш? А ты разумей—пакуль будзе цар, датуль будзеш ты за некага ў турме сядзець, датуль будуць рабочыя пухнуць з голаду. Іначай ня будзе, бо цар над усімі панамі пан, а любы пан з табой не пасябруе.

— Уга, куды там... Знайшоў сябра. От бы я, скажам, і хоць бы сабе пан упраўляючы.. Ды што я кажу, куды там...

І нават засьмяяўся Жаранок. Сьмяяўся доўга з надрывам і ўсё зьдзіўляўся: сябры. Ну, і сябры... Каб то вас паляруш узяў...

Іван Іванавіч маўчаў. Быў недарэчным і дзікім гэты сьмех, бо ня было нічога сьмешнага: ні ў словах, ні ў думках, ні ў гэтай самотнай цішыні, што агарнула дарогу, прыдарожныя кусты. Успомнілася, што сёньня вялікодная ноч, вунь сьвіцяцца цяпельцы ля царквы, мігцяць водбліскі на разгалістых ліпах, хутка зазвоняць на васкрашэньне. Ноч, у якую даруюць грахі, у якую людзі павінны любіць людзей, кожнага чалавека, у якую ўсе людзі павінны быць братамі. Добрыя браты. Калі ёсьць у цябе рукі, дык і іх адбяруць у цябе на сваю патрэбу, тыя, за кім закон, за кім ураднік і прыстаў. Узялі цябе, схапілі, як арыштанта, штырхалі, як злодзея, пасадзілі на тыдзень. За што? Што брат твой у дэпо працуе, што брат твой рабочых бунтуе? Ну, добра, няхай сабе бунтуе, ягоная гэта справа. А я прычым? Хіба за тым, каб прыставу калымажку дарма паправіць? Узялі. А прычым Удава Барташыха? А прычым Жаранок? А прычым Напрэй Казёл, колькі то са старога пазьдзекаваліся. І добрая гэта справа—у чала-

века страляць: дэзэртыр? А зачым вайна? Дужа яна Антосю патрэбна? Ці мне, скажам? Прападзі яно ўсё пропадам...

Цішыня ночы прарэзалася працяглым і гучным звонам. Раз-два, яшчэ раз. І заліліся званы ў вясёлым і шалёным карагодзе, абудзілі самотную цішыню палёў і лясоў, заскакалі пагалоскамі сярэбранымі па дарогах, усьмішкамі разьліліся на блеклых тварах—пост прайшоў, разгаўляйцеся добрыя людзі, сьвяткуйце, радуйцеся, налягайце на пірагі вялікодныя.

Хведар Жаронак толькі—толькі руку ўзьняў, каб лоб пераэжагнаць, ды так і павісла рука—углядаўся ўсё ў адзін бок, спыніўся нават.

— Іван Іванавіч, што-ж гэта?

За царквой, што сьвіцілася ў водблісках вялікодных агней, за сялібамі панскімі ўздымалася зарава. Было яно нерашучае, трапяткое, нібы ціснула на яго цямрынёй сваёй ноч, апускала да самай зямлі, у мігценьні, у водбліскі на высокіх таполях, на ліпах, на высокай званіцы. Але-ж толькі некалькі мігаў распраўляла зарава свае пурпуровыя крыльлі і раптам узьнялося, ахапіла паўнеба, уздымаючы вёрткія снапы залатых іскраў, якія ўзьляталі і чэзьлі ў хмарах чорнага і шызага дыму.

І раптам заблыталіся вялікодныя званы і заместа вясёлага перазвону задзілінкалі ў палахлівай роспачы, у адчаі, у трывозе. Адразу набрыняла ноч страхоцьцем, спалохам, сабачым пужлівым брэхам.

— Эге, дык гэта-ж пажар. Ды панскае гарыць. Няйначай гумно?

— Як відаць...

— От-жа...—і нешта яшчэ хацеў сказаць Жаранок. Мо" аб тым, што ўсё-ж такі не шкадуе ён панскага дабра. Мо" аб тым, што й добра, калі трохі правучыць пана пажар, няхай не забываецца на бога, няхай не забываецца на мужыка. Мо" аб тым, што колькі то машын адных папсуецца ў гумне—адна малатарня чаго варта—от бы мужыку іх... Хацеў сказаць, але змоўк і толькі ўздыхнуў.

— Ты гэта чаго?

— Я? Так... Хвацка гарыць. Дужа-ж гарыць, Іван Іванавіч, адным вобмегам прахам усё пойдзе. Але ці доўга пану на новую абзаводку прыстарацца. Яму гэта ў мазалі ня ўлазіць, карак ня трэ.

— От гэта ты правільна кажаш, зусім правільна.

— Аб чым?

— Аб панскім дабры, пра карак панскі.

І хаця трывогаю насьцілалася ноч, хаця ў пужлівай роспачы захліпаўся сабачы брэх, і злавесна калыхаліся ў далёкім небе пурпуровыя крыльлі, неяк пругкімі рабіліся стомленыя дарогай ногі, і нешта блізкае на радасьць, на ўзбуджанасьць прачынала

думкі і сэрца. Дыхалася вальней, думалася сьмялей. І нібы званчэй цурчэлі ў абочынах мутныя ручаі, весела булькацелі пад ценькімі, крохкімі шкелцамі.

Ледзянымі шкелцамі, што нікнуць раніцой, чэзнуць пад веснавым сонечным праменем.

---

Зоры былі ясныя. Сьвіціліся холадна і перамірграваліся крышталёвымі праблескамі ў высокай цемрадзі неба. Пахла інеем, першай марознай зольлю і тым сьцюдзёным пахам зямлі, калі ў ядраныя кастрычніцкія ночы ачышчаецца зямля ад восеньскага бруду, прыкрай макрэдзі, калі спавітая за дзень срэбным павучыньнем чакае яна калючае сьнежнае завірухі.

Гудзіць тады зямля пад нагамі, ды кожны гук ляціць далёка, далёка, аддаецца пагалоскамі глухімі ў лесе, над полем.

— У самы раз...—думае сваю думку Цыбал і падбірае кожную трэску, сагнуты цьвік, папсутую шайбачку. Усё складае да месца, каб ня марна пашло дабро. Цьвік, скажам, кінь бяз розуму, яго і іржа зьесьць, і ніякае ад яго карысьці. А пакладзі яго, ён і спатрэбіцца.

А ў думках сваё:

— Ды цяпер самы раз—гудуць цапы па гумнах, перастукаюцца. Самая малацьба. А калі малацьба, павязуць і ў млын. І колькі тых капейчын адных... Каб не спадлавалі от толькі на гарнцах... Але ізноў жа вока сваё трэба мець...

Цыбал соўдаецца з куту ў кут і крокі яго цяжкія, важныя і ні таропкасьці ў іх, ні залішняе тае мітусіны, порканьня. Гаспадарлівыя крокі, лічаныя—лішняга ня ступіць, парог дарма не пераступіць. Хвядос—той інакшы. У таго аж рукі гарацьцца—хапілівы задужа. Нясьцерп яго бярэ—як бы хутчэй, ды каб ямчэй, ды каб яно ўсё адразу, узапар, узахапкі. Ён і ля машыны завіхаецца, і выскачыць на двор, паглядзіць, як там з комінам, прабяжыць—каменьне зірне, паставы тыя. І злосны праз меру, нецярплівы. Яўхіма Крывога, што прышоў разам з папом малебства правіць, так штырхнуў пад бок, што той і вузельчык з рызай папоўскай з рук выпусьціў, за бок хапіўся.

— Ходзяць тут, лапавухія...

А тут яшчэ народ назаляе. Прачуліся, што млын сёньня пускаць будуць—панапёрліся. Ды каб то моўчкі, дык не, кожны слова сваё пнецца выказаць, з парадай суецца.

— От у пана Вільчанскага, дык у таго каменьне наліванае... Ізноў жа паравік гэта самы. Ку-у-ды больш...

— Багата ты ведаеш...

Ды шэпты тыя, перашэпты:

— Але-ж дапялі, ліха на іх...

— Яны дапнуць...

— Бач ты яго Цыбала, проста ў мэханікі прэцца...

— Яна, брат, тут мэханіка простая, так абмаханяць, што апошняга гарца аддасі.

— Ты гэта пра што?—і ўсёй барадой наваліўся Хвядос на Напрэя Казла, які з клюшкай у руках стаяў ля дзьвярэй.

— Да пра мэханіку от, а што?

Барада і ў Напрэя шырокая, ды калючая. Прад якой барадой і непадаткая, няўломкая.

— А што?

Адвёў вочы Хвядос, бляск патушыў у іх, з пад вусоў толькі шып-шыпам:

— Стары ўжо чорт, а ўсё на ражон просіцца...

— Ня прыжджэш.

Замоўклі. Ды каторыя ў каўняры затуліліся. Даведайся, аб чым тыя каўняры думаюць. Але-ж навісла прыкрасьць нейкая, да таго прыкра, што ня ведаеш, за хто хапацца... І каб разьвеяць яе, замітусіўся айцец Панфіл, запоркаўся ля століку, ля ўслончыку чыстага, ліпавага, што пастаўлены былі за машынай. Стаялі на століку тым крапідла, ды чаша з вадой, з свянцонай, ды іншыя там прычандалы.

— Давай, Яўхімка, распачынаць, бо й позна ўжо...

Хапаліся, малебства вялі торапка, высклізаліся словы сьвятыя, як з нератаў тых маляўкі. Зрываўся з голасу Яўхім, захліпаўся на „падай гасподзі“, ды касавурыў вока на кут, дзе стаяла сёетое з хлебава, да з пітва. Хвядос жагнаў лоб ды важна пагладжваў чорную бараду, калі зацягнуў айцец Панфіл аб здравіі балярынаў Хвядоса і Івана. „Со чадамі і другі своя“.

— От яно як, балярын... пастой, мы яшчэ ня тое пакажам...

Прыслухаўся да балярына і Цыбал, але не разумеў. Бязуважлівы да ўсяго стаяў Язэп аўстрыяк. Адпрасілі яго ў Мацьвея Юльевіча на млынара каб паставіць, бо зручны быў Язэп да гэтай справы, ведаў толк у машынах. І не пасьпеў яшчэ айцец Панфіл скончыць малебства, як Язэп за машыну ўзяўся. І от пашла яна, усхадзілася, запырскала парай, ціха загудзела махавікамі, шасьцяронкамі. Спрабавалі мліва. Пару мяшкоў субару прывезьлі загадзя з папова двара, каб пусьціць на спробу. Бралі цёплую пахучую муку, разьміналі ў далонях, нюхалі, бралі на язык.

— У самы раз.

— Хоць блінцы пячы.

— Ва-а-жнецкі выходзіць.

Не сьцярпеў Хвядос, да Цыбала кінуўся.

— От жа ты ўсё ня верыў: да паглядзі-ж вокам сваім, памацай...

— Ды што... Ды хіба я... Аднак жа, як яно яшчэ будзе потым... Ізноў жа клопат...

— Дурны цябе поп хрысьціў...—І, схамянуўшысь, да айца Панфіла:

— Вы ўжо выбачайце, айцец Панфіл... Калі-ж ён такі няруха вы... Карысьці сваёй ня бачыць...

— А гэта, пане Хвядос, нічога... Ваш спрыт, ды яго развага...

— Ды вашыя, айцец Панфіл, грошы... І загудзе млынок... А там і сукнавальню прыладзім.

— А чаму-б яму, скажам, і ня гудзець, а чаго-б яго, скажам, і ня прыладзіць. На ўсё час патрэбны, ды розум.

Хадзілі ля машыны, захапляліся яе работай, мацалі яе гарачыя бакі. Тупаў пазадзе Цыбал, старожка выносіў свае думкі:

— І ня йначай на лад ідзе справа: добрая, здаецца справа... Ізноў жа, Хвядос ня дурны, дый поп дарма ўкладаць свае грошы ня будзе... Глядзі-шчэ ў пана можна і дзялянку адкупіць, калі што... калі пойдзе гэтая справа ладам. І самы час купіць... Сам Мацьвей Юльевіч нездарма казаў: „чаму-б табе, пане Іване, дзялянкі якой ня ўзяць... і прадаў-бы і сабе-б было, і дровы—заваліся, і ляды табе—не абярэшся проса...“

І здаецца, бачыць Цыбал вялікія засекі з просам. Вялікія, да высокія, ёмістыя... А проса, проса—буйное, уроднае, каліва ў каліва, як толькі курыцы праглынуць. Дужа-ж добрае проса. Каласы—тыя вехці аж да зямлі гнуцца, пад снапамі панарад трышчыць. Кашы тае кашы аднае колькі...

— Ай ды каша...—не сьцярпеў, думку тую, як птушку, выпусьціў, словам яна голасным праляцела.

— Пра што гэта ты?—запытаў Хвядос, п'ючы трэцюю чарку—магарычы пілі, добрых людзей частавалі, каб пашло яно ўсё ціха, да суладна, вокам якім злым ня сурочанае.

— Гэта так, браце... Гарэлка кажу смашная...

— Уга... Але-ж не ў гарэлцы адной смак...

— От, гэта так... Правільна сказана... Ісьцінна сказана... Кожны чалавек клопат свой мае, і ў клопатах тых смак знаходзіць. Галоўнае, клопаты. Бяз іх не пражывеш на зямлі, бо працу і бог паважае... і дарма хлеб ніхто ня стане есьці... На што от Яўхім у нас—ісьцінна сказаць, Іоў многапакутны—і той трудамі сваімі кавалак хлеба прыдбае. Ці ня так я кажу, Яўхімка?

У адказ прасапеў нешта крывы і яшчэ спрытней пачаў грызьці костку, ня досыць зручна адчуваючы сябе пад людзкімі позіркамі. Стараста Лаўрэн, які на ўсё меў сваю ўласную думку, дадаў:

— Але-ж як-жа, айцец Панфіл? Скажам чалавек свой клопат мае. Бяз клопату яно, канешне, не абыйдзешся... Мае чалавек і працу. Розную працу... Ун Гарпіна пасьля мужыка як засталася з дзецьмі, дык петуецца, петуецца—працы хоць адбаўляй... Але-ж якая карысьць з тае працы, спору ў ёй нямашака... Адно—трантамі сьвіціць з тае працы.

— Ну?

— Дык я й пытаю: чаму гэта так—адзін чалавак працуе да сёмага поту, але-ж і нішчымніца ў яго, і дзеці худыя, і хата дзіравая? Чаму-б гэта? А вось, ні да вока худога, будзь казана, дзядзька Хвядос, ці дзядзька Цыбал. Яно-б не сказаць, каб петаваліся задужа, клопат, канешне, вялікі ў іх, але-ж каб былі да мазалёў дужа здатны, дык гэтага не сказаў-бы: але глядзі ты... і гаспадарка расьце,і людзі шапкі ломяць, і млынок от згаралі паравы... Ці гэта ад працы, ці ад клопату? І як яно гэты клопат разумець?

— Эге, да ты, Лаўрэн, сігануў далёка. Ты, Лаўрэне, у сумненьне ўпаў... А словы божыя памятаеш? Аб талянце, які зарыў чалавек?

— Дык то ў пісаніі... А на зямлі от?

— Бачу, Лаўрэне, хапіў ты ўжо чарку залішнюю. Вялікі наш вораг сумненьне. Без яго лёгка жыць на зямлі. Без яго і цару добра, і пану, і мужыку, і Хвядосу, і Яўхіму Крывому. А сумненьне—іржа. Душу чалавечую яно есьць і гібее яна на зямлі, загіне і для неба,

Крышачку інакш думаў айцец Панфіл, а таму і адчуваў нейкую фальш сваіх слоў, няшчырасьць пра зямлю і пра неба. Але-ж быў крыж на ім срэбны, дзесьці быў благачынны, былі пастырскія пасланіі, епархіяльныя ведамасьці. І ў гэтым крыжы, у пасланіях, у паперах ад благачыннага, у ведамасьцях было так мала чаго-небудзь агульнага з розныміісьцінамі аб апошняй сарочцы, аб правай шчацэ, аб вялікім дараваньні за ўсё і за ўсіх. І калі былі якія сумненьні, дык хіба толькі ў бурсе у час кіпучай маладосьці. Цяпер іх нямашака, ад іх засталіся ўспаміны, якімі прыемна часам пашлакатаць сябе пасьля ёмкага полудню на ўтульнай папоўскай канапе. Ды набытыя гадамі звычкі, каб супакойна было ўсё, каб бяз турбот, без хваляваньняў, без мазалёў тых на сэрцы. Сын хіба—адзіны мазоль... Няварта ўспамінаць пра яго...

-- Та-а-к... Ня трэба сумненьняў. Сумнявацца—жыць нельга... Дык вып'ем за нашых гаспадароў, за справу іхнюю, за жызьню нашу.

Пілі, цалаваліся, шапталі на вуха адзін другому п'яныя словы, паілі Крывога і прымушалі яго скакаць. Матлялася калашына Яўхімава і чамусьці мітусілася думка ў папа:

— А што, каб жаніць Яўхіма, што-б было?

І ад Яўхіма пераскаквалі думкі на пападзьдзю і тады сьціскаліся кулакі. І калі дашоў да самага большага градусу, узьняўся за сталом—грузны і кашлаты. Кулакі тыя сьцятыя, пудовыя.

— Братцы, пайду пападзьдзю пужаць, жыцейка мае яна атруціла!

Рагаталі. Нехта раіў ня пужаць, а па макаўцы стукнуць.

— Душа ў яе і так камарыная, адно званьне—душа...

Хацеў супярэчыць айцец Панфіл. Сіліўся нешта прыгадаць з Дамастроя, па сталу кулаком біў, каб слухалі. І тады Лаўрэн узяў пачціва за рукавы і, гледзячы на срэбны крыж, пачаў прасіць:

— Бацюшка. Усе пад богам ходзім, а ты найбольшы ў нас... З цябе і адказ будзе большы прад ім... Нягожа так перад людзьмі... Хадзем, высьпецеся...

— Кінь, чалавеча, ня тузай... Што ты мне? Пыл, божы чох, адна відзімасьць?

— Можа я й Лаўрэн, стараста Лаўрэн, а ня відзімасьць... Але-ж хадзем...—і ўжо ня зусім пачціва ўзяў за рукі і пацёг да дзьвярэй, на двор, каб завесьці да хаты.

Пераліваліся срэбнай лускою зоры. Стыгла зямля, кажанела ад холаду. Ля бярвеньняў, на кучы дубовых трэсак ляжаў Яўхім і зрэдку ўздрыгваў нехлямяжым сваім тулавам. Дзесьці за гумнамі вылі сабакі.

— На месік, відаць...—падумаў Лаўрэн, падтрымліваючы грузнае паповае цела і зьлёгку штырхаючы яго наперад.

А ў млыне доўга яшчэ сядзелі людзі, магарычы канчалі. Хвядос падносіў свой жылаваты кулак да Цыбалавага носа, пытаўся:

— Ты гэта бачыў?

— Здаецца, кулак...

— Тут ты, браце, правы... Адзін кулак у мяне і другі кулак... Ды нечага і табе ніціцца... Спрытныя і ў цябе кулакі, хаця ты і сьлімакаваты крыху, усё ўпотайкі, зьнеціку каб узяць. А ты так, як і я—налапам...

— Сьмеласьці ў мяне не хапае, пане Хвядос... Я лепш моўчкі як абыйду, а потым з чалавекам пагаманю, ды каб словам добрым якім усьцешлівым да яго падыйсьці. Чалавек і абмякне, падасца, як полаз той кляновы ў парні. Што хочаш і гні ты тады з яго... А сьмеласьць яна навошта, не да маёй яна натуры... Ты чалавеку не назяляй, на вочы яму задужа не станавіся, будзе і ён да цябе больш спагадлівы... І я моўчкі і раблю ўсё, ды вечарамі тымі, калі чалавек змарыўшыся павячэрае, ды млявае цела сваё на палаці кіне, затужаныя косткі распраўляе... І думкі тады ў чалавека цяплей, і сэрца ў яго адыходлівей, мягчэй... От тут яму слова цёплае ласкавае... Усё што хочаш аддасьць...

— Ну й жа ша-а-шаль з цябе, трэба сказаць. Але ты ня крыўдуй... Лепшага свата мне ня трэба.. Так, брат, цісканём, так жыманём—сам прыстаў будзе першым за ручку брацца... Гэта я не жартую...

— Ды яно, канешне... Абы капейчына верная была. Клопат-жа...

— Даліся табе капейчыны. Вышэй бяры, сваце Цыбал. Тут рублямі пахне, не капейчынамі.

— Дай-жа ты, міласэрны наш божа...

Цыбал сядзеў унурыўшы пляскаваты твар у стол і ўсе яго думкі, яго вочы, няўгінастыя маршчакі былі прасякнуты адным і тым-жа.

— Каб-жа то даў божа...

Няўломкія пальцы напіналіся, ўсё сіліліся нешта падлічыць, падвесьці нейкую рахубу.

— Хаця-б каб з большага... Зямелька—яна сваё аддасьць... Трыццаць дзесяцін купленай, ды каб з палавіны... Глядзі ты, за тысячу перасігне... да млын... Ізноў-жа адработ... Бульбу па вясьне, калі скажам капцоў з пяць на вінакурню, ды сена... ды калі дзялянку ўзяць—адных карчоў тых колькі можна на смалакурню... Хіба от няўпраўка толькі, чалавека лішняга трэба... Але-ж і клопатна з гэтымі людзьмі. Ты яму й сарочку дай, і сьвітку спраў, канешне-ж і пакарміць трэба. Клопатна, дужа-ж клопатна... з чалавекамі гэтымі, з людзьмі абыходзіцца... Да дзе-ж ты дзенешся?

*(Працяг будзе)*

---

ТАРАС ШАЎЧЭНКА

# СОН [1])

### Камэдыя

Ізноў ляту. Зямля чарнее.
І дрэмле розум, сэрца, млее.
Гляджу я: хаты над шляхамі,—
То гарады з стама царквамі:
А ў гарадох, бы жураўлі,
Замуштравалі маскалі:
    І адзеты, і абуты.
    І кайданамі акуты,
Муштруюцца... Далей гляну,—
У даліне, як-бы ў яме,
На багне горад віднее;
Над ім хмараю чарнее
Туман цяжкі... Далятаю,—
То горад бяз краю.
    Ці-то турэцкі?
    Ці-то нямецкі?
А можа гэта і маскоўскі!
    Цэрквы ды палацы,
    Ды паны пузатыя.
І ні аднюсенькае хаты!
Зьмеркалася... Агонь—агні
Кругом запалалі [2]),—
Аж спужаўся... „Ура! Ура!
Ура!“ закрычалі.
„Цю-цю, дурні! Агледзьцеся!
Чаго вы так рады?
Што, гарыце?“—„Экой хохол!
Не знает параду—
У нас парад! [3]) Сам ізволіт
Сегодні гуляці!“

---

[1]) Канец, пачатак гл. „Пол. Рэв.“ № 6.

[2]) Ілюмінацыі ў гонар цара.

[3]) „Сон“ Шаўчэнка напісаў пад уражаньнем пецярбурскага параду, што адбыўся ў маі 1844 году.

„Ды дзе-ж яна, тая цаца?“
„Вон відзіш — палацы?“
Пхнуўся, аж землячок, бач,—
Дзякуй, прызнаўся;—
З бляшанымі гузікамі[1]):
„Дзе ты здзесь узялся?“
„З Украіны.“—„Так як жа ты
Й гаварыць ня ўмееш
По зьдзешнему?“ — „Ну не, кажу,
Гаворыць умею,
Ды ня хочу.“—„Экой чудак“!
Я ўсе ўходы знаю;
Я служу тут; калі хочаш,
Ў дварэц папытаюсь
Цябе ўвесьці. Толькі знаеш,
Мы, брат, просвешчэнны,—
Не поскупісь полцінкою!“
„Цур табе, нікчэмны
Каламару!“ [2]) І зрабіўся
Я ізноў нязрымы,
Дый прапхнуўся у палацы.
Божа мой, ядыны!
Дык во рай дзе! А як густа
Золатам абліты
Блюдалізы! Аж і сам вось:
Высокі, сярдзіты,
Выступае. А з ім побач
Царыца нябога,
Бы засушаны апенек,
Тонка, даўганога,
Ды на ліха йшчэ ківае
Тупа галавою.
„Дык вось-жа тая багіня?!
Ліханька з табою!
А я, дурны, ня бачыўшы,
Цябе, ляля, й разу,
Ды паверыў тупарылым
Тваім вершамазам [3])!
Вось-жа дурны. А йшчэ й біты!
На квіток паверыў
Маскалю! Ну, і чытай тут,
І дай ты ім веры!“

---

[1]) „З бляшанымі гузікамі“— у мундзіры,—значыцца—гэта быў чыноўнік.

[2]) Каламар—чарнільніца; тут Шаўчэнка насьмешліва называе так чыноўніка-канцэлярыста.

[3]) У 18-ым і на пачатку 19 веку ў Расіі часта траппяліся такія прыдворныя паэты, што апявалі цароў, царыц, іх радню ды ім падобных. За гэта яны й карысталіся царскаю ласкаю. Шаўчэнка заўсёды сьмяяўся з такіх паэтаў.

За багамі—панства ў срэбры,
Ў золаце бяз мэры!
Як раскормленыя сьвіньні,
    Мардатыя,
    Пузатыя!
Аж пацеюць, а тоўпяцца,
Каб-ды бліжай стаці
Каля самых: можа ўдарадь,
Або хвігу даці
Благаволяць—хоць маленьку,
Хоць паўхвігі, абы толькі
Пад самыя пыскі.
Ї у рад усе пасталі,
Нібы без'языкі,
Ані бзынкнуць... Цар балбоча,
А дзіва-царыца,
Бы-та чапля паміж птушак,
Скача, бадзярыцца.
Доўга ўдваіх пахаджалі,
Як сычы надуты,
Ды цішком штось размаўлялі—
Здалёку нячутна—
Аб ацечастве, здаецца,
Ды новых пятліцах,
Ды аб муштрах шчэ навейшых...
А потым царыца
Села моўчачы на зэдлік.
Бачу: цар падходзіць
Да найстаршага... ды ў морду
Яму як закоціць!
Аблізаўся небарака,
Ды меншага ў пуза—
Загуло аж!.. А той сабе
Йшчэ меншага туза—
Паміж плечаў; той-меншага,
А меншы малога,
А той дробных, а драбнота
Ужо за парогам
Як кінецца па вуліцах,
Ды давай мясіці
Недабіткаў праваслаўных,
Тыя-ж галасіці
Ды прагчыся, ды як раўнуць:
„Цар наш бацюшка гуляе!
Ура!.. ура!.. у-р-а а!“
Зарагатаўся я, дый годзе;
А й мяне даўнулі
Такі добра. Перад сьвітам

Сьцішыліся гулі;
Толькі там-сям хрысьціяны
Па кутках стагналі,
Ды стогнучы, за бацюшку
Бога ўсё благалі.
Сьмех і сьлёзы! Вось пашоў я
Горад азіраці.
Ноч як дзень там. Паглядаю:
Палацы, палацы
Па-над ціхаю ракою,
А бераг абшыты
Ўвесь каменьнем [1]). Дзівуюся,
Быцам з тропу зьбіты:
Як зрабілася яно во
З лужыны такое
Гэта дзіва! Во крыві тут
Выліта людзкое
Без нажа на‘т. А па той бок
Цьвярдыня й званіца,— [2])
Як завостраная швайка
Аж не надзівіцца,
І дзілінгае гадзіньнік. [3])
Далей пазіраю—
Аж ляціць конь, капытамі
Скалу разьбівае!
На кані сядзіць ахлапам [4])
Ў сьвіце—ці бяз сьвіты,
І бяз шапкі, нейкім лістам
Галава павіта.
Конь на дыбах,—вось-вось рэчку,
Вось-вось пераскоча.
А ён руку прасьцірае,
Бы сьвет увесь хоча
Заграбсьці. Хто-ж такі гэта?
Вось сабе й чытаю,
Што на скале накавана:
„Первому Вторая“
Гэта выставіла дзіва.
Цяпер-жа я знаю:
Во той Первый, расьпінаў што
Нашу Украіну [5])

---

[1]) Берагі ракі Нявы ў Пецярбурзе абкладзены гранітам.

[2]) Петрапаўлаўская крэпасьць з цэркваю Пятра і Паўла.

[3]) Гадзіньнік на Петрапаўлаўскай крэпасьці ў поўдзень іграў гімн цару.

[4]) Апісваецца памятнік Пятру І-му (Вялікаму) на кані на скале.

[5]) Петр І зьнішчыў аўтаномію Украіны, прымусіў казакаў працаваць у цяжкіх умовах над пабудоваю Пецярбургу, ды інш.

А Вторая даканала
Удаву-сіраціну [1]).
Каты, каты, людаеды!
Наелісь абое,
Накраліся! А што ўзялі
У магілу з сабою?
Цяжка, цяжэнька мне стала,
Так, нібы чытаю
Гісторыю Украіны!
Стаю, заміраю...
А тым часам ціха, ціха
Ды сумна сьпявае
Штось нябачана такое:
„А з гораду, а з Глухова [2])
Палкі выступалі
З рыдлёўкамі на лінію,
А мяне паслалі
На сталіцу з казакамі
Наказным гэтманам! [3])
О, божа наш міласэрны!
О, цару паганы!
Цар пракляты, подла-хітры,
Асьпід прагавіты!
Што зрабіў ты з казакамі?
Балота засыпаў
Іх шляхотнымі касьцямі!
Паставіў сталіцу
На іх трупах катаваных!
І ў цёмнай цямніцы
Мяне вольнага гэтмана
Голадам замучыў
У кайданах... [4]) Цару! Цару!
І бог не разлуча
Нас з табою: кайданамі
Скованы са мною
На век-векі. Ня лёгка мне
Лунаць над Нявою!
Можа Украіны далёкай
Ужо няма—ня знаю...

---

1) Кацярына II канчаткова скасавала аўтаномію Украіны, зьнішчыла Запарожскую Сеч і завяла на Украіне прыгоніцтва.

2) Пётр I зруйнаваў сталіцу Мазэпы—Батурына. Пасьля гэтага гэтманскаю сталіцаю быў Глухаў.

3) Гэтман—Паўла Палуботка. Казакаў з ім выслалі, каб капаць канавы, ды расчышчаць на балоце месца для сталіцы—Пецярбургу. Цераз няспрыяльныя ўмовы працы на поўначы шмат казакаў загінула.

4) Паўла Палуботку Пётр I пасадзіў у Петрапаўлаўскую крэпасьць, дзе той і памёр.

Паляцеў-бы, паглядзеў-бы,
Дык бог ня пускае.
Масква выпаліла можа
І Дняпро спусьціла
Ў сіне мора? Раскапала
Курганы-магілы,
Нашу славу? Божа мілы!
Зжалься, божа мілы!"
Дый замоўкла. Пазіраю:
Бела хмара крые
Шэра неба, а ў тэй хмары—
Бы ў гаі зьвер вые.
То ня хмара,—бела птушка [1])
Хмараю спусьцілась
Над царом тым масянжовым [2]),
І загаласіла:
„І мы скованы з табою,
Людаед з бярлогаў!
На судзілішчы на страшным
Мы закрыем бога
Ад вачэй тваіх нясытых.
Ты нас з Украіны
Загнаў голых і галодных
У сьнег на чужыну,
Дый парэзаў, а з скур нашых
Сабе баграніцу [3])
Пашыў жыламі тугімі
І заклаў сталіцу
Ў новай рызе. Падзівіся:
Цэрквы ды палацы!
Весяліся, кат праклятын,
Люты сьмерце-даўца!"
Разьляцеліся і зьніклі.
Сонейка ўставала,
А я стаяў, дзіваваўся
Ды аж страшна стала.
Бедакі ужо ўставалі,
На працу сьпяшылі!
Маскалі ўжо на распуцьцях
Муштроўку рабілі.
Краем вуліц пасьпяшалі
Сонныя дзяўчаты, [4])
Ды ня з дому, а да дому:

[1]) У вобразе „белай птушкі"—замучаныя казакі.
[2]) Масянжовы—бронзавы.
[3]) Баграніца—пурпуровага колеру царская вопратка.
[4]) Сонныя дзяўчаты—распусьніцы.

Пасылала маці
На ўсю ночку працаваці,
На хлеб зарабляці.
А я стаю, пахіліўшысь,
У думках разважаю:
„Як-то цяжка хлеб штодзённы
Людзі зарабляюць!“

Вот і брація сыпнула
У сэнат[1]) пісаці
Ды падпісываць, ды з родных
З бацькі, з брата драці.
А між імі й землячкі тут
Сям-там праглядаюць;
Па-маскоўску так і рэжуць,
Сьмяюцца ды лаюць
Бацькоў сваіх, што іх змалку
Дзэкаць не наўчылі
Па-нямецку, а цяпер тут
Кісьні во ў чарніле!
П'яўкі, п'яўкі! Можа бацька
Астатню карову
Прадаў, каб дурня наўчыці
Маскоўскае мовы...
Украіна! Украіна!
Вось-жа твае дзеткі,
Твае зьлітыя чарнілам
Маладыя кветкі,
Маскоўскаю балбатнёю,
У нямецкіх цяпліцах
Заглушаны!.. Плач, Украйна,
Бязьдзетна ўдавіца!

Пайці хіба падзівіцца
Да цара ў палацы:
Што там робіцца? Прыходжу:
Дворня (стаў ўзірацца)
Стаіць радам, сапе, храпе
Ды панадзімалась,
Як індыкі, і на дзьверы
Коса паглядала.
Адчыніліся во й дзьверы—
Няйначай з бярлогі
Мядзьведзь вылез[2]). Ледзьве-ледзьве

[1]) Сэнат—гэту вышэйшую за царскія часы судовую ды адміністрацыйную Установу заснаваў Пётр I.
[2]) Мядзьведзь-Мікалай I

Пераносіць ногі,
Ды адуты, пасінеў аж:
Пахмельля праклята
Яго мучыла. Як крыкне
На самых пузатых,—
І пузатая ўся хэўра
Ў зямлю паляцела!
З ілба вылупіў ён банькі,
І ўсё задрыжэла,
Што было там. Як шалёны,
На меншых гукае,—
Ў зямлю й тыя: ён да дробных,—
Тыя прападаюць;
Ён да чэлядзі—
І чэлядзь прапала;
Да маскаляў,—маскалікі,
Толькі застагнала,
Пашлі ў зямлю. А на сьвеце
Ўсё, бы ў нейкім цудзе.
Я гляжу, што далей будзе,
Што рабіці будзе
Мой мядзьведзік? Стаіць сабе,
Галаву панурыў
Небарака. Дзе-ж прапала
Мядзьведжа натура?
Як той коцік—такі сьмешны!..
Я аж засьмяяўся!
Аж пачуў ён, ды як зыкне—
Я перапужаўся
І збудзіўся... Вось якое
Ў сьне пабачыў я тым
Дзіва дзіваў! Гэта-ж толькі
Сьніцца дурнаватым
Ды п'яніцам. Ня крыўдуйце,
Браткі дарагія,
Што не сваё расказаў вам,
А то, што сасьніў я!

*З укр. мовы пераклаў* ЯНКА КУПАЛА

1844, 8/VII
С.-Пецярбург.

ЦІШКА ГАРТНЫ

# КАСЬЯН РУЛІН

## I

Касьян Рулін, токар па мэталю, раптам спыніў станок і рушыў да дзьвярэй.

— Таварыш Рулін, у чым справа?—пацікавіўся майстар цэху, сурова зірнуўшы ў бок токара.

Той адмахнуўся на отсеб рукою і штосьці мармытнуў сабе ў нос.

— Чакай! Яшчэ няма перапынку...

Токара пераняў не загадны голас майстра, а старшыня заўкому, вясёлы, жыцьцёрады Бумбэрг.

Алтарка, як таварыскі менавалі Бумбэрга, бег у майстэрню з мэтаю праверкі вырабу пальцаў для трактароў. Непаладкі, нарэшце, зжыліся—майстар урачыста давёў гэта старшыні заўкому—праца наладзілася. Як гара з плеч! Маладзец Алтарка!

— Я да цябе, таварыш Бумбэрг!—перабіў яго ўзьняты настрой Касьян Рулін.

Гутарка пачалася пры дзьвярах.

— Маеш справу?

— А тую-ж.

— Якую? Не памятаю.

Токар пачырванеў ад злосьці. Сплюнуўшы на бок, ён напоўлаянкай выгукнуў:

— Кароткая памяць... Чаму, калі з мяне патрабуецца, ты доўга памятаеш.

З-за бліжэйшага тачыльнага станка данёсься к ім цікаўлівы ўзрок барадача Багатніка.

— Астынь, таварышы глядзяць.

Бумбэрг зьмяніў вясёлую міну на сур'ёзны выгляд: яго сабраны ўзрок крануўся Руліных вачэй. Токар ня струсіў: яго перакошаны ад гневу твар грaзіў старшыні заўкому няпрыемнымі сюрпрызамі.

Алтарка ведаў Касьянаву натуру.—Яго капрызы ня раз выводзілі Бумбэрга з роўнавагі. Як заусёды старшыня заўкому сьпярша гнуў на сорам. Руліна гэта не прабірала: відаць было па настроі, што Касьян зацяўся на сур'ёз.

— Кажы прэтэнзыю.

— Я патрабую зьняць з мяне вылік.

— То не ад мяне аднаго залежыць.

— Вы мне—во тут сядзіцё...

Чорны, здаровы Касьянаў кулак грукнуў у мейсца, пад якім знаходзіцца сэрца. Бадай адначасна другая рука порстка тузанула за клямку дзьвярэй, упусьціўшы ў цёплую майстэрню густы струмень марознага паветра.

Падасьпеўшы майстар цэху адмеціў на старшынёвым твары рысу, якое дагэтуль не заўважваў. І ў постаці Бумбэрга пружынілася сіла, што ў рэдкіх-рэдкіх выпадках да яе зьвяртаюцца падобныя Алтарку людзі.

— Прызаві яго да дысцыпліны, таварыш Мурок.

— Фэльдфэбэляў даўно пагналі к...

Бразнулі дзьверы і спынілі сабою справядлівае абурэньне старшыні заўкома ды майстра цэху.

Рулін апынуўся па-за майстэрняй.

— Ізноў мо' пра вылік?—павяртаючы ў праход між станкоў, справіўся ў Алтаркі Мурок.

— Бяда з ім ды годзі... Ты правяраў добра, можа гэта не яго брак?

— Вось яшчэ: што за недаверлівасьць?

— Тады—бяз усякіх патворваньняў...

— Зрабі раз-другі ўступку—ні ад Руліна, ні ад іншых клопату не абярэшся.

— Ведаю... Гэткіх хлапцоў трэба ўзяць у рукі.

Яны ўважліва правяралі работу станкоў, спраўляліся пра якасьць апошняе дастаўкі сталі, аб загартаванасьці зубіл. Мурок перадаў старшыні заўкому шаблён і той прымераў да пяці толькі што вышаўшых з-пад рэзцу пальцаў.

— Малайчына, Мурок, ты выказаў сваё ўменьне і старанасьць.

Майстар задаволена ўхмыляўся: Алтаркава рука, стукаўшая яго па леваму плячуку, казытала нутро. Дзесьці з яго глыбі, з-пад сэрца ўзьнялася нейкая жывільная струмень і разьлілася па ўсёй істоце бадзёрым захапленьнем. Майстра пацягнула да непасрэднай, пры станку, рабоце, ажно ён не ўцярпеў, адціснуў бліжэйшага рабочага ад станку і ў квадранец вытачыў дасканалы палец.

— Каб я сам... Пастаўце мяне, калі ласка, да станку і я вам...

— Кінь-кінь-кінь... Тваё дзела...

Старшыню паказалі на дзьверы, з якіх моўчкі, разьмеранымі крокамі, з апушчанай галавой вайшоў Касьян Рулін. Не азіраючыся па баках, ён задуменна прайшоў да свайго станка, пастаяў бязрушна і пачаў апранацца. Пару разоў ён зьверыўся на гадзіньніку, пэўна мяркуючы расьцягнуць зьбёры да гудка. Першая яго нота рушыла токара з мейсца. Але ўзьняты рэзрух пасперашкодзіў яму вольна высьці з заводу. Насупіўшыся Рулін спы-

ніўся ў дзьвярах у той момант, калі Алтарка Бумбэрг вышаў да іх з праходу між станкамі.

— Праветрыўся крыху?—нязлосна праказаў ён хмураму, як ноч, токару.

— Гэтым вы мне не прыдасьцё хэнці да працы.

— Выбачай, калі я цябе пакрыўдзіў... Пры чым-жа тут агульная справа?

— А я для вас гной?

— Таварыш Рулін, падумай, што ты гаворыш!

— Мне ня трэба тваіх маралаў. Заўтра сам станавіся пры маім станку... Так...

Тут ужо было не да развяг—Алтарка бачыў перад сабою чалавека, з якім трэба гаварыць інакшай мовай.

Зараз Рулін дэманстраваў нядобрымі паводзінамі і выдаваў сябе за шкоднага, беспадстаўнага скаржніка з рвацкім задзёрам.

Алтарка ўпічліва паківаў галавою. Злосьць страсянула яго істоту. За дзьвярыма майстэрні ён правёў Касьяна суровым узрокам і выказаў насьпеўшую думку: „Добры майстар, а з дзівацтвам“.

## II

Два гудкі, тоўсты хрыпаваты і звонкі тэнаровы, адначасна забрачэлі па шыбах у вакне Руліна пакою. Ніводзін з іх ня быў з яго прадпрыемства. Тоўсты належаў трыкатажнай фабрыцы, тэнаровы—гарбарскаму заводу. Няўжо Касьян праслухаў сырэну з „Пераможца“?

Ён прыўзьняўся на ложку і зазірнуў у вакно: лёгкая шэрань золку разьлівалася рэдкаю стальлю. Сьціраліся контуры цьмяных прадметаў. Часты тупат рабочых, што сьпяшалі на працу, выразна аддаваўся ў сьвежым паветры. Час, калі Рулін звычайна ўставаў: нават сон дзесьці зьбег.

— Касьян, Касьян! Пара ўставаць!

У жанчыным голасе зычэла прыкметная трывога—яна запазьнілася будзіць мужа.

— Зараз!

Адказ не падобіўся на заўсёдашні, чаму жонка папярэдзіла:

— Палова восьмай!

— Пасьпею.

Марцэля дарма нэрвавала, завіхаючыся з прымусам: вар падстыў, пакуль Касьян сабраўся піць чай. Ён не зьвярнуў жончынай увагі на гэта; паважна, з раздумам запіваў вяла жуючы маслам намазаны хлеб. Ну, чаму-ж у яго гэткая павольнасьць?

— Я заявіў учора, што на паўгадзіны спазьнюся,—астудзіў жончына зьдзіўленьне Касьян.

Але яно вярнулася да кабеціны, калі ён пакінуў кватэру пазьней звычайнага мо‘ на паўгадзіны.

Марцэля пацікавілася на мужаву ходу, глянуўшы ў вакно. Касьян ішоў па інакшаму, як цонгля: ужо яго паходка сьвед-

чыла пра штосьці асаблівае. Жонка вышла ў двор і праз варотцы паглядала ў бок, куды накіраваўся муж. Заварат адняў з яе ваччу Касьяна, ну ў думках мятусіўся неспакой. Думкі жывахоць нырпаліліся ў галаве, шукаючы няведамых прычын і няясных здарэньняў, пра вошта Касьян упарта маўчаў.

Дзеці перабілі Марцэліну ўвагу; яны, зьбіраючыся ў школу, засыпалі яе рознастайнымі патрабаваньнямі. Цяжка было абяцаць іх выпаўніць, у кожным разе пакупкі яна зробіць. Вось разам з імі пойдзе ў горад і...

На выхадзе з двару дзеці з маткаю стрэлі бацьку: Касьян шпацыровачнымі крокамі вяртаўся дамоў. Марцэля вытарашчыла вочы.

— Ты сёньня зусім ня пойдзеш на працу?

— Не пайду.

У кабеціны напрашвалася жаданьне дапытацца прычыны, але муж схаваўся ў дзверы, а дзеці цягнулі з сабою.

— Ты нездароў, Касьян?—кінула яна запытаньне мужу, няведаючы ці яно да яго дойдзе.

— Ідзі, куды ідзеш!

Разгневаная, ў скрытным хваляваньні Марцэля не магла супакоіцца, гаворачы хлопчыкам пра сшыткі і пэналі, пра чырвоныя гальштукі і канькі. Каб было не безкарысна яна, бадай, вярнулася-б назад. Касьян мусіў-бы выкрыць ёй праўду, ды...

Трайма, маці і двое дзяцей, як па ўказцы, азірнуліся назад: трохпавярховы чырвоны мур скарачаў да гоняў паўкілёмэтравы праход ад дому.

Касьян якраз выходзіў з двару, ды яны не маглі яго бачыць.

Дзеці разьдзяваліся ў шырокім і сьветлым калідоры школы, а Марцэля заносіла пальцам на язык каліва масла, прабуючы яго якасьць, калі Рулін падышоў да няскончанае стройкі новага корпусу „Пераможца".

З-за высокага тыну, запярэшчанага надпісамі, нясласся бурлівая струмень рознастайных гукаў, сьвісту, бразгу. У іх зьлітным, напэўным шоламе, аднак, не магла схавацца выкліканая к жыцьці вострым уяўленьнем спэцыфічная нотка, што спускаў яе новы Касьянаў станок сваім шпаркім вярчэньнем. „Хто сёньня за ім назірае?"

— Няхай, хто хоць,—перацяў сумлівыя ваганьні Рулін і даў волю злачыннаму жаданьню. Каб яго арэчавіць—токар ткнуў пальцам у цёмнае вакно, за якім мясьціўся габінэт Алтаркі Бумбэрга.—„Ня быць Касьяну на „Пераможцы".

Надпісы разьвеялі яго змрочныя намеры; ён падышоў на адгон сажню ад тыну і прачытаў:

„Лодыр, бракароб, прагульшчык—агенты клясавага ворага!"

Хапала аднэй—яна трапна кранула мейсца ў Касьянавым нутры, на якім завязаўся ўчарашні намер. Раптам яму зрабілася ні то млосна, ні то балюча: каб прымеў, ён пераскочыў-бы апукаю, праз тын і...

Алтарка вырас у яго вачу ў жывы папрок. Між літар надпісу мігалі непатрэбныя, злыя думкі, папхнуўшыя Касьяна на ўчынак, які...

Штосьці перaймала прызнаньне свае віны. Касьян чужою нядобрай характарыстыкай перабіраў баявыя лёзунгі. Ён пасягаў на іх жывое ўзьдзеяньне, намерваўся выняць для спрэчкі коўзкія аргуманты, як зьнянацку хтосьці тузануў яго за рукаў.

Касьянава постаць адказала нэрвовым уздрыгам. Рулін зьнячэўку выбачыўся:

— Калі ласка!

Лейзар Шамес, яго сусед па рабоце, зьдзіўлена паглядзеў на таварыша.

— Ты-ж чаму сёньні не на працы?

— Не хачу.

— Усяго і матываў?

— Толькі.

Лейзар упічліва замармытаў.

„Рулін забываецца—ён недаацэньвае становішча".

— Ці не забыў ты дэкрэту аб прагульшчыках?

Чырвоныя вішні пракаціліся Касьянавым тварам.

— Памятаю... Але заводзкія парадкі...

Наступны момант зьнізіў і зьмякчыў яго жорсткі тон:

— Разумееш, Лейзар, са мною нячэсна паступілі. Ты-ж мяне ведаеш: калі я зрабіў якую шкоду? А гэта здарылася, проста міжволі... і з бюджэту трыццаць рублёў... Падумай, таварыш Шамес!..

— Трапляецца, ніц не парадзіш.

— Альбо завод збанкрутаваў-бы, каб мне даравалі? Ды, ведаю, тут Алтарка зубы точыць на мяне... Рулін стаў так, каб пераняць Шамесу дарогу. Кожны Лейзараў поверт выклікаў Касьянаву вострую настарожлівасьць.

— Ты ў гэтым памыляешся. Спусьціць табе за псуту, вольную ці знарочыстую—ні Алтарка, ні ўвесь склад заўкому, ні бюро парткалектыву—ня могуць... ды ня маюць права. Падумай сам, што на гэта скажуць Шалаі ды Рыбнікі, гэтыя зацятыя бракаробы? Як рэагавацьме наогул увесь цэх?

Шамесавы довады панталыжылі Рулінавы меркаваньні. Касьян ня мог уявіць іх устаноўкі ды сэнсу. Няясным паказалася яму Лейзарава пазыцыя: сусед і таварыш, выходзіла таксама схіляўся на бок Алтаркі. Няўжо?

Рулін прыкусіў язык; яго думкі мігам спляталіся ў глухі вузел і аднялі на момант мову. Лейзар Шамес бесьперашкодна зрабіў пару крокаў ад Касьяна.

— На адну хвілінку!

— Зараз вярнуся.

— Я ня буду чакаць... Скажы, Лейзар, хто працуе на маім станку?

— Ах, я забыў сказаць: Плошкін... і, сукін сын, зламаў пару шасьцяронак... Гэта з-за твайго прагулу,—кіўнуў пальцам Шамес.

Касьян Рулін не пасьпеў выказаць вострай лаянкі, якая напорыста праціскалася ў горле, як Лейзар схаваўся ў будынку ІТР.

З табэльнае вышла трое рабочых: усе яны мо‘ з хвіліну глядзелі ў Касьянаў бок. Стаяць ад гэтага яму аднаму пад тынам, разглядаць завучаныя, прайшоўшыя ў нутро сваім лёзам надпісы, было яшчэ горш ніякавата. Безнамерна і бязмэтна ён сарваўся з мейсца і накіраваўся ўгору па вузкай завілай вуліцы. Беспадстаўная крыўда на Бумбэрга хапалася за яго пачуцьці.

III

„Марцэля з Бронісям Папяровічам?“

Касьян не памыляўся—то былі яны. Замуляла едкая прыкрасьць. Ці-ж можна сумнявацца, што гутарка ідзе пра яго? Марцэля неспакойліва верціцца на мейсцы, а Броніська раз за разам сьцьвярджальна ківае галавою.

„Ня варта пападаць ім на вочы“.

Касьян вярнуўся на левую панэль і павярнуў у завулак, які выводзіў на прагараднае ўзвышша. Пакуль ён апынуўся на мейсцы, адкуль можна была назіраць багатую панараму ваколічных будынкаў і крыху ўправа чатыры шэрых карпусы „Параможца“, Марцэля атрымала ад Броніся поўную інфармацыю пра мужа.

— Яго на рабоце сёньні ня было,—паведамляў занепакоенай жонцы Папяровіч.—Я наведваў заўком і Алтарка Бумбэрг пагражаў яму няцікавымі рэчамі. Бач, гэта-ж прагул...

— Разьлічаць, чаго добрага?—дазнавалася Марцэля, тут-жа дакараючы Касьяна:—І што яму ўпала ў галаву! Зварʼяцеў чалавек, ці якое ліха. Крый чаго... Хадзіў-хадзіў дзень у дзень, акуратна, а гэта... прагул!..

— Так, зараз... ды ніколі... прагулам не патвораюць. Тым болей, што нашаму брату-рабочаму пара самому разумець, на каго і дзе ён працуе. У Касьяна, часамі, вырываецца непатрэбная вольнасьць...

— Але, але... братка мой, каб ведаў колькі разоў я вымаўляла яго дзяцінства... Бывае—паслухае, а гэта—ўкрадкі... жа-арты-і не пайсьці на працу!.. Няхай-бы ўжо гэты вылік... за ўсяголаў ён... А каб пакралі з хаты, ці, крый чаго, іншае няшчасьце? У жыцьці, ці-ж ня бывае?

— Дарэмна ён пашоў на гэта... Не хвалю Касьяна... Ды, якраз, вазьмі, Плошкін—зьвіхні станок, новы, як лялька...

— Што-а ты кажаш, што-а ты!.. Броніська, прашу цябе, калі дойдзе справа да дрэннага—уступіся... прашу—уступіся.

Броніська Папяровіч даў Марцэлі няпэўную абяцанку і яна няўсьцешанай пашла да сябе. Кабета туліла пад жоўтым кажушком уразеная сэрца і думкі рэялі, як разварушаныя пчолы.

Касьян, Касьян!

Перад заходам у двор Марцэля праверыла абодвы канцы вуліцы—мужа ня відаць. „Дзе-ж ён? Як-жа паведаміць яму пра станок, выхвалены ім як любае дзіця?“

У гэтым пункце былі лішнімі Марцэліны хваляваньні: казаць ужо не патрабуецца. У гэтыя хвіліны станок займае і Касьянавы думкі. Ахаяны, праверавы, прынакрыты мяшком, ён блішчэў у Руліным уяўленьні, як звычайна ў сапраўднасьці. Точны ход, падмазаныя трубкі, спружынкі і вінцікі. Пруткі ўтрым зубіла; роўны, гладка сшыты рамень. А пасьля Плошкіна? „Ы-эх-з...“ Іскраю бліснула рашучасьць: зараз-жа вярнуцца ў майстэрню, адштурхнуць наймацней недарэку Плошкіна і... дзесяць, дваццаць, трыццаць, наўзабой, суцэльным ланцугом тачыць-тачыць беззаганныя пальцы... „Бач, трактары чакаюць. У МТМ кіпіць праца па рамонту. Вясеньняя сяўба, уборка чакаюць спраўных, абноўленых машын, а я...“

Ногі не чакалі вяленьня рушыць з мейсца. Касьян паскоранымі крокамі зьмяраў няроўны завулак. Перад ім стаяла тыльная сьцяна якогасьці хлява, калі ён уздумаў яшчэ раз зірнуць на высокі комін „Пераможца“. Дарма—праз паўгадзіны ён апыніцца перад табэльнай. Ня пойдзе да Алтаркі—на што?—накіруе праўцом у такарню і бяз усялякага попыту—зоймецца точкаю.

Але там, адкуль надовечы ўгледзеў жонку з Папяровічам, Касьяна напаткаў гудок. Не абедзенны, а вяшчаўшы пятую гадзіну. Ён прыпыніўся ў нерашучасьці, пасьля павярнуў на кватэру. Нацягнутыя нэрвы не абяцалі нічога добрага і першае запытаньне Марцэлі ледзь ня выклікала буру. Касьян ня мог-бы вытлумачыць сабе, што за акалічнасьць ацяла яго душэўную завостранасьць.

— Не працаваў, ведаеш—ня горда, а ўнізьліва адпавеў ён жонцы.

Кабеціна пашкадавала мужа і замест ушчунку, кінула яму едкую заўвагу:

— Ня так ты зрабіў, як трэба, ня так. Прагул—гэта пляма... чорная пляма...

— Маўчы, я магу заўтра выпраўлю свой учынак...

— Каб-жа хоць выправіў, а як ды...

Касьян спыніў жонку крутым махам рукі, але ня спыніў яе сумненьня. Яна моўчкі, сьціскаючыся, частавала яго незаробленай вячэрай. Ён еў з раздумам, далёка бяз той заўзентай гардлівасьці, з якою пераступіў парог учора вечарам.

„Праўда“...

Прызнаньне ўпіралася ў якуюсьці цьвёрдую сьцяну.

„Яшчэ ці-ж праўда?“

Выйсьця ня было—жаднай сьветлай прагалінкі, якая бы лягла на яго апраўданьні.

„Алтарка, ён...“

І дзіва—даўгі шнурок брыдкіх выбрыкаў расьцёгся ў шэрань мінулага.

„Алтарка не вінаваты, не...“

Старшыню заўкома зьмяняў майстар цэху.

Чаго ён учора займаздароў да яго прыстаў? Заўсёдашні негавар, маўчун, на гэты раз Мурок выказаў сябе...

Касьян неўраўнаважаным паклаўся спаць двыма гадзінамі раней ад звычайнага.

IV

Броніс Папяровіч з Лейзарам Шамесам пакінулі Касьяна Руліна перад вакном заўкому і схаваліся ў калідоры табэльнай. Касьян нават чуў, як таварышы павесілі, бразнуўшы, жоўтыя, круглыя нумаркі. І стук варот у майстэрні быў той-жа, глухі і мяккі. І посьвіст пушчаной трансьмісіі. Далей-далей заверцяцца станкі, забрашчыць лябёдка, зашмаруюць напільнікі. Сьледам пачнецца тое, што завецца працаю, вядомай ды зразумелай Касьяну, але ўжо, здаецца, чужаватай, няласкавай.

Годзе!

Касьян рашучым рыўком зьняўся з мейсца і апынуўся ў чатырохкутным сумнаватым пакоі. Трое чалавек займалі свае сталы: па левую руку машыністка, направа—рэгістратарша, перад ім—старшыня заўкому, Алтарка Бумбэрг. Жанкі паднялі вочы на Руліна і мігам апусьцілі, як нічога ня бывала. Алтарка пісаў, мэрам не заўважаючы Касьяна.

— Добры дзень, таварыш Бумбэрг!

— А-а!

Прыветнасьць у голасе абяцала невядомае.

— Я ўчора зрабіў...

— Дрэнна-дрэнна зрабіў, таварыш Рулін. Наракай на сябе. Ты аднёсься да заводу, да нашага, савецкага прадпрыемства, як да свайго ворага. Хоць ты і маеш шмат заўваг за свае дзівацтва—усё-ж я не чакаў ад цябе апошняга ўчынку. Ніхто не чакаў. А калі праведае калектыў у цалку...

Алтарка пісаў і гаварыў. Яго роўны вымераны ўзрок сьвідраваў Касьянавы прыжмураныя, сарамлівыя вочы.

— Што-ж...

Рулін адчуваў сваю неправату, але чакаў слова, намёка, морга Бумбэргавых веек, хоць чаго выбачлівага, абы хоць каліва адпусьцілася пружыністасьць нэрваў.

— Нічога... Ты разьлічаны з заводу...

— Таварыш старшыня, дайце рады... Няўжо вы бачыце ва мне ворага? Дзесяць гадоў беззаганнае працы, а гэта за адзін дзень прагулу...

— Злоснага прагулу, не забудзь. У дадатак—твая віна ў псуце станку... Вучыся, таварыш Рулін... Каму-каму, а табе пара агойтацца. Табе даравалі тваю капрызьлівасьць, шкодную і дзікую. На твае гутаркі махалі рукою—а мо' то хвілінны, пераходны настрой. Сапраўды-ж вунь куды яно закацілася! Прыходзь за разьлікам...

Старшыня заўкому кінуў пісаць і ўпарта глядзеў на Касьяна. Гэта скоўвала токараву волю і мяртвіла яго рэч. Пачуцьцё гнала словы, але роздум не знаходзіў у іх патрэбы. Спакойны выгляд Бумбэрга наўрад, ці кранула-бы хоць што. Ён гаварыў Руліну не ад сябе: у яго адказе зьлілася агульная думка трыкутніка. Важкія калючыя сказы перадавалі прагульшчыку адносіны да яго заводу, майстэрні, станку—жывога, складанага мэханізму, на якім ляжала высокае прызваньне багаціць дасягнутыя посьпехі сацыялістычнае стройкі.

Касьян Рулін вышаў з памяшканьня заўкому разьбітым, абяззброеным, нячэмным. Ногі не паслухалі прайсьці дзесятак сажняў да габінэту сакратара парткалектыву. Напамінак аб дырэктару гаварыў пра бескарыснасьць яго наведаў.

Бальнейшай аставалася дарога на кватэру. Цэлы кілёмэтр—а вось яму ўсплыве збавіцельная думка і дасьць палёгку. А Марцэля? Чульлівае сэрца! Ён вернецца і скажа: цалкам віновен—здурнаваў. Даруй, жонка!

На паўдарозе Касьян хапіўся за ўважлівыя прычыны, якімі апэруе жыцьцё.

Бывае... Што-ж... Мацьвей Крупенік?

Таварыш-гарбар весела прывітаўся.

— Ты, я бачу, сумуеш аб нечым?

— Справы не вяселяць.

— Якавы?

— Разьлічылі з заводу.

— Разьлічылі з заводу, за што?

— За прагул.

— Гэта ўжо няцікава... За прагул! Скажы мне, будзь ласкаў, што-ж табе надало ў гэткай форме закапрызіць? Не чакаў, таварыш Рулін, не спадзяваўся ад цябе.

Касьян ня рымсьціўся на мейсцы; у сярэдзіне бушавала атрутлівая злосьць; узрокі апускаліся долу. Падбівала да апраўданьня, ды на яго не хапала падстаў, грунту. Ногі стаялі няцьвёрдахістка.

— Вылік, разумееш, за няма нішто... Упартасьць старшыні заўкому, ці пом...

— Так-такі і ўпэўнены ва ўсё гэта?

Супроць Крупенікавай сур'ёзнасьці ў тоне і ў выглядзе да холаду спакойнага твару—цяжка рабілася ўстаяць на мейсцы. Адказу нельга было сфармуляваць. Касьян маўчаў.

— Прагул—зброя клясавага ворага. Ці-ж можна, пасудзі сам, дэманстраваць падобнымі сродкамі! Мы... рабочая кляса... на чале з нашай мужнаю партыяй... мы будуем, пакладаем усе свае стараньні на хутчэйшае ажыцьцяўленьне сацыялізма, а другія... і ты з імі... знаходзіш дзёрзкасьць прагульваць... Га-а? Скажы мне, якавы гэта прыклад менш устойлівым таварышом? Або ты думаў пра гэта? Не хвалю, н-не-э, таварыш Рулін. Маракуй на сябе...

— Мацьвей... Таварыш Крупенік, я ня меў намеру дэманстраваць... я...

Няпраўда туга падавалася афармленьню. Касьян адступаў няўмела, бо чуў ужо на сэрцы дакорлівае нагняценьне.

У разгубе ён не пачуў кінутага яму Мацьвеем разьвітаньня. Крупенік быў на адгоне да дзесяці сажняў, калі Рулін скмеціў яго адсутнасьць. Пакінутае гарбаром уражаньне на Касьяна няўзрочна цiснула яго, як жалезным абручом, трымаючы на мейсцы. З натугай рушыўшы ісьці, ён адчуваў непераможны цяжар. І празрысты адвячорак завесіўся смуглым мігатлівым вэлюмам.

Касьян да самае кватэры не ўлавіў ніводнае выразнае, закончанае думкі. Востры Марцэлін упік каўзануў між яго ашаломленага вушшу.

— Кажы-ж, га, Касьян, цябе зволілі?—пераказала яна запытаньне.

Навошта было шавяліць вуснамі ды варочаць языком, каб сказаць тое, што льга зразу прачытаць на твары? Нехлямяжы мах рукі вытлумачыў усё.

— Ай-ай, яй! Касьян, Касьян! Што ты сабе нарабіў!

Ясна. Руліну не аставалася спадзявацца на патвораньне свайму выбрыку. Нельга таксама, усіх западозрыць у згавору супроць сябе. Вінаваты...

Адбыўшы запозьнены абед, як фармальнасьць, ён моўчкі сеў за напісаньне лісту ў заўком.

„Дарагія таварышы!“

Далей не знаходзілася слоў на пажаданы сказ. Бач, гэтым сказам трэба перанастроіць Алтарку Бумбэрга і даць яму зразумець пра існую падаплёку свайму ўчынку. Вылік не павінен фігураваць. На адкрытую душу!

„Я вінават. Я вінават, па-першае, таму, што свае прыватныя інтарэсы пераважыў над агульнымі. Я вінават, па-другое, чаму пашоў на гэткі дрэнны ўчынак, як прагул. Я ня вырабіў пяцьдзесят штук пальцаў і затрымаў папраўку некалькіх трактароў. Я страціў дзень, якога не вярну. Праз мяне зьвіхтавалі станок... Мой цяжкі праступак... паводзіны горшага рабочага... учынак зрыўшчыка... Я стаў на варожы шлях...

Дарагія таварышы!

Запэўняю заўком, парткалектыў, усю заводзкую грамадзкасьць—што гэта я пакрыю... згладжу... выпраўлю... Верце мне, як чэснаму пралетару. Вярнеце ў майстэрню... Да майго станку, да „Камсамольца“. Бывайце.

*Токар Касьян Рулін*“.

Напісанае начорна было перапісана начыста. Зьмест не даваў усяго, што хвалявала Касьяна, але ён чуўся бязмоцным пасіліць шчырасьць заявы. Нават адрас з двух слоў ледзьве ўлажыўся напісаньнем у цэлую гадзіну. І калі заява апынулася ў шэрым канвэрце, Касьян палічыў сябе вольным, каб легчы спаць.

## V

То быў час, у які сыходзяць апошнія хвіліны сну. Яшчэ квадранец, яшчэ некалькі момантаў і пачнецца ўставаньне. Па ціхім гарадзкім вуліцам і завулкам зашнуруюць сотні і тысячы рабочых. Загрукацяць у звонкім паветры клапатлівыя крокі ног. Ахопленыя працоўным уздымам і пільнаю акуратнасьцю, засьпяшаць у бок фабрычных ваколіц бадзёрыя будаўнікі новага сацыялістычнага жыцьця. Жывымі рэзвымі струменьнямі пальюцца ў адчыненыя вароты заводаў і фабрык кіраўнікі станкоў, распальнікі печаў, сьлесары, малатабойцы, катляры, аўтагеншчыкі. Рэзвыя сырэны адкрыюць разгойданы рух творчае працы. Пачнецца дзень...

Касьян Рулін адзінотным парушаў перадабудную цішу, сьпяшаючы к заводу „Пераможац". Наўсьцяж кілёмэтру ніхто ня стрэўся яму на дарозе. Вартавы міліцыянэр, выткнуўшы з прызаводзкай будкі голаў, быў першым, хто ўгледзеў Касьяна.

— Ты куды?

— На працу... Але я пачакаю таварыша... Шамеса.

Міліцыянэр ўзяў яго на вока. Касьяну рабілася ніякавата, не таму, што за ім назіраюць. У яго нутру згрудзіўся ком трывожлівых адчуваньняў. Ён неўтрапёна тупаў два—тры крокі наперад і стольні-ж назад. Гэта былі жорсткія хвіліны кандэнсацыі адказнага рашэньня. Адно штосьці штурхала токара на спатканьне з Алтаркам Бумбэргам тут, во, на вуліцы, на вачох міліцыянэра. Другое, больш памяркоўнае, радзіла зьявіцца да старшыні заўкому ў габінэт і спакойна падаць яму заяву.

Правая рука ўпэўнена трымала жорсткі канвэрт. Зьмест заявы ня выклікаў сумненьня. Толькі-бы хутчэй яна стала вядома каму сьлед. Няхай бы той Алтарка на сёньні прысьпяшыў сваім прыходам. Так доўга яго няма!.. Ды нікога няма. Касьян гатоў быў западозрыць увесь рабочы калектыў у фармальных адносінах да працы: няйначай з'акураціць к гудку. Перахаўкне другі, калі...

Ён прагаварыўся: з-за рогу заводзкага тыну вышла першых трое рабочых. Яны прайшлі міма яго, амаль ня зірнуўшы. Чаму? Ласьне ім вядома, з кім маюць справу? Напэўна! Прагул кваліфікаванага стажнага токара ўжо вядомы ўсяму заводу. Каму ён, Касьян, цяпер цікавы?

Каб гэтага не паўтарылася, Рулін адышоў да рагавога будынку і стаў пры сьцяне. Рабочыя, што пацяклі з усіх канцоў, раздрабілі яго ўвагу. Гледзячы ўправа, ён прапусьціў Лейзара Шамеса, Плошкіна, майстра Мурка. Добра, што яны яго ня прыкмецілі! А калі знарок?

Тыя хаваліся ў варотцах табэльнае, калі Касьяну зарупіла іх аклікнуць. Вокліч ужо дасяг кончыка языку, ды замёр—ён аддумаў.

Будзе час. А цяпер... Напэўна заўкомаўская машыністка накіравала ў памяшканьне заўкому. Латва! Касьян пойдзе за ёй і паложыць на Бумбэргавым стале заяву. Манэўр спадабаўся.

Праз дзесяць хвілін гэта было зроблена. Машыністка нават і не заўважыла, што ён быў у памяшканьні: яна ў гэты момант перабірала паперы за шырокімі дзьверцамі кніжнае шафы. Ды рэч ня ў тым—Касьян не хаваўся. Наадварот, яму здавалася, што тупацеў даволі гучна. Хацелася, каб на калідоры, ці на ўсходах напаткаць Алтарку, або яшчэ лепш—сакратара парткалектыву. Ніхто ня стрэўся.

„Пайду ў майстэрню і стану за працу".

Тлумачэньняў і матываў гэтаму раптоўнаму рашэньню Рулін ня шукаў. Ён быў рад яго нараджэньню і хапіўся, як за знаходку. Можа, дзякуючы напорнай упэўненасьці, Касьян гладка прайшоў табэльную, заводзкі двор, усю даўжыню такарні і незаўважаным апынуўся пры станку.

Рукі порстка забегалі па папярэдняй каробцы, завярцелі шасьцяронкі, прарэвізавалі заціск разца. Усё было ў спраўнасьці—нехта, відаць, пасьпеў наладзіць станок. Добра! Ён першым уставіў кавалак сталі для пальца і першым закруціў станок.

— А гэта што?—пачуў Касьян з-за плеч пры першым завітку стружкі. Сьледам на правай лапатцы лёг якісьці цяжар.

— Не перашкодзіць!—гукнуў ён.

Плошкін—то быў Плошкін—голасна зарагатаў.

— Пусьці!

— Убірайся, кажу. Станок мой і пакуль цэлы...

— Пусьці, кажу табе.

Зьненацкі штуршок зьбіў Касьяна з мейсца.

Пры суседніх станкох настаражыліся.

— Т-ты-і!..

Хто глядзеў у іх бок, бачыў, як перад Плошкіным тварам мігнулася рука з абрубкам сталі ў жмені.

Наступная хвіліна суліла розныя нечаканасьці, але іх пераняў падбегшы Мурок.

Майстар, аднак, чакаў не таго, што ўгледзеў: ён быў ашаломлены, заўважыўшы перад сабою ў спэцхалаце Касьяна Руліна.

— Ты-ж хіба Касьян?.. якім чынам?...

Мурок адвёў руку.

— Я цябе не дапушчу да працы, таварыш Рулін...

— Чаму? Не перашкодзь, прашу.

— Табе вядома, паважаны...

— Мне невядома...

— Станавіся, Плошкін, пры станку.

Рулін загарадзіў станок.

— Пазаві старшыню заўкома.

Мурок апаў у настроі, махнуў рабочым, каб тыя не адцягалі ўвагі на інцыдэнт з Касьянам і выбег з майстэрні. Плошкін стаяў у нерашучасьці і ў невядомасьці

Рулін устаўляў другі палец для точкі.

Разец удала рысаваў белую палоску, уючы далікатную шпіраль гнуткае стружкі. Да дзіву плаўка хадзілі шасьцяронкі.

Касьян лагодна сачыў за працэсам точкі. Перш палец вышаў дасканалым. Другі...

У варотах паказаўся Алтарка Бумбэрг: Рулін інстынктыўна пачуў яго зьяўленьне ў майстэрні і трывожна азірнуўся. Старшыня нёс у руцэ разгорнуты лісток паперы—ясна, яго, Касьянава заява.

— Таварыш Рулін, хто табе дазволіў самаўпраўна ісьці ў майстэрню? Кінь станок!

Касьян сабраў усю сваю шчырасьць і выліў яе ў свой адказ старшыне заўкому.

— Я хачу апраўдаць сваю віну.

— Гэткім парадкам?

— У ім няма ні чорных хітрыкаў, ні злых намераў.

— Пойдам да таварыша Плотніка ў бюро парткалектыву.

— Я прашу адлажыць на абедзенны перапынак. За гэты час я вытачу дваццаць пальцаў. Станок так добра працуе!

Алтарка Бумбэрг ня мог скрыць таго, чаго Касьян Рулін прагна чакаў, пачынаючы з раньняе раніцы і адвярнуўся да станку.

Старшыня заўкому перазірнуўся з майстрам цэху і, адступіўшы на тры крокі ад Руліна, праказаў дырэктыўна:

— Не чапай яго—няхай працуе. Зрабіўшы праступак, ён умеў яго прызнаць, і выправіць.

---

АЛ. АЛЯКСЕЕЎ

# НАЧНАЯ ВАХТА

(Эпічная паэма)

Увесну Іргіз цікавы,—
непакорлівы
балбатун.
Стэпам, стэпам,
па мастох і ставах,
гоніць каламутную ваду.
Ад пакатых сыртовых узгор'яў,
на ўзьбярэжны прыволскі кант
шырокія грудзі разгорне—
задзіра
і рызыкант.
Апроч таго і валацуга,
І куды яго не завяло?
Там —
стагі пазношваў з лугу,
Там —
уночы спалохаў сяло.
Падаруе лугу і полю
жывільныя вільгаць і мут...
Толькі нацешанаму ўволю
прыдзе спакой і яму.

*

Над Іргізам ноч.
Цёмная.
Ані зоркі.
Узьбярэжжа — туманны прастор.
У паветры, па-веснавому золкім,
часта
стукае
матор.
Яшчэ ўсход не абяцае раніцы.
Прамінуў паўночны час.

Пыхкае,
        дрыжыць,
                старaецца,—
цягне
    цяжкую
        баржу
            баркас.
За бартамі ад ветру ціха.
Можна, здаецца, задрамаць.
Разважае Рыгор:—Ну і ліха:
Спаць ахвота, а сну няма.

*

Калі даў калгас даручэньне,—
клопат Рыгору быў ня малы:
як уладзіцца так з насеньнем,
каб ня чухаць пасьля галавы?
Не хапала рабочае сілы,—
прыходзілася дапамагчы.
Праўда, сярэдзіну разламіла...
Але-ж справіліся да начы...
І яму ніяк ня сьпіцца.
Думаў ад холаду —
                апрануў кажух.
— Мабыць, вясна
            вясёлай сініцай,
Звонам маладым у вушшу.

*

Ноч цішыню асвойвала.
Спадарожнікі паклаліся на адпачын —
Каваль з саўгасу імя Молатава
ды жменька вясковых мужчын.
Вяскоўцы варочаліся з гораду
(сёньня базарны дзень),
а каваль да сяла Затораў
праводзіў сваякоў-гасьцей.
Гучныя выдыхі.
            Соннае сапеньне.
Хто ў сьвітцы,
            хто падклаўшы армяк,—
на мяшкох з пасеўным насеньнем,
параскідаліся,
        хто дзе,
            хто як.

*

Над Іргізам
неба чоркае,
без прарэха.
Сьветляком на мачце ліхтар.
Прасторы кранае рэхам
Гулкі
маторны
удар.
Кавалю Міколе сьніцца:
здалёку —
гудуць трактары;
навокал —
залатая пшаніца
шапатлівым адзеньнем гарыць.
Гэта з шумам дасьпелае нівы
барты
абягае
вада,—
то сьціхаючы,
то імклівa
шэпча струменная чарада.
Раптам шуркат,
і галасы пшаніцы
сьціхлі змоўклі ўсе...
Мікола пракінуўся,
варухнуў паясьніцай,
расплюшчыў вочы,
сеў.
Агледзеўся.
Навокал глуха.
Па-над рэчкай туманоў стагі.
Хвіліну якую слухаў,
сярдзіта плюнуў, прамовіў:
— Стаім!
— Стаім, дый моцна,—пачулася збоку,
каваль па голасу пазнаў —
Рыгор.
Разглядае нешта напружаным вокам,
а ў руках трымае багор.
— Выпала нам, дзедачка, незадача:
ліха-ліхое, забіліся ў талы.
Туманы...
вядома, берагоў ня ўбачыш...
А пакуль вырабішся,—
час ня малы.

Каваль глянуў перад сабою проста:
там,
    дзе неба ад зямлі няўзнак,—
над вадою,
            мярэжавым парасткам,
чарнее ўзьбярэжны хмызьняк.

*

Але баркас, з перабойным гукам,
выбег на сярэдзіну,
пакінуўшы кусты.
Павярнуўся,
            часьцей застукаў,
рушыў наперад
                і адразу...
                        сьціх.
Нехта ў тумане моцна вылаяўся.
Чыхнуў матор разы са два...
Потым крыкнуў з несьцярплівасьцю
чужы голас:
— Тодар, уставай!
Пачулася соннае мармытаньне,
нявыразная слоўная блытня:
— Проста...
            Ніяк не адстане...
Пакіньце, хлопцы!
                Вахта не мая.
— Кінь дураваць!
                Ня ў хаце на печы.
Калі ў рэйсе здарылася бяда,—
турбавацца усім,
                адмаўляцца нечым,
бо ноч,
    туманы
            і вада.
Рыгор пазнаў гамонку капітана.
За адлегласьцю
            было няўцям,
ці з маторам ліха якое стала,
ці што іншае здарылася там.

*

Баркас на баржу павольна аднашвала;
неўзабаве
            зраўняліся яны.
Стала ясна:
            баржы асадка большая,

а буксіру —
хапае глыбіні.
Рыгор запытаўся,
які нялад
зноў падарожжа спаткала.
— Вінтом заматала буксірны канат,—
быў злосны адказ капітана.
— Мараплаўцы, ядрона качка!—
раззлавана прагудзеў каваль.
— Вам каля хаты ў калюжыне рыбачыць,
а не капітаніць на гэткую даль.
Словы павісьлі ў паветры без адказу.
На буксіры пачалася гамонка і хада.
Нехта з баграмі лазіў,
ляскала жалеза,
плёскала вада.
Нарэшце, пачулася:
— Іначай ня будзе!
Хочаш — ня хочаш,—
лезь у ваду.
Мне не выпадае —
верная прастуда,
а я-ж да месца баркас вяду.
Машыністы меў слушнасьць.
Было нязручна,
стоячы на вахце,
купацца ўначы.
Капітан, моўчкі, галавой пакручваў,
развачаючы,
як дапамагчы.
Рыгор багром каля борту боўтнуў,
Кінуў наперад,
потым назад.
Прымераў шырокай далоньню,
голасна сказаў:
— Пачынаецца спад.
І глянуў на баркас з адчаем,
Крутнуў галавою:
— Ну, мастакі!
Гадзіну якую яшчэ пачакаем,
будзем стаяць на сухім.
Казытнуў далячынь вачамі,
прыклаўшы руку да лба:
— На прыстані падводы чакаюць...
Сёньня ў калгасе сяўба.

*

Вяскоўцы,
абуджаныя шумам і размоваю,
каля Міколы сышліся ў карагод.
Перакідаліся кароткімі словамі,
злосна паглядалі на параход.
— Можна сказаць, пашанцавала:
сталі — на поўны ход.
— Пазірай на яго, як кот на сала.
— Што ты хочаш,—
не каманда — зброд.
Тодар,
нарэшце капітанам абуджаны,
соладка зяхнуўшы,
голаў узьняў.
Падзівіўся хвіліну,
сказаў байдужа:
— Як сабе хочаце,
вахта не мая.
Каваль рухава з месца ускочыў,
нібы выконваў якійсь загад.
Нахіліўся праз борт,
прыжмурыў вочы,
і гучна сказаў:
— Гад!
Дыхнуўшы на поўныя грудзі,
прамовіў нікому
і разам усім:
— Чым кланяцца гэткай занудзе,—
лепш выраблянца самім.
Навокал зрабілася ціха.
Маўчалі цяжка.
Пазіралі ўбок.
Чулі, як побач кожны дыхае,
Бачылі,
як кожны хавае зрок.
Рыгор хвіліну якую слухаў
і, перамагаючы злосьць,
крыху наблізіўся,
прамовіў глуха:
— Мужчыны,
гарэлка ёсьць?
— Ударнік,
ядрона качка,—
прамовіў каваль,
працягла як сьпеў.

— Справа была-б зусім іначай,
калі-б я плаваць добра ўмеў.
Дзядзькі ніякавата пераглядаліся,
потым прамовіў хтось:
— Трэба, дык трэба.
Ну, хто з запасам?
Нічыпар,
прызнайся,
ёсьць?
— Добра, калі ў аднаго ўбачылі,—
варухнулася Нічыпарава барада.
— Я-ж не адмаўляюся...
Надвор'е сабачае...—
выцяг бутэльку,
ня гледзячы падаў.
Рыгор усьміхнуўся шырока.
Паклаў у кішэню.
Памацаў бакі.
Скінуў кажух.
На грудзёх высокіх
іскраю мільгануў „Кім“.
Жвава забегалі рукі,
пералятаючы
ад палы
да палы...
Ляснуў далоньмі,
скочыў,
гукнуў...
Цераз хвіліну паплыў.

*

Цела кранула войстрай сьпякотай.
Сьціснула грудзі.
Захапіла дух.
Спачатку рукамі забоўтаў,
Але перайшоў на разьмераны рух.
— Ну, як, Рыгорка?
Ці трохі цёпла?—
расплыўся Міколаў заклапочаны твар.
Рыгор па вадзе далоньню цёпнуў:
— Скідайся, дзядзечка,—проста, як вар.
А рукі затузаліся з канатам.
Гучна дыхаючы,
голасна разважаў:
— Заелася моцна...
Не дасі рады...
Падайце сюды нажа.

З буксіру нож не бяз клопату спусьцілі.
Пачуўся прыглушаны гук...
— Набрак, чарцяка!
Пакуль расьпіліш,—
мабыць, застанешся бяз рук.
Вады, амаль, па вушы хапала.
Павольна вагаўся борт.
Узьнімаліся кароткія хвалі,
нахабна залівала рот.
Рыгор адчуў напружаную ўзьнятасьць
прыцягненых да сябе вачэй.
Людзі маўчалі, як вінаватыя,
жадалі,
каб скончыў хутчэй.
Холад прымушаў марудзіць.
У глотцы — даўкая цесната.
Моцна зайшліся грудзі,
а зубы пачалі ляскатаць.
Перамагаючы калатніну,
шарпануў нажом —
уперад —
назад,
пацягнуў да сябе,
рвануў...
і ўскінуў
на борт перапілены канат.
З вінтом пакапаўся нядоўга.
Стрымаў танцуючы рот,
весела крыкнуў:
— Гатова!
Давай на поўны ход!
Плавам наперад рушыў,
робячы з рук калаўрот,
падплыў да баржы,
са значным напружаньнем,
цяжка ускочыў на борт.
Цераз хвіліну хляйкі гук:
бутэлька ў руках зазіхацела;
наліў у жменю,
далоньмі рук
пачаў расьціраць цела.
Нічыпар варухнуў вусам,
Глянуўшы з-за пляча,
нешта сказаць памкнуўся,—
шавяльнуліся вусны,—
але змаўчаў.
А калі чырвонай зарою,
на Рыгоравых шчоках забуяла кроў,—

каваль усьміхнуўся,
прамовіў:
— Ну і малец!
Каб ты здароў!
Матор весела туркаў.
Шырока разьбегліся гудкі.
Баржа завагалася.
Павольным рухам
вышла на строму ракі.
Над Іргізам
неба пачало яскравіцца.
Полымем усход гарыць...
Было радасна,—
пагоднай раніцай
плыць
насустрач
зары.

**Ніжняе Заволжжа**
**Ленінград.**

---

М. РУМЯНКА

# ГРУЗ

Мякка чмокала веснавая гразь пад цяжкімі Сьцяпанавымі ботамі. Зайшло сонца. Пераліvісты золак дагараў над лесам, у паветры пахла гноем і веснавой прэльлю зямлі.

Не сьпяшаючыся, паціху, Сьцяпан падыходзіў да калгаснай стайні. Коні даўно ўжо зьелі сечку і чакалі, калі пусьцяць іх да вады. Закалыхалася застойлівая ціш паветра: заірзала варанан кабыліца, яна пачула знаёмы крок чалавека.

Сьцяпан адчыніў дзьверы. Моцны прарэзьлівы скрып іх расплыўся рэхам у цёмным, тонкім, веснавым паветры. Павольна пераходзячы ад аднэй да другой загарадзі, Сьцяпан аглядаў стайню. Увагу яго спыніў маленькі гнедзенькі конік. З ім Сьцяпан уступіў у калгас. Лагодна паднялася рука Сьцяпана, каўзанулася па кароткай грыве і павольна спаўзла на гарбаты хрыбетнік. Сьцяпан пашлёпаў гарбузаваты жывот і вузкі крыж гнядога. Той, наставіўшы вушы, слухаў лагоды свайго былога гаспадара. Нават перастаў есьці добра абмешаную канюшынную сечку. Мо' і доўга-б яшчэ цягнулася гэта лірыка між Сьцяпанам і гнедым, каб ня вышаў жарабок „Арол". Сьцяпан як-бы прачнуўся і ўспомніў, што пара гнаць коняй да вады.

На выгане, недалёка ад двара, цякла маленькая рэчка. Дрэнна было зімою паіць: карыта замярзала, усіх адразу не напоіш, а цяпер раздольле: вада паднялася і вышла з берагоў. Коні ўсім гуртам пілі разам. Сьцяпанаў твар запаляўся ветлівай ухмылкай, гледзячы на стракатага тонканогага жарабка, якога ён трымаў на павадзе.

●

Смачна хрумалі коні сена. Нядаўна праўленьне калгасу пастанавіла палепшыць коням харчаваньне і даць коням 2-х тыднёвы адпачынак, бо зараз пачнецца работа на полі.

Сьцяпан доўга таптаўся ў загарадзі, нарэшце ўсё было ўладжана і ён вышаў на падмостак стайні. Ярка пераліваліся зоры ў далёкім глыбокім затоне. Была позьняя ноч. Вёска спала. Пачалі пераклікацца пеўні. Яшчэ раз рупліва агледзеў Сьцяпан кожнага каня, напасьля ён падышоў да гнедага. Той апэтытна

пережоўваў мурог. Міжвольна думкі ўзьвіліся ў галаве Сьцяпана: успомнілася батрацкае жыцьцё, цяжкая праца. „Быў я раней парабак у Сымона: пасьвіў яго коняй, вадзіў на начлег. Бывала ледзь золак запалымее, ня ўсьпееш заснуць, а тут трэба ўставаць—пакуль рабіць—трэба чужых напасьціць коняй. На каго я рабіў?!"

Позна варочаўся Сьцяпан да дому. Жонка і дзеці спалі. Дарогай да дому ён падышоў да калгаснага сьвірна, замок вісеў на гвазду, сьвіран быў не замкнёны,—значыцца Іван забыўся замкнуць: відаць засьпяшаўся.

Дома Сьцяпан доўга не адважваўся парушыць сонны спакой дзяцей і жонкі. Паціху, некалькі разоў прайшоў па хаце, потым сеў за стол і пачаў вячэраць. Зморaны дзённай працай—выгаладаўшыся, ён смачна еў хлеб з кіслым малаком.

Калі Сьцяпан павячэраў было 2 гадзіны. Спаць яму не хацелася. У вачох усплывала поле і брыгада аратых. Янка, Хведар, Піліп і Марыля, яны мерна ідуць за параконнымі плугамі, а поплеч іх трактар трыма лямашамі ўздымае цаліну. Сьцяпан бачыць, як прыстае былы яго конь. Марыля моцна лаецца.

— А каб цябе ваўкі зьелі, падла ты!

Увечары калі пацягнула ад ракі вільготнасьцю, Сьцяпан уводзіў у стайню мокрага як мыш гнедага. Яго бакі сударажна ўздрыгвалі, ён не хацеў есьці. Пятрок Алейнік часта сьмяяўся з Сьцяпана: „а, які ён быў гаспадар, такі яго і конь". Гэтыя кпіны балюча, але маўкліва цярпеў Сьцяпан. Ня раз думаў— „чаму гэта ён сьмяецца з мяне?—Здаецца, я добра працую, а што мой конь прыстае, ці-ж я вінават? Не, сёлета гэтак ня будзе. Мой конь у плузе будзе лепш ісьці за Петраковага". Сьцяпан вылез з-за стала, надзеў шапку, кажух і пачаў шукаць мяшка. Доўга пароўся ў запечку, у дзіцячых вопратках, адале ўспомніў, што мяхі ў сенцах на кубле. На дварэ было сыра. Туман падымаўся з вады. З-за лесу выплыў сярпок-веташок.

Мерна пашоў Сьцяпан уздоўж вуліцы. Вось ужо і калгасны сьвіран. Тут Сьцяпан спыніўся, як акамянелы стаяў ён на месцы. „Што рабіць"?—сьвідравала думка і ня вылазіла з яго галавы. „Наша агульнае, калгаснае"—мучыла сумленьне. „Што рабіць? Што рабіць?... Не. Трэба ўзяць, хоць адзін пуд, не пазнаюць, а каню майму будзе ўцеха." І Сьцяпан увайшоў у сьвіран. Узьлез на засек і дрыжачай рукой пачаў нагортваць у мех авёс, вышаў хутка з сьвірну, аглянуўся, паслухаў і пашоў да коняй.

Загадчык гаспадаркі Іван устаў рана і пашоў да клеці. Дзьверы былі зачынены, замок як быў павешаны, так і вісеў. Значыцца забыўся я ўчора замкнуць. Моцна забілася сэрца, у горле стала сьліна. Іван пачаў аглядаць засекі. На насенным аўсу ня было зьвязды.

— Пакралі!—страсянула яго думка.

Іван ведаў што злодзея можна злавіць, толькі зараз трэба зрабіць вобыск. Ён хутка замкнуў клець і пашоў да старшыні калгасу.

На ўсходзе сонца ў калгасе ўжо быў вучастковы міліцыянэр. Было загадана: нікому з калгасьнікаў нікуды не адлучацца. Міліцыянэр, старшыня калгасу, Іван і член сельсавету сабраліся рабіць вобыск.

— Куды перш пайсьці, з каго пачаць, можа ёсьць хто падазроны?—спытаў міліцыянэр.

— Пойдзем да Макрыны,—сказаў член сельсавету.

Хадзілі цьмяныя чуткі, што яна летам са сваім Пятрыком крала снапы ў жніво.

Апаўдні ўсе калгасьнікі ведалі, што ў Пятрыковай пуні знайшлі шмат снапоў аўса. Але хто-ж быў у сьвірні і пакраў насенны авёс, ніхто ня ведаў. На Петрыка склалі пратакол за крадзеныя снапы і апісалі яго маёмасьць. Увечары і днём, у часе перавозкі бульбы з капцоў, калгасьнікі гаварылі аб зладзействе і ўсе наракалі, што з сьвірну украў авёс Петрык. Толькі Сьцяпан ня ўдзельнічаў у гэтай гутарцы, ён моўчкі, як тручаны, хадзіў увесь гэты дзень.

Праз 10 дзён выязная Сэсія Народнага Суда разглядала справу Алейніка Петрыка. Суду было вядома, што Алейнік да ўступленьня ў калгас, меў 15 га зямлі, карыстаўся наймовай працай. Былы старшыня калгасу—кум Алейніка прыняў яго ў калгас вясной у 1930 годзе. Летам у гарачы дзень сенаўборкі ён назнарок спаліў 3 капы сена. Цяпер і гэта выявілася. Алейніка засудзілі.

●

Сёньня першы раз калгас выехаў на поле. Увечары, калі захад апавіўся пазалотай, каля стайні гаварылі і сьмяяліся мужчыны. Янка з захапленьнем апавядаў, як коні, спужаўшыся аўтобусу, насілі яго з баронамі па полі.

— Нябойсь, летась не панесьлі-б—сказаў брыгадзір Павал. А ўсё пастараўся Сьцяпан: ён сёлета раскарміў коняй,—сказаў з усьмешкай хтосьці.

— Ну, дык раскажы, Янка, Сьцяпану, як цябе „Арол“ з гнедым вазілі па ральлі.

Сьцяпан моўчкі стаяў нібы ў роце ў яго была вада.

— Нешта ты, дзядзька Сьцяпан, захмурнеў, як жонку пахаваў—пажартаваў Уладзік.

Назаўтра, калі ўсе коні былі на полі, Сьцяпан вычысьціў стайню і вышаў за гумно. Там былі знаёмыя з маленства паплавы. Вецер ішоў з лагчын.

Хто ведаў, ад чаго радаваўся Сьцяпан? Ніхто можа ня ведаў гэтакае радасьці, якая была ў Сьцяпана: ён быў горды нават сам перад сабою: зімою ён стараўся, цяпер коні маглі горы варочаць на полі. Ім ня былі цяжкія ні плугі, ні бароны.

Старшыня праўленьня сказаў Сьцяпану: „Сёньня ўвечары адбудзецца агульны сход“.

●

Ціхі красавікоўскі вечар акрыляе калгасныя будынкі. У хатах пачалі запальвацца агні. Яшчэ холадна, але дзеці радуюцца вясьне і чырвонымі, як буракі, нагамі сьвецяць на прызбах. З хат выходзяць жанчыны-мацёркі, моцна сварацца на іх і завуць дадому. Па крысе вуліца пачынае пусьцець. Ціш апаноўвае вёску. У небе зоры ясна гараць, у рэчцы купаецца месяц. Рэдкай жоўтай пазалотай укрывае ён стрэхі будынкаў. Стала так ціха, што баішся сам зрушыць гэты спакой. Аднастайны скрып калодзежнага вочыпа рэхам пракаціўся па вёсцы. Гэта Тэкля цягае ваду калгасным цялятам. На вуліцы чуецца гоман. Калгасьнікі ідуць на сход. У школе, што стаіць на водшыбе вёскі, даўно ўжо запалілі агонь.

Сход ужо адбыўся, калі ўвайшоў Сьцяпан з невялікім клумкам пад пахаю.

— Адкуль гэта ты, Сьцяпан, з мехам зьявіўся?—пытаў хтосьці шэптам.

Сьцяпан не адказаў, а моўчкі апусьціў клумак на падлогу. Яго твар пабялеў, а заўсёды ясныя, глыбокія, як пушча, вочы апусьціліся ўніз. Ён моўчкі стаяў, не варушыўся і адумаўся толькі тады, калі пачуў, што канчаюць сход.

— Пачакайце, пачакайце, я авёс прынёс,—аж скалынуўся Сьцяпан, падаючыся наперад.

— Які авёс?—абазвалася разам некалькі галасоў.

— Ну, давай, што там у цябе такое,—сказалі з прэзыдыуму.

Моцная гамонка людзей раптам абарвалася. Стала ціха.

Сьцяпан усхвалявана і баязьліва вымучыў словы:

— Гэта я мерку насеннага аўса ўзяў. Я хацеў падкарміць гнядзенькага.

Пракаціўся гучны рогат. Сьцяпан стаяў зьбянтэжаны.

— Нашы коні добра кормяцца,—сказаў старшыня.

— Я... з мяне летась сьмяяліся...—от гэты самы авёс, каб ён згарэў.—Далей Сьцяпан гаварыць ня мог.

Цяпер ужо панавала цішыня. Некалькі хвілін яна цяглася. Сьцяпан ужо стояў ля самага стала. Губы яго дрыжалі: ён быў як палатно,

— Ён мне жыць не даваў,—нарэшце вымучыў ён слова.—Ён мне ступіць кроку не даваў, усё мучыў—„які ты, кажа, быў гаспадар, такога й каня ў калгас прывёў“.

— Хто гэта?

— Пятрок Алейнік.—Сьцяпан пасьмялеў—добра яму было мець добрыя коні, калі ў яго зямлі тае, як у фальваркоўца. А я на сваім парабкоўстве каня добрага каб меў? Бач, які разумны.

— Хто гэта?

— Хто? Пятрок Алейнік.

— Дык чаго ты апраўдваешся перад ім? З ім справа простая.

— Я яму яшчэ праўды ў вочы не сказаў тады, калі ён кпіў з мяне і з майго каня.

— Дык што, вярнуць яго ў калгас, каб ты мог яму ў вочы праўду сказаць?

Зноў усе грунулі рогатам.

— Не,—закрычаў Сьцяпан.—Ня трэба гэтак! Гэта я сам сабе цяпер праўду гавару... І вам таксама... Ён сьмяяўся з майго каня. А той конь, з якога ён не сьмяяўся, хіба той яго конь? На таго каня ў яго парабак рабіў?

Сьцяпан памаўчаў. Пасьля нагнуўся і ўскінуў авёс на плечы.

— Я яго назад у сьвіран усыплю,—сказаў ён.

Разам з усімі ён вышаў на вуліцу.

Ц. ДОЎГАПОЛЬСКІ

# ШОЎК

(Урыўкі з роману)

## У матальным цэху

— Каротка кажучы, я цябе, Маслакова, пачынаю не разумець.
— А я бачу, што ты нічога не разумееш.
— Што ты тут намалявала?

Маслакова не адказала, яна шпарка прысела на вакно, яшчэ шпарчэй перакінулася на двор і зноў ужо стаяла, як раней на дошцы падмурку. Яе твар палаў ад узрушэньня.

— Мы працуем на аднэй фабрыцы, а таварышоў няма. Кожны дзьмецца. А хлопцы, яны адварочваюнь галовы або, наадварот, ліпнуць да спадніцы і лезуць да цябе, як сапраўдныя хуліганы,—і саскочыла з вакна.

Вэлька глянуў на двор. Ён пакляўся-б, што ў яе стаялі сьлёзы ў вачох. Вось стаіць яна прыхінуўшыся да дрэва з апушчанай галавой. А мо' гэта зноў прыкідваньне. У пытаньнях каханьня ён, яшчэ надта тупы. Мабыць, яна чакае, каб ён падышоў да яе. Яна Маслакова, дае яму добрую лекцыю... Дык навошта яна ўспомніла пра хуліганства. Ён паспрабуе паклікаць яе зноў да вакна. Вэльку захацелася даць зразумець Маслаковай, што ён не такі дурны. Ён прыхінаецца да падваконьніка і гаворыць:

— Чаго ты плачаш, Маслакова, ты-ж такая добрая дзяўчына.

— Пайшоў к чорту, падліза,—адказвае злосна Маслакова.

— Яшчэ ня позна,—вось я іду.

— Закрыся, падхалім.

— Дык ты сапраўды злуешся.

— Ці ня думаеш ты толькі, што я да цябе, сапляк, прышла прызнавацца ў каханьні. Большых герояў за цябе і ня гэткіх цюцяк, як ты, я аблівала бруднай вадой з вакна... Мы яшчэ табе пакажам у камсамоле.

— Чаго ты раскрычэлася. Ня лайся. Кажы, чаго хочаш.

— Казаць табе, чаго я хачу... Як ты гаварыў,—у цябе паэзія, а ў мяне вынаходка. Я хацела з табой параіцца. Пісаць ты ўмееш добра, а я займаюся толькі ў пачатковай школе.

Маслякова стаіць ля вакна з вуліцы, а Вэлька—знутры з боку, каб не засланяць уласным ценем праменьня электрычнай лямпкі, якая вісіць нізка і асьвятляе Маслакову.

Маслакова тлумачыць:

— Ты разумееш, матальная машына мае дваццаць матавілаў. Прыходзіцца палову часу патраціць на пераноску маткоў з аднаго берагу на другі, патраціць дарэмных 10 крокаў. За гэты час можна пераплесьці новы маток... Дык я хачу прыбіць вешалку да другога боку машыны... Але я не хачу казаць гэта матальніцам...

Вэлька зразумеў ідэю Маслаковай. Ён такі сёньня заўважыў, як матальніцы бегаюць з аднаго канца машыны ў другі, каб павесіць маток. Але яму яшчэ ня ўсё ясна,—ён пытаецца:

— Дык ты хочаш зрабіць вешалку толькі на сваёй машыне?

— Толькі на маёй машыне.

— Гэта глупа. Тваёй рацыяналізатарскай прапановай павінен карыстацца ўвесь цэх, а мо' і ўсе шоўкавыя фабрыкі.

— Але спачатку я хачу гэта ўвесьці толькі ў сябе. Я хачу адпомсьціць Тусінай брыгадзе.

— Помсьціць? А твой праэкт ты афарміла?

— Не афарміла.

— І ты пасьля гэтага злуешся?.. Фабрыка патрабуе яснасьці. Рабочы павінен умець ясна і правільна выказваць свае думкі. Калі хочаш, зайдзем заўтра ў бюро рабочых вынаходніцтваў.

— Што гэта за бюро?

— Ты нават ня ведаеш, што існуе гэткае бюро.

Маслакова адказала, што яна тут яшчэ нічога ня ведае, што яна ні з кім незнаёма, і саскочыла з вакна.

Вэлька супакоіў яе здалёку.

— Мы разам будзем у бюро вынаходніцтва.

Вэлька, лежачы на ложку, вырашыў, што ён мусіць заўтра зайсьці ў матальны цэх. Ён ня сустрэнецца з Маслаковай. Ён падыйдзе толькі да машыны і сам пракантралюе прапанову Маслаковай. Ён быў задаволены, што Маслакова даверыла яму сваю рацыяналізатарскую прапанову. Значыць, некаторыя рабочыя вераць, што ён яшчэ на што небудзь здольны. А ў сапраўднасьці справа абстаіць зусім ня так. Ён зусім з малых хватаў. Бегаць, як шалёны на працу, затым спазьняцца, затым нарабіць ліха на чорнай дошцы. Прытым яму яшчэ гладка ня пройдзе інцыдэнт з Міркіным. Міркін не прапусьціць. Паток думак пачаў блытацца і Вэлька ўжо ня чуў, як гаспадыня запытала яго, ці зачыніў ён вакно, як гаспадыня сама зайшла да яго ў пакой, зашчапіла вакно і выключыла сьвятло.

●

Сёньня пасьля абеду прыбыла тэлефонаграма з раённай электрастанцыі, што ў дзьве гадзіны спыняецца на 3 гадзіны электрычны

ток. У матальным цэху сустрэлі гэтае паведамленьне надзвычай варожа. Толькі сёньня прыбылі да матальных машын маленькія шыльдачкі з цяжкімі чатырохкантовымі чырвонымі літарамі.

*„Брыгада № 1.*

*Ударная брыгада. Не даем браку.*
*Шбук не вінаваты, калі ты зазяваўся".*

Нядаўна азнаёміліся ў матальным цэху з паштучнай працай. Пальцы сёньня з вар'яцкім спрытам падхоплівалі маткі, шпарка выключалі электрычнасьць, яшчэ шпарчэй вешалі маток на вешалку. І яшчэ спрытней варочаліся назад, накручвалі на верацяно ніткі з чанаў і зноў пашло. Матальніцы з нецярплівасьцю чакалі рэзультатаў сёнешняга дню. Падсылалі дзяўчат зірнуць, як там у людзей справы. Прымалі з зайздрасьцю малейшую ўвагу майстра. Брыгада, да якой прымацавана Маслакова, за сёнешні дзень абагнала брыгаду Тусі. Падышоў майстра, таварышка Рубінчык, да Тусі і далажыла ёй:

— У брыгадзе №7 Маслакова ідзе першай,—і тут-жа Рубінчык папраўіла вузел у гатовым матку і моўчкі ўказала Тусі, што трэба наглядаць за масай. Інжынэр крычыць і патрабуе, каб ня было спартачаваных вузлоў у матках. Ён патрабуе выключна ткальных вузлоў.

Туся ўскіпела. Яна не магла сьцярпець гэткай абразы з боку майстра. Што гэта за падыход? Яна Туся, першая стала ўдарніцай. Яна, Туся, заснавала першую брыгаду—а тут прыходзяць і дзёргаюць, дзёргаюць прыемнымі навінамі. Яна шкадавала, што адпусьціла Маслакову. Яна ўжо шкадавала аб гэтым назаўтра, калі Маслакова перайшла ў сёмую брыгаду. Яна цяпер прызналася, што выкурыла Маслакову не таму, што Маслакова ўжо так дрэнна працавала, але хутчэй дзеля таго, што яна Маслакову наогул ня любіць. Ці сапраўды Маслакова была апошняй у яе брыгадзе—не. Яна трымае цяпер слабейшых работнікаў за Маслакову.

„Што-ж тут благога ў гэтым вузьле—што тут—толькі-б накінуцца. Калі ты так будзеш чапляцца—нічога ня выйдзе,—кідалася Туся.

Рубінчык злосна адказала:

— Што табе не падабаецца, Туся? Выходзіць, што майстры зусім не патрэбны. Ідзі да табэлю і глянь, колькі процантаў браку і адкідаў дае матальны цэх за апошнія пяць дзён.

Вырас інжынэр Лянг. Прозвішча не пасуе да яго фігуры. Сам ён маленькі, сухенькі, ня здымае з галавы польскай шапачкі, хутчэй падобны на даўнейшага дробнага крамніка, або на маляра, чымся на інжынэра. Ён дружацкі палажыў руку на шырокія плечы Тусі і паказаў:

— Эс іст ніхт кайн вэбэр-кнотэн, эс іст ніхт кайн вэбэр-кнотэн.

— Цяпер добра,—упікнула Рубінчык Тусю і перашла да другой машыны і намесьніца Рубінчык „немка са Шклову“, як празвалі яе ў цэху, пачала дыскусаваць з інжынэрам.

Інжынэры ахвотна размаўлялі з яўрэйскімі рабочымі. Замежныя спэцыялісты ня ведалі ні расійскай, ні беларускай мовы. Некаторыя яўрэйскія рабочыя расьцягвалі словы, ламаліся, каб атрымалася крыху па-нямецку. Толькі адна памоцніца Рубінчык, дзяўчына з Нова-Быхава, камсамолка, маўклівая і шчырая, якую празвалі „немка са Шклову“ ня мела прывычкі ламацца. Яна казала, што інжынэры наогул разумеюць вельмі добра па-яўрэйску. Яны разумеюць усё.

Яна паказала інжынэру дзесятак маткоў і заўважыла:

— Але гэтыя маткі нічога сабе?

— Ды штронген зінд фальш.

— Акуратныя маткі.

— Фальш.

— Можна зрабіць лыхатхілэ—сыпнула яна Лянгу незразумелую яўрэйскую гутарку.

— Так яны працуюць шпарка, але фальшыва.

— Ну, так... Патрэбна якасьць.

Інжынэр углядаецца ў майстра і, відаць, хоча, каб яна паўтарыла. „Немка“ разумее на мірг, чаго інжынэр хоча. Яна адказвае:

— Ад спаборніцтва якасьць не павінна цярпець... Зразумелая справа.

Майстра, памоцніца і карачун, які завецца Лянг, адышліся ад Тусінай брыгады. Матальніцы неспакойна і нэрвова ўтаропіліся ў табэлі і лаялі на чым сьвет стаіць далёкую і невядомую электрастанцыю. Што там за людзі, калі пасярод белага дню спыняецца машына. Матальніцы не бедавалі, што прастой машыны каштуе фабрыцы шмат тысячаў. Адзін прадзільны цэх траціць з-за кожнага прастою вялікую суму грошай. Гатовая пража псуецца і колькі іншых страт. Матальніцы сёньня мала клапаціліся аб тым, што дырэктар хапаецца за галаву і ня ведае, што рабіць, бо кожную хвіліну фабрыка спыняецца, і палова фабрыкатаў псуецца. Матальніцы хацелі падвесьці вынікі за дзень, дазнацца, хто тут ідзе першымі, дрыжэў табэль на сьцэнцы. Хацелі ўжо як найхутчэй прачытаць вынікі за дзень, вынікі кожнай брыгады. Неўзаметкі для саміх матальніц пачалі ўпэўнена і хутка чытаць шасьці і сямілічбовыя лікі. Спрытна разблытвалі процантныя паказальнікі. Паглядалі на гадзіньнік і спадзяваліся, што здарыцца цуд і дацягнуць працоўны дзень да канца. Але сыгнал аб спыненьні працы пачуўся ўпору. Работніцы апусьцілі рукі, ня ведалі, што рабіць з няскончанымі маткамі, зьбіраліся ў гурткі, чакалі ўпарадкаваньня, жартавалі, заглядалі ў чужыя табэлі. Прышла Рубінчык і загадала зараз-жа

прыступіць да чысткі матальных машын і затым прыйсьці ў ленкуток на вытворчую нараду.

Фабрыка затаіла дыханьне. Няпрыемная ціша ахутала корпусы. Сонца залезла ў фабрыку праз скрозныя вокны даху і скварыла мёртвыя сталёвыя целы. Пачуўся няпрыемны пах серкі—вэнтылятары не працавалі. У матальны цэх гэты пах не пранік. Рабочыя старанна абціралі сталёвыя часткі, і Маслакова са спрытам былой хатняй работніцы абцёрла пыл са сваёй машыны. Яна спынілася і з замілаваньнем аглядала сваю сёмую машыну. Можна было падумаць, што для яе ня існуе фабрыка цалкам, астатнія машыны, адлітыя у такой самай форме. Хай жыве сёмая машына. Яна пазнае яе з зачыненымі вачыма. Яна яе пазнае, як маці сваё роднае дзіця. Хай сабе здаецца вачом чужых людзей, што ўсе дзеці маюць аднолькавы тварык, але маці пазнае сваё роднае дзіця паміж мільёнамі. Вось намацвае Маслакова налёт на сваёй машыне і счышчае яго, абцірае вугальнік, што падаўся крыху ўправа, шаруе ручку рубільніка, які выпірае наперад.

Дзьве матальніцы бясьпечна абняўшыся, прайшліся ля Маслаковай і расьсьмяяліся. Што тут робіцца з ёю? Што яна выдумляе? Вэнтылятары не працуюць. А калі здараецца, што фабрыка стане на гадзіну, машына спыніцца, дык няма розуму выйсьці на вуліцу і надыхацца сьвежым паветрам, ці аглядзецца, абдумаць сваю фабрыку, бо добра ня ведаеш, што тут робіцца. Прыходзіш на работу са сьпешкай, выбягаеш яшчэ хутчэй, а зараз можна сабе дазволіць крыху пашпацыраваць.

Работніцы шпацыравалі туды і сюды па фабрычным падворку. Рагаталі, жартавалі з рабочымі.

Маслакова вышла з цэху апошняй. У корпусе цяпер вольна і сьветла. Яна прайшлася туды і назад. Яна падыходзіць да расчыненага знутры вакна і папраўляе там кудзеркі сваіх валасоў, кладзе іх на правую палову ілба, прыціскае, каб лепш трымалася, і накіроўваецца ў чырвоны куток.

Там шумна. Расьселіся вакол доўгіх сталоў і чакаюць, а ніхто ня ведае, чаго чакаюць. Ля Рубінчык стаяла група работніц. Тут таксама і Лявонава з Баранкаў. Яна вельмі заклапочана і прыслухоўваецца да таго, што ёй гаворыць Рубінчык, якая стаіць і вылічвае на пальцах:

— Вось што павінен памятаць кожны старэйшы брыгадзір.

Лявонава ківае галавой.

— Прыходзіць упару.

— Прыходзіць—шэпча Лявонава.

— Ня толькі ўпару, але нават раней.

— Раней.

— Чысьціць машыны пасьля работы.

— Пасьля работы.

— Маткі павінны быць дасканалымі.

— Дасканалымі.

— Толькі як менш адкідаў.

Якаясь-ці работніца глянула і раскрычэлася.

— Што тут робіцца? Пад шлюбам стаіш?... Цяпер лягчэй выйсьці замуж, як стаць ударніцай, брыгадзірам... Упару і раней, работу і дасканалую, бяз браку, без адкідаў... Гэта-ж можна ў вас пад рукамі паваліцца.

Рубінчык ня змоўчвае.

— Добра накрычэлася? Цяпер абмяркуем спакайней. Што я сказала лішняе—падумай.

— Гэта-ж усё добра вядома бяз прысягі.

Вытворчую нараду адчыніла тав. Копчык. Ёй горача. Яе поўны твар расчырванеўся. Яна абціраецца краем рукава ад халату. Вялікія сьветлыя вочы блудзяць па натоўпу. Яна запрашае ўсесьціся ля сталоў. Работніцы рассаджваюцца, як запрошаныя госьці. Прыціскаюцца адна да аднэй. Сядзяць абняўшыся, шушукаюцца. Стрымана сьмяюцца. Цярпліва чакаюць пачатку сходу... Якога сходу?

Неспакойныя толькі з дзесятак работніц. Яны паселі з абодвух канцоў доўгага стала і перагаварваюцца, перакідваюцца словамі. Асабліва непакоіцца Туся і Маслакова. Абедзьве сочаць адна за аднэй. Маслакова сёньня вельмі самаўпэўнена, у добрым настроі, рухавая. Туся, наадварот, нэрвуецца. Гэта ёй не да твару. Яна вялікая, шырокая, важкая. Цяжкія валасы вылазяць з усіх бакоў—дык зьвязвае яна тужэй хустку на галаве.

Рубінчык шэпча Копчык на вуха, каб яна паглядзела, як гэтыя дзьве палкоўніцы рыхтуюцца ў бойку. Копчык рагоча.

Копчык, разумее, што сьмяяцца ёй цяпер не выпадае, бо яна, як прафарганізатарша, павінна быць вытрыманай да канца, але-ж сьмех неяк сам вырываецца. Туся ўпэўнена, што сьмех адносіцца да яе, яна можа паклясьціся, што да яе. Дык яна дзьмецца, ня стрымліваецца і крычыць здалёку:

— А мо' пачнуць ужо там?

Але Рубінчык і Копчык не адказваюць. Яны размаўляюць між сабою. Копчык звоніць званочкам, хоць даволі ціха ў ленкутку і нікога да парадку заклікаць ня трэба. Копчык пачынае.

— Ёсьць прапанова абраць прэзыдыум для вядзеньня сходу. Ёсьць прапанова ўвесьці ў склад прэзыдыуму тав. Лявонаву, тав. Маслакову і...

Копчык спыняецца на хвілінку. У Тусі халадзее кроў. Што тут робіцца... Яе пачынаюць прамінаць... Што маюць да яе, можа ляпей і ня трэба ў актывісты прабівацца. А мо' ўжо лепей быць звычайнай работніцай-мотальніцай.

Вось гэтыя думкі мільганулі ў Тусіных мазгох ў адно імгненьне. Але Копчык вытрымлівае неабходную паўзу і заканчвае склад прэзыдыуму, заканчвае жулікавата, з усьмешкай у вялікіх вачох.

— І Тусю...

Сход вольна ўздыхнуў. Дык увашла-такі ў прэзыдыум. Але-ж чаму апошняй? А можа ёю завяршылі? Напэўна так. Лявонава ідзе першай. Хай гэта будзе затое, што яна распаўсюдзіла пазыку?

— Прапанова. Запрашаюць у прэзыдыум таварышку Шалё.

Шалё адзіная замежная работніца. Яна жонка замежнага спэцыяліста гэтага самага прозьвішча. Яна стаіць ля машыны, паказвае прыклады дысцыплінаванасьці і добрай працы. Шалё, пачуўшы сваё імя, адразу перайначылася. Яна ня можа сабе знайсьці месца. Яна ратуецца рукамі, быццам бы ляціць у бяздоньне і топіцца. Яна моргае вачыма і ня ведае ісьці ёй, ці ня ісьці. Робіцца даволі весела. Увесь сход пляскае. А „немка“ з Нова-Быхава, што сядзіць ля Шалё, цягне яе за рукаў, каб яна пашла.

— Таварышка, ідзеце.

— Геносэ.

— Геносэ.

— Ідзі ў прэзыдыум, геносэ Шалё.

Што „геносэ“—гэта таварыш, „хавэр“—ведаюць усе яўрэйскія і неяўрэйскія рабочыя.

Копчык пачынае.

— Наша нарада—вытворчая нарада. Дык мы павінны паставіць пытаньне, ці прывучыліся мы ўжо да матавілаў. Прывучыліся, напэўна прывучыліся. Аб гэтым гаворыць арганізацыя матальніц у брыгады, зьмяншэньне браку, хоць яго яшчэ і хапае. Але заўтра будуць змантажаваны дзьве новыя машыны—да іх патрэбны работніцы. Дык дзе ўзяць спрактыкаваных работніц? Пытаньне вельмі важнае. Цэх павінен будзе з заўтрашняга дня выдаваць гатовы матэрыял для гэтых дзьвёх машын. Дык хто хоча слова?

Выступае работніца. Яна злуецца на ўвесь сьвет. Яна гаворыць:

— Навошта нам ламаць галаву за новыя машыны—хай ломіць галаву тав. Румынаў, дырэктар, хай большыя галовы ламаюць галовы.

Работніцы сьмяюцца.

— Хапае нам і бяз гэтага клапот.

— Выходзіць, што мы можам спакойна разыходзіцца па хатах. Мантажны цэх за гэты час закончыў восемдзесят матавілаў, дырэкцыя яшчэ не падрыхтавала новых рабочых, а машыны неабходна пусьціць у ход. Неабходна, таварышы.

Гэта ўжо гаворыць Рубінчык. Сказала і маўчыць.

— Мала што неабходна. Неабходна электрычнасьць... А няма току, дык мабыць добра і бяз току.

Зноў хвілінка маўчаньня. Работніца выступае;

— Над токам мы не гаспадары. А над машынамі мы, безумоўна, гаспадары. Колькі машын ужо працуе ў нашым цэху?

— А хто іх лічыў?

— А колькі матавілаў у аднэй машыне? А колькі матальніц працуе на аднэй машыне?

Пачынаюць шчыпаць адна адну. Занепакоіліся. Аглядаюцца і пачынаюць разумець, чаго мармыча Копчык. Яна, Копчык, хоча нешта сказаць, але казаць яна ня кажа. Яна чакае. Яна дае слова Тусі.

Ага, ня лічачы балбатух, атрымлівае першае слова не Лявонава і не Маслакова, але такі Туся.

— Ствараецца такое становішча, што прыдзецца з'эканоміць ля кожнай машыны па аднэй матальніцы. Цяпер працуюць восем чалавек. Хопіць і сямі.

— Якім чынам хопіць сямі, калі і так застаешся пад рукамі?

— Мала пальцы ломіць?...

Туся паднімаецца і просіць другі раз слова. Яна хвілінку маўчыць, яна вучыцца ад Копчык. Туся засоўвае цяжкія каштанавыя валасы пад хустку і кідае варожы погляд у той бок, дзе стаіць Маслакова.

— Першая брыгада імя Крупскай, што складаецца з васьмі матальніц, вылучае аднаго чалавека для дзьвёх машын, якія выйдуць заўтра з мантажу. Першая брыгада выклікае на сацспаборніцтва сёмую.

Гэта выгаварваецца горача і запал перадаецца ад стала да стала. Яшчэ штурхаюць адна адну локцямі, шчыплюцца, маўчаць.

Хто выступіць ад імя сёмай брыгады. Старшая брыгадзірша, ці тая, што пабіла рэкорд у гэтай самай брыгадзе. Старшая брыгадзірша, ці тав. Маслакова. Брыгада маўчыць. Раяцца. Маслакова шэпчацца з брыгадзіршай. Брыгадзірша выступае з гэткай абвесткай:

— Слова для адказу першай брыгадзе атрымлівае ад сёмай брыгады таварышка Маслакова.

Маслакова прыціскае кудзеркі да ілба, захлынаецца першым словам, якое яна яшчэ ня вымавіла. Натоўп чакае. Натоўп нават радуецца. Тут на фабрыцы, калі насядуць на чалавека, яго могуць давесьці да сьлёз. Што маюць да яе—да Маслаковай. Навошта рабіць з яе кандыбобэра? Сорам—захлынаецца першым словам. Ня бачаць, што шкада яе робіцца.

Так думае Тусіна брыгада, а сёмая брыгада ў вялікім зьбянтэжаньні ад правалу. Вось табе і выступленьне матальніцы, якая пабіла рэкорд.

А Маслакова ўсё яшчэ апомніцца ня можа. Рукі працуюць добра, а язык не паварочваецца. Што ёй рабіць? Тусіны прыхільніцы чакаюць. Сход чакае. Рубінчык і Копчык чакаюць.

— Дайце ёй крыху вады з графіна,—крычыць нэйтральная работніца, якой ўсёроўна, хто возьме верх—Туся ці Маслакова.

Туся не шкадуе. Яна налівае з поўнага графіна вады ў шклянку і тут Маслакова ўзьбіваецца на свае прапановы:

— Кожны ўмее выклікаць,—пачынае Маслакова,—гэта вельмі лёгка. Лягчэй, як вучыць новую работніцу. Ня будзем сьпяшацца... У кожнай машыне мы маем... Колькі мы маем у кожнай машыне—дваццаць матавілаў...

Туся гаварыла разважліва, а Маслакова пачынае сварыцца, а што казаць, яна ня ведае.

— Ну так, з аднаго боку дваццаць матавілаў.

— І з другога боку дваццаць матавілаў.

— Дык сорак матавілаў—выгукнуў хтосьці і ўсе рагочуць.

— Дык сорак,—зазлавалася Маслакова. Дык сорак... Дык навошта... навошта мы трацім час... Колькі часу мы трацім на тое, каб пераходзіць ад дваццатай матавілы да вешалкі. Падлічэце.

Сход робіцца больш сур'ёзным і ўсё яшчэ ня ведае, чаго тут Маслакова хоча.

Але Маслакова прапануе.

— За той час, што я падношу маток ад дваццатай матавілы, я магу сплесьці яшчэ адзін маток.

Украдваецца Лянг. Ён спыняецца ля дзьвярэй і аглядае сход. Ён усьміхаецца. Ён не разумее ні слова. Ён думае, што расійцы дзіўныя людзі—ўсё гавораць, усё крычаць, а штрангі фальшывыя і кноты—ня вэбэр-кноты. А сход захоплены і Лянг застаецца нават не заўважаным.

Правільна. Лянга ніхто не заўважыў. Матальніцы пажыраюць вачыма Маслакову. Яна кранула балючую мясьціну. Ну, добра, паслухаем, што яна раскажа, што скажа яшчэ гэта хатняя працаўніца, якая служыла ўсяго толькі ў хаце Чарнігоўскага.

— Прыпомніце, таварышкі, колькі ідзе ў нас часу, каб сплесьці маток... Раз, два, тры, чатыры і ўжо. А колькі адбірае часу ношка матка... Падлічэце ад дваццатай матавілы і нават ад дзевятнаццатай, восемнадцатай і семнадцатай.

— Дык што рабіць?

— Трэба, таварышы, да другога канца машыны прышрубаваць яшчэ адну вешалку.

— Залатая ідэя.

— Каштоўная прапанова.

— Каб мы так здаровы былі, як гэта думка добрая.

Гэтыя выгукі чуюцца на ўсіх мовах, а таксама па-яўрэйску.

Лянг пачуў знаёмыя словы і пытаецца ўжо, аб чым ідзе гутарка. „Немка“ адразу падыходзіць да яго. Яна яму тлумачыць:

— Таварышка Маслакова прапануе прывінціць да машын яшчэ адну вешалку.

— Цушруйфен нох а гэйнгер фар ды штрангеп,—папраўляе другая работніца.

— Эканомія ў часе.

Лянг глыбей насоўвае польскую шапачку і пачынае моргаць вачыма. Ён ахоплівае сход і спыняе свае вадзяністыя вочы на Маслаковай. Яе твар яму знаёмы. Яму проста падабаецца гэтая дзяўчына з кудзеркамі на лобе. Ён аглядае яе з ног да галавы і бачыць на нагах стракатыя панчохі, якія да ікры паласатыя, а вышэй ідуць яны жаўтаватым колерам, і ўсьміхаецца Лянг, а Копчык ня ведае, як уцягнуць яго ў абгаварэньне прапановы Маслаковай.

„Немка“ прыстае да Лянга.

— Бітэ, Батэйліген зіх у вытворчай нарадзэ. А Копчык дадае:

— Геносэ Лянг, рацыяналізацыйная прапанова геносін Маслаковай,

Лянг адказвае шпарка і незразумела. Нямецкі патрыот горача бароніць сваю фірму, а прапанова Маслаковай вынікае проста з таго, што работніцы „ня хочуць флэйзіг працаваць“.

Маслакова напэўна не разумее, чаго Лянг так раззлаваўся. Яна, Маслакова, канчае слова тым, што, калі прышрубуюць вешалку да другога канца машыны, можна будзе абыйсьціся шасьцю матальніцамі.

— Сёмая брыгада тады адказвае шасьцю матальніцамі.

Трое работніц разам абкружаюць Лянга і тлумачаць яму рукамі, вачыма і ўсялякімі гэстамі прапанову Маслаковай. Лянг адчувае сябе, як зьбіты з ног, а Копчык перабіраецца з нарадай у матальны цэх. Фабрыка ўжо працуе зноў, і ў матальным цэху пускаюцца дзьве гатовыя машыны, і прапанова Маслаковай правяраецца ў прысутнасьці Лянга. Дзьве работніцы трымаюць у руках ля другога канца машыны вешалкі. Лянг злосьліва трымае сэкундамер і сочыць, як Маслакова гападарыць тут. Маслакова хітрue. Плесьці, пляце яна маткі страшэнна хутка, а крокі ад дваццатых матавілаў яна робіць спокойна і моцна. Так павольна, як на практыцы ня ходзіць ні адна матальніца.

— Фліхік, фліхік,—выгукнуў Лянг і ніхто не разумее ці ён хваліць Маслакову, ці ён ганіць яе. Урэшце ён падыходзіць да другога канца матальнай машыны, мерае і мацае яе рэбры, ківае галавой і разгневаны пакідае матальны цэх.

Работніцы яскрава бачаць, што Лянг пераможаны.

Маслакова гарачыцца, падыходзіць блізка да Тусі, зварочваецца да сходу і выгуквае:

— Дайце мне яшчэ адну вешалку і мы дадзім норму пяцьма матальніцамі.

— Мы даем норму пяцьма матальніцамі—паўтарае другі раз Маслакова, разгарачаная, палыхаючая.

А Туся стаіць у задуменьні. Яна сама сябе злавіла за руку. Яе кепскі падыход да Маслаковай—вынік яе дробнабуржуазнага акружэньня, у якім яна знаходзілася да прыходу сюды на фабрыку. Мала, мабыць, стаць ударнікам у рабоце. Трэба ўмець быць добрым сябрам. У Тусі закралася сьмелая думка, якую неабходна добра абмеркаваць. Яна пагаворыць аб гэтым з Копчык. Трэба падрыхтавацца, а што рабіць пакуль што?

Яна моўчкі падыходзіць да Маслаковай і моўчкі падае ёй руку. Маслакова кідаецца цалавацца. З кім—з Тусяй. Дык-жа Вэлька мае рацыю. Няма ворагаў у сёмай брыгадзе. Нават Туся.

— Палкоўніцы заключылі згоду,—засьмяялася матальніца.

## ГЭЦЭН

Нядаўна прыехаў у горад Гэцэн. Сустракаць яго прыбылі на вакзал Румынаў, Чарнігоўскі і замежныя спэцыялісты, служачыя Гэцэна і тэхнікі.

Цягнік спазьніўся, і Румынаў нецярпліва чакаў сустрэчы: Румынаў сядзеў з Чарнігоўскім за столікам, ушчэмлены ў манішку і зайздросьціў Чарнігоўскаму, што ён, галоўны інжынэр, прыбыў сюды ў картовай рабочай блюзе.

Чарнігоўскі быў у добрым настроі. Ён бачыць Румынава гэтак парадна прыбранага ўпяршыню.

— Вучыся, вучыся,—жартаваў Чарнігоўскі:—сёньня ты павінен сустрэцца з нямецкім фабрыкантам, а заўтра ты будзеш назначаны консулам у Парагваі.

У фірмы Гэцэн фабрыка закупіла ўсё абсталяваньне, а сам Гэцэн ня толькі фабрыкант, апрача гэтага ён яшчэ інжынэр-вынаходца—дык Румынаў рыхтаваўся да сустрэчы. Доўгі час што дня наведваў мантажныя работы, выслухоўваў і ў сябе дома пераглядаў і вывучаў шэраг паняцьцяў з вучасткаў фабрыкі, з якімі і Румынаў быў ня досыць знаёмы.

Прыезд Гэцэна сюды тлумачыўся замежнымі тэхнікамі і інжынэрамі, ня толькі, як кантроль прароблены працы. Гэцэн ня менш зацікавіцца і становішчам свайго „жывога інвэнтару": які курс яго людзей, ці вытрымалі яны спакусу бальшавіцкай агітацыі. Гэта-ж некаторыя служачыя Гэцэна, як Шалё паддаліся шкоднаму ўплыву. Аб гэтым Гэцэн ужо інфармаваны.

Маленькі Лянг прыбыў сюды выфранчаны і надушаны пахучаю парфумай, кароткія рыжыя валасочкі галавы блішчэлі на сонцы. Ён хітра акідваў вочкамі прыбранага Румынава.

— Бальшавіцкая палітыка, ха, ха... Але майго гаспадара не правядзеш.

Сюды на вакзал Лянг узяў з сабой сваю вагромністую жонку. У цэхох пагаварваюць, што Лянгіха важыць цэнтнэр. Жонка Лянга трымае яго пад руку і дапасоўвае свае шырокія крокі да мужніных маленькіх крочкаў.

Урэшце цягнік прыбыў, і Гэцэн, надзвычай зьдзіўўшы ня толькі сваіх спэцыялістаў, але таксама Румынава і Чарнігоўскага, сышоў са сходак вагону ў рабочай блюзе, у легкіх рускіх боціках, паголены, захапіўшы брытвай даволі высока прыгожа-выразныя сіваватыя скроні.

Далікатна паціскаючы руку дырэктару і галоўнаму інжынэру Гэцэн заўважыў:

— Вашы цягнікі страшэнна марнуюць час.

— Так, так,—адказаў Чарнігоўскі: нашы цягнікі страшэнна перагружаны.

— Як доўга цягнецца паездка?

— Дарогі старыя, а краіна вялікая.

Аглядаючыся і пазнаючы некаторых са сваіх супрацоўнікаў, ён груба спытаў:

— Сёньня ў вас сьвята?

А да Лянга асобна:

— Вашы цэхі не працуюць?

Лянг шапятнуў сваёй цэнтнэравай:

— Выносься.

Але Лянгіха ня слухаецца мужа... Яна бунтуе. Яна часта напамінае Лянгу:

— Я ў савецкай краіне.

Яна яшчэ больш надзьмулася і дэманстрацыйна падышла да гаспадара мужа.

Гэцэн якраз далікатна прыняў Лянгіху і запрасіў яе нават ў аўто, на якім Румынаў і Чарнігоўскі прыехалі на вакзал.

Землякі Гэцэна прыгатавалі для свайго гаспадара сьнеданьне ў ціхім доме, але Гэцэн прасіў павесьці яго адразу на фабрыку.

Гэцэн зайшоў у прадзільны корпус і спыняўся тут ля ўсіх машын бяз розьніцы. Прадзільшчыкі сёньня працавалі з дзіўнай напружанасьцю і пунктуальнасьцю. Магло здавацца, што яны кідаюць у твар прыежджаму капіталісту:

— Вось гэта мы, вось гэта мы можам і так мы змагаемся.

У гэты дзень Нораў заўважыў зьяву, якая яго ўзрадавала. Нораў адзначыў у сябе ў блёкноце, каб гаварыць аб гэтым на партбюро. Нораў запісаў:

Рабочыя адчувалі адказнасьць ня толькі за сваю працу—прыходзілі на дапамогу менш кваліфікаваным рабочым суседніх машын.

Гэцэн таксама затрымаўся ля машыны Вэлькі. Малады рабочы ў гэты момант даставаў з цэнтрафугі поўна-намотаныя шпулькі. Яны раскладаліся ў скрыні цеснымі сьветламі радамі. Рукі рухаліся з гэткім спрытам, калі рабочы адчувае сябе сапраўдным гаспадаром на сваёй машыне, калі рукі пасьля сотняй і тысяч няўдалых спроб робяцца добра разьлічанымі і стройнымі з дакладнасьцю жанглёра ці акрабата.

— Тэмпэрамант фул—заўважыў Гэцэн і з усьмешкай зьвярнуўся да Норава, які праваджаў замежніка.

— Мэрквэрдзік... ці ня думае малады прадзільшчык, што частка машыны і выробленага шоўку належыць яму самому... Ха-ха-ха.

— Чуеш, таварыш,—зьвярнуўся Нораў непасрэдна да Вэлькі:— чуеш, што пан Гэцэн пытае.

Вэлька спыніў працу, засьмяяўся, зрабіў пару крокаў да Гэцэна і адрапартаваў.

— Ня частка машыны, уся машына, уся фабрыка, уся краіна, і ў хуткім часе ўся зямная куля, будзе належаць мне.

— Мэрквірдык, мэрквірдык, пераконанасьць зьдзіўляе,—і пайшоў у матальнае аддзяленьне.

Тут у аднэй брыгадзе работа ня ладзілася і Гэцэн выклікаў свайго інструктара. Інструктар, мармычучы тлумачыў, што савецкія мантажоры вельмі слаба кваліфікаваныя...

Гэцэн перарваў свайго служачага:

— Вы дыскрэдытуеце нашу фірму. За адкрыцьцё, што саветы ня маюць кваліфікаваных мантажораў, мы ніводнае маркі не атрымаем. Пакінуць тут падрыхтаваных рабочых—гэта заданьне нашай паважанай фірмы. Мы атрымліваем за гэта золата.

І ўзяў у рукі клубок і паказаў савецкім рабочым, што ён, мільянэр, ведае гэту працу.

— Я ў маладосьці пляскаў Аўгусту Бэбэлю—атрос ён з сябе пыл.

З мантажнага аддзяленьня фон-Гэцэн зайшоў у матальны цэх. За ім ішоў Лянг. Ужо ля першай матальнай машыны Гэцэн спыніўся, яго строгі чыста выгалены твар наліўся крывёю. Ён убачыў прымацаваную „маслакоўку"—так празвалі вешалкі, якія прышрубавалі да кожнай машыны, згодна прапановы Маслаковай.

— Што гэта?—спытаў ён.

— Устанавілі другую вешалку, згодна пастановы вытворчай нарады,—самаўпэўнена вытлумачыў Лянг.

— А мяне аб гэтым не паведамілі.

Гэцэн пакінуў Лянга за сабою і адзін прайшоўся ля матальных машын, чытаў табэлі выпрацоўкі і яго абурэньне расло.

— Пяцьсот трыццаць, пяцьсот восемдзесят, шэсьцьсот дваццаць... рэкод, рэкорд... Гэцэн затрымаўся ля Маслаковай. Яна яшчэ здалёку заўважыла, што тут робіцца, і не яна адна, Гэнька Заяц, паціраючы рукі ад задаваленьня, падышла да Маслаковай ушчыкнула яе, каб яна сачыла, што тут адбываецца. Але ў Маслаковай вострае вока, яна раней Гэнькі заўважыла прыежджага чалавека. Яна адкінула Гэньку з абурэньнем.

— Пусьці.

Гэцэн спыніўся ля Маслаковай, а яна, Маслакова, не глядзіць у той бок. Вось калі яна адказвае за кожны рух, за кожнае дрыгаценьне... Так спрытна і рытмічна рухаць пальцамі можа хіба віртуоз-піяніст, які выступае са сваімі канцэртамі перад вялікімі аўдыторыямі.

Гэцэн вынуў з верхняй кішэнькі храномэтр, паціскаў плячыма і не пераставаў паўтараць:

— Вэльш рэкорд. Вэльш рэкорд.

Падышоў да „маслакоўкі", мацаў вешалку і рабіў выгляд чалавека, які бярэ ў рукі брудную рэч.

— Як даўно ўстаноўлена другая вешалка?—спытаў Гэцэн.

— Месяцы тры,—адказаў Лянг.

— Тры месяцы?—перапытаў Гэцэн: тры месяцы, а мяне не паведамілі.

Ён нэрвова адкусіў выхаленымі пальцамі цыгару і спыніўся з цяжкім настроем. Гэцэн затрымаўся ля Маслаковай, а Лянг

насунуў польскую шапачку, астанавіўся ля другой матальніцы, паказаў ён, як робяць вэбэр-кнотэн.

— Пан Лянг,—паклікаў Гэцэн свайго інжынэра.

Лянг падышоў да гаспадара паволі. Лянг быў абражаны на свайго гаспадара. О,—думаў у гэты момант Лянг: бальшавікі паказалі-б дарогу гэткім Гэцэнам. Пакрыўджаны Лянг адважыўся ў гэты момант так думаць, пакрыўджаная думка дала першую іскру.

— У прадзільным корпусе працуюць савецкія тэхнікі?—Маленькія павольныя крокі Лянга Гэцэна абурылі.

— Не, не—адказаў Лянг.

— А хто ўвёс прапанову?

Лянг паказаў пальцам на Маслакову і дадаў:

— Яе прапанова была прынята на рабочай нарадзе.

Гэцэн стаў на дарозе Маслаковай, калі яна хутка варочалася з краю машыны. Гэцэн спытаў:

— Вы тут працуеце даўно?

Маслакова ледзь прывіталася з нямецкім уласьнікам, паправіла кудзеркі на лобе і выставіла на Гэцэна пару сьветлых вачэй, ня ведаючы, што адказаць яму. Фон-Гэцэн угледзіў перад сабою ня толькі матальніцу. Ён угледзеў восемнаццаці-гадовую дзяўчыну ў поўнай дзявочай чароўнасьці, дзяўчыну, якая за адзін год вырасла ад альфабэту да аднэй з папулярнейшых і спрытнейшых работніц, вылучанай з тысячнага калектыву работніц, як яна сама, маладых і энэргічных. Маслакова сваім здаровым дзявочым інстынктам адчула, што мільянэр бачыць перад сабою жанчыну. Маслакова ўсьміхнулася, пацiскала плячыма, выкручвалася або выкруцілася ад пранізваючага погляду фабрыканта і падышла да сваёй матавілы.

Лянг добра ведаў свайго гаспадара. Ён насунуў сваю шапачку і шапятнуў:

— Зьнюхаў файную штучку, скронькі абгаліў... Прахвост.

Лянг адчуў, што ён у гэты момант настроен па-бальшавіцку. Бальшавікі цэняць яго, шануюць, яго слова тут закон, дык прыяжджае каналья... Гэткая абраза... Жарты, ён прыходзіць на вакзал сустракаць яго, ён, Лянг, кладзецца ўшыркі і ўздоўжкі за свайго гаспадара, рукамі і нагамі бароніць яго марку, як найвялікшы патрыот, а ўрэшце яму ставяць пытаньні, абразьлівыя пытаньні.

— Я магу зусім астацца ў бальшавікоў...

І спалохаўся сваёй уласнай думкі.

Гэцэн прайшоўся па матальнаму цэху, спыніўся ля многіх машын і зноў вярнуўся да Маслаковай, на гэты раз спакойны і добра настроены.

У матальніц падала з рук. Кідалі позіркі на машыну Маслаковай. У матальніц тлеў зайздросны аганёк. Як заўсёды ідзе

першай Маслакова. Усюды яна наперадзе. Хто перавышае норму, хто дае рэкордную норму—усё яна, усё яна, а цяпер...

Гэцэн усьміхаўся. У ім праснуўся вынаходца. У яго мазгох блiснула думка—рэканструяваць машыну так, каб маткі аўтаматычна падаваліся на вешалкі. Гэцэн у гэту хвіліну забыўся, што ён уласьнік, мільянэр, царок. Ён дастаў свой блёкнот і штосьці занатаваў.

— Рэкорд, рэкорд,—выкрыкнуў Гэцэн каторы раз і зьвярнуўся да Лянга.

— А пра рэкордныя цыфры матальніц яны не інфармавалі... Гэту работніцу неабходна было-б паказаць у Нямеччыне.

Гэнька Заяц аж пабляднела ад апошняй Гэцэнаўскае заўвагі. Што гэта значыць?—падышла яна да Маслаковай.

— Маеш добры чамаданчык,—пачала Гэнька:—ці ведаеш, што тут робіцца?.. тут заварваецца каша... Гэнька ня мае ні крышачкі павагі перад Гецэнам. Яна пытаецца ў яго даволі сьмела:

— Вы думаеце гэту матальніцу ўзяць з сабой?

Гэцэн засьмяўся.

— Ja, ja.

— Was?

— Тое, што вы чуеце.

— Ja, ja—прышоў Гэцен у зусім добры настрой.

Матальніца Шалё таксама працавала ля машыны Маслаковай. Хоць Гэцэн і не пазнаў Шалё, але яна баялася, каб фабрыкант не пазнаў у ёй жонкі свайго служачага. Што яна яму адкажа на яго запытаньне. Яна не падрыхтавана да гэткай адказнай сустрэчы.

Шалё вольна ўздыхнула і аж засьмяялася, калі яна ўгледзела, што Гэцэн адышоўся ад Маслаковай.

Званок на абедзенны перапынак, і Маслакову акружылі з усіх бакоў.

— Цябе забіраюць у Нямеччыну?

— Едзь, едзь.

— Пабачыш, як пашлюць.

Маслакова не адказвала на выкрыкі работніц. Яна зайшла ў сталоўку, заняла месца ля століка, твар палыхаў, і яда ня лезла ў горла. Яна пакінула абед у талерцы і задуменная вярнулася да працы.

Першую гадзіну яна ішла апошняй у сваёй брыгадзе. Дзяўчаты маўчалі і дзівіліся, што Маслакова адстае. Ля суседняй машыны пачалі шушукацца. Тады Маслакова сказала даволі галосна:

— Працаваць.

І за апошнія тры гадзіны дала найбольшую норму за другую палову дня.

Дзяўчаты чыталі норму Маслаковай і паціскалі плячыма.

— Звар'яцець можна.

— Няхай яна едзе за мяжу.

— Пасьвятлее ў вачох.

І колькі работніц ганарыліся Маслаковай.
— Яна ў цябе адбірае?
— Капека, калі наша фабрыка дае сусьветны рэкорд?
— Маслакова наша.
— Мы яе не аддадзім.

●

Чакалі Рэйнара, каб ён выказаўся пра паводзіны Гэцэна. Фабрыкант зьдзіўляў сваім тактам і вытрыманасьцю: ён увесь час замкнуты, ня шукае частых сустрэч са сваімі людзьмі—ні на фабрыцы, ні ў ціхім доме, куды заехаў Гэцэн. Ён пры кожным выпадку паказваў, што ён клапоціцца, каб яго людзі сапраўды працавалі добра і навучалі другога. Гэцэн на рабоце сустрэў інструктара прадзільных машын, тав. Шалё, які абвясьціў сябе ўдарнікам і быў некалькі разоў адзначаны як у заводзкай, так і ў цэнтральнай прэсе. Шалё сустрэў свайго гаспадара сваім заўсёды прыветным, адкрытым тварам. Гэцен прывітаўся з ім, вымераў яго з ног да галавы, заўважыў на яго грудзёх савецкі значок і чакаў, што Шалё усё-ткі пакажа адзнакі разгубленасьці не з-за падлегласьці, зусім не—з-за адданасьці і павагі. Але Гэцэн злавіў прыемны погляд Шалё на сваіх шаўровых боціках. Гэта было Гэцэну няпрыемна і нават абразьліва. Гэты неадукаваны інструктар асьмельваецца аглядаць яго, Гэцэна, крытычна. Гэты прасьцяк асьмельваецца аглядаць яго, Гэцэна, пазіраць на боцікі з гіроніяй. Гэцэн глыбока захаваў незадаволенасьць і зусім прыхільна і далікатна спытаў:
— У прадзільнай усё ў парадку?
— У поўным парадку.
— Ваша праца дасканалая?
— Так, бязумоўна, дасканалая.
— І прэміявана?
— І прэміявана.
— А ваша жонка працуе?
Шалё на некалькі хвілін затрымаўся адказам і затым прамовіў:
— Тут у Савецкай краіне працуюць усе.
— А я, Гэцэн, не працую?
— Вы дзейны, пан Гэцэн, вельмі дзейны, але...
— Але?
— Але да дзейнасьці патрэбна карыснасьць... для рабочага.
— Бязумоўна, карысная дзейнасьць... Перадайце, Шалё, фабрычнай грамадзкасьці, што я са свайго боку, буду прэміяваць за добрую працу. Гэта будзе карысна.
І шпарка адышоўся, не чакаючы адказу Шалё.
Чакалі ад Рэйнара, каб ён вытлумачыў паводзіны Гэцэна, які толькі што пакінуў габінэт дырэктара.
— Гэта зразумела,—сказаў Рэйнар закурваючы, кароны і тытулы царатаў і іх прыслужнікаў цяпер валяюцца на сьметніку гісторыі. Ні адзін цяпер ня можа ганарыцца сваім пачэсным

паходжаньнем. Самае ганаровае месца зараз займае пралетарыят, які перабудоўвае краіну. Гэта новы савецкі стыль... Ня толькі які-небудзь фабрыкант любіць у пэўныя моманты выхваляцца сваім пралетарскім паходжаньнем, але таксама вялікія палітычныя дзеячы і дыплёматы ў дачыненьні з намі любяць выстаўляць на паказ свае рэвалюцыйныя заслугі, дзядоў і прадзедаў. Мы выслухоўваем іх і думаем: яшчэ стары Крылоў адказаў сваім гусям:— Напэўна вашы продкі Рым выратавалі, але вы самі прыгодны толькі на смажаніну.

На фабрыцы была вядома праваліўшаяся камэдыя, якую Гэцэн спрабаваў сыграць са штрайковым камітэтам у сябе на фабрыцы.

У Гэцэна рабочыя забаставалі. Дык Гэцэн запрасіў да сябе ў габінэт забастовачны камітэт. Прадстаўнікі забастовачнага камітэту угледзелі на пачэсным месцы партрэт бацькі Гэцэна. Гэцэн прыняў бастуючых вельмі прыветліва, гаворачы, што суб'ектыўна ён згодзеп з усімі патрабаваньнямі рабочых, але цяпер ён ня толькі сын таварыша Гэцэна, які калісьці сам баставаў. Гэцэн сьвята паважае памяць свайго бацькі, але што рабіць, цяпер ён яшчэ да гэтага кіраўнік вялізнай фабрыкі, якая павінна падлягаць жалезным законам эканомікі. Ён можа зрабіць для бастуючых толькі тое і тое, шмат больш чым гэта дазволілі-б астатнія фабрыканты. Калі-б фабрыка знаходзілася нават у руках рабочых, дык і тады немажліва было-б задаволіць усе патрабаваньні бастуючых.

Рабочыя, зразумела, ня далі ўгаварыць сябе, і Гэцэн прымушаны быў задаволіць іх патрабаваньні праз дванцаць адзін дзень, пры гэтым Гэцэн запэўняў, што калі ён цяпер і паддаецца дык не таму, што ён дагэтуль быў цьвёрдалобым і ўпартым, але проста таму, гэта не сакрэт, што ён атрымаў вялізны заказ ад Савецкага Саюзу і стварыліся іншыя сітуацыі. Гэцэн зрабіў набожны твар і змоўчаў карыкатуру, якая зьявілася ў фабрычнай газэце. Там рабочы-карыкатурыст даў кусьлівую карыкатуру пад назвай: „Паходжаньне".

Прыгожае дрэва з тварам бацькі Гэцэна-рабочага, а пад дрэвам агідны грыб з тварам самога Гэцэна.

Гэцэн, скрыгочучы зубамі, быў вымушаны зрабіць прыемны твар і падпісаць патрабаваньні рабочых.

Выяжджаючы ў Савецкі Саюз, ён не забываў пра свае паходжаньне і з самага пачатку ўзяў на сябе ролю гарачага прыхільніка рабочых. Ён меў на ўвазе, што ў нас праэктуецца ўстанавіць шэраг камбінатаў, якім патрэбны будуць яго машыны. Дык ён са скуры вылазіў, каб ня толькі машыны працавалі добра, былі змантажаваны ўпору, але каб і людзі, яго людзі стаялі на адпаведнай вышыні.

Разьлікі ў Гэцэна былі правільныя, але мільянэр, на жаль, ня ведаў, а мо' і не павінен быў ведаць, што на нашым машынным заводзе з посьпехам паказваюцца першыя спробы нашых уласных машын. На зачыненым паседжаньні трыкутніку сумесна з Чарнігоўскім была правільна ацэнена тактыка Гэцэна і было

пастаноўлена, каб галоўнае праўленьне дало новыя заказы Гэцэну, каб яшчэ шырэй паставіць праблему кадраў.

Арганізавалі ўрачыстую сустрэчу з Гэцэнам. Фабрыкант нагаварыў горы хвалебных гімнаў нашым рабочым, не забыўшыся ўспомніць, што яго бацька змагаўся разам з Бэбэлем.

Пачатаў стаяў збоку і ня мог стрымаць сьмеху, калі ён пачуў знаёмае імя Бэбэля. А Барашоў выпусьціў падвойны нумар з лёзунгам: за аўладаньне тэхнікай, за новыя кадры, за ўласныя машыны.

Гэцэн афіцыяльна абвясьціў, што „маслакоўкі“ на матальных машынах самі па сабе ня важная рыса ў далейшай канструкцыі да яго машыны, але гэты маленькі факт паказвае, а гэткіх фактаў тут вельмі многа, што ўвесь рабочы калектыў тут даволі адданы працы. Вешалкі Маслаковай яго натхнілі і ў яго насьпявае думка пра аўтаматычную падачу, каб матальніцы не павінны былі кранацца з месца. Хай машына робіць сваю справу. З часам зразумела, сама матальніца будзе заменена ў поўнай меры машынай, але ў дадзены момант фабрыка дае сусьветныя рэкорды. Яго работніцы даюць ня больш пяцісот маткоў у той час, калі тут растуць цыфры да шасьцісот і вышэй. Ён хоча ахвотна ўзяць з сабой некалькі ўдарніц. Гэцэн падкрэсьліў—ударніц, якія даюць сусьветныя рэкорды.

За некалькі дзён Гэцэн наведаў усе цэхі. Трымаў у руках немецка-рускі слоўнік і асабіста гутарыў з многімі рабочымі. Прышоўшы да сябе ў пакой, вывучаў шматтыражку, асабліва апошні нумар, сумняваўся ў далейшых заказах.

Гэцэн пераканаўся, што фабрыка ўжо мае добра падрыхтаваны штат кадраў ва ўсіх аддзяленьнях.

— Як, бачыце,—гаварыў ён Румынаву,—пункт аб тым, што тэрмін абслугоўваньня вашай фабрыкі можа быць працягнуты, калі будуць неабходны людзі, цалкам лішні. Фабрыка ўжо мае добра падрыхтаваныя кадры.

## СОЛІ.

Адразу пасьля ад'езду Гэцэна пачалі бяз лішніх урачыстасьцяй вылучаць тэхнічныя кадры для фабрыкі. Пры гэтым Барашову папалася ў райкоме за нетактычны выраз у яго шматтыражцы. Барашоў надрукаваў артыкул з саркастычным загалоўкам і малюнкам да яго. З малюнкам, які ён сам удала выразаў з лінолеуму: „Нам непатрэбна нянек, у дзіцяці ўжо вырэзваюцца зубкі і яму ўжо можна даваць простую яду“.

У артыкуле Барашова было вельмі ясна сказана, што замежныя спэцыялісты могуць ужо сабраць свае манаткі. Гэта выклікала зусім дрэнны настрой у тых замежных таварышоў, якія адчувалі сябе тут, як свае, і думалі застацца ў нас. Астатнія таксама апусьцілі рукі, а іхняя дапамога была яшчэ небходна.

Барашоў вышаў з габінэту Пачатава разгарачоны, як з лазьні.

Барашоў, па-звычайнаму заікаючыся сказаў:

— Я-ясна, што я праваліўся... е-ёсьць сродак... Наступны нумар мы выпускаем пад знакам цеснага саюзу паміж нашымі і замежнымі спэцыялістамі.

Барашоў ўзяўся за падрыхтоўку гэткага нумару, але яго артыкул меў таксама і свае добрыя вынікі. Нашыя майстры і тэхнікі ўзялі сябе ў рукі.

Андрон паказаў артыкул Барашова Нораву, свайму партарганізатару, заўважыўшы пры гэтым:

— Пара самім трымаць лейцы.

Андрону было вядома ад Норава, што ён увайшоў у сьпіс тых рабочых, якія вылучаюцца на кіруючую працу ў прадзільнай.

Ці даўно гэта было, калі Нораў першым выліў першы кубак віскозы ў прадзільны мэханізм і ўсе прысутныя з уздыхам крыкнулі:

— Ёсьць шоўк, ёсьць шоўк!

Першыя ніткі шоўку. Захапленьне заснавальнікаў было зразумелым. Перад тым, як Нораў з посьпехам выліў віскозу ў верцячыся мэханізм, гэта прабавалі зрабіць шэраг іншых таварышоў, але ў іх работа ня клеілася. Як доўга насіліся з першым кулічом шоўку, як доўга стаялі ля мэханізмаў, усе роўна як бабкі стаяць ля роджаніцы і чакаюць нованароджанага дзіцяці, Як доўга, як доўга. А цяпер Барашоў выступае з гэткім сьмелым артыкулам: „Нам не патрэбны нянькі", а цяпер сюды панаяжджалі студэнты на практыку, і Андрон, і Сандлер, і Нораў, і Маслакова, і Шэйна для інструктуюць прыежджых студэнтаў, паказваюць будучым інжынэрам, як працаваць ля машыны.

●

Інжынэры і кіраўнікі фабрыкі, галоўным чынам усе чужаземцы, якія абслугоўвалі фабрыку, жылі разам са сваімі сем'ямі ў ціхім доме. Гэткім імем дом празвалі вакольныя жыхары даўным даўно і гэтае імя засталося і на сёняшні дзень. Гэта быў пяціпавярховы дом, засунуты ў бок ад гарадзкога тлуму і гоману. Сьцены камяніцы былі тоўстыя, як сьцены крэпасьці. Высокі паркан выглядаў цяжка і пахмура, як турэмны паркан. Вокны малыя — заплыўшыя.

Фабрычнае кіраўніцтва асьвяжыла камяніцу, зрабіла яе больш сьветлай, прарубіўшы вокны і дзьверы, дабудаваўшы тэрасы і бальконы, але старасьвецкая ціша засталася ў камяніцы. Гэта ціша вельмі пасавала да чужаземных жыхароў.

А сем'і, адзіныя сем'і нашых людзей, якія аселі ў кватэрах ганаровага агульнага памяшканьня, стараліся зрабіць свае кватэры, якраз падобнымі да кватэр замежнікаў. Ціша і парадак ўжыліся ў ціхай камяніцы,—але ціша была знадворная, фальшывая, бо ў агульным памяшканьні 50—60 сем'яў, якое злучае

людзей рознастайнага разьвіцьця, густу, тэмпараманту і ўзросту— у гэткім агульным памяшканьні сутычкі нямінучы. Недзе ў глыбіні вялося змаганьне з гэтай пышнай сярэднявяковай цішай.

Расьсякае цішыню сырэна аўтамабілю, пад'едзе ён ціха па асфальтовым пад'езьдзе, падворку і зноўку прыходзіць абсалютная цішыня.

Стаяць у разьмеркавальніку каля дзесятку жанчын і чакаюць пацїху прадуктаў, якія ім трэба атрымаць. Вочы зусім неспакойна бегаюць па паліцах, далоні і пальцы мацаюць выпісваемыя рэчы. Вось рукі выцягнуліся да аднаго кавалку матэрыі, кожная жанчына цягне да сябе паркаль, пальцы змагаюцца, але знадворна вельмі ціха, гвалтоўна ціха. Вось гатуе кухня ціхага дому полудзень. Там, у нізкім сутарэньні, якое асьвятляецца электрыкай круглыя суткі, рубаюць, стукаюць, грукаюць, сякуць, труць— але шум не вырываецца на двор. Ён адбіваецца на тоўстых сьценах і там замірае.

Вось спрачаецца жонка інжынэра са сваёй хатняй работніцай. Жанчына мае да яе вельмі важныя прэтэнзіі. Яна патрабуе прырыхтаваць ёй туалет да сёняшняга полудню. Яна-ж ня зойдзе палуднаваць, як абарванка. Хатняя работніца асьмельваецца кідаць у твар мадам.

— А калі твой муж апранаецца так проста і ўсё-ж такі...

— Зараз-жа з маёй хаты вон.

І ніхто ня чуе, як у гэтай хаце парушаецца цішыня.

А на кватэры Лянга яшчэ смутней. Вялікае гора. Гэцэн вырашыў, каб Лянг вярнуўся ўжо назад у Нямеччыну, а яго жонка, якая важыць цэнтнэр, нанюхалася тут небясьпечных павеваў савецкіх жанчын. Яна ня слухаецца яго, Лянга, бальшавікі адпускаюць Лянга дачасна—якая абраза, а ў Гэцэна ён страціў вельмі многа—завошта? За маслакоўкі. Дык яшчэ мала. Жонка, родная жонка смокча яго кроў. Яна толькі мяркуе паехаць у Кісла-водзк, дык гоняць яго назад у Нямеччыну. Ну, што-ж калі ехаць, дык ехаць, але жонка асьмелілася прапанаваць яму, каб ён паехаў да хаты, а яна, Лянгіха, паедзе на курорт і вернецца праз месяц.

Да чаго дайшла яго жонка. З якімі вынікамі ён едзе да хаты. Жанчына асьмельваецца адна зрабіць гэткую небясьпечную паездку.

— Мне шкода столькі мяса,—лямантуе Лянгіха.

— Жры меней,—ня вытрымлівае маленькі Лянг.

— Цябе прагналі, каб ты айн бальшавік біст, цябе не прагналі-б. Пан Гэцэн сам бальшавік, а Лянгу непадыходзіць быць бальшавіком.

Як ён пакажацца са сваёй Клярай у Нямеччыне знаёмым?

Але прыходзіць час полудню і між Лянгамі згода. Лянгіха бярэ пад руку маленькага Лянга і яны спускаюцца па сходках у сталоўку так прыстойна і спакойна. Лянг адчувае пад пахай сьверб гарачага гарчычніка, але ён прыціскае гарчычнік да сябе моцна і абодва займаюць месцы ў падрыхтаванага століка.

Ах, як ціха ў зачыненай сталоўцы ціхага дому. Так ціха, што лыжкі стукацяць аб талеркі са страшэнным звонам.

Афіцыянткі ступаюць так асьцярожна ў сваіх шарсьцяных ...хустачках. Маўчаць і ядуць так асьцярожна, так асьцярожна. Каля сотні чалавек ядуць моўчкі і лічуць нетактычным перакінуцца хоць позіркам на другі столік.

Ціха, ціха, вельмі ціха ў ціхім доме. І раптам цішыня разрываецца. З нейкага століка пачуўся сьвежы срэбна-малады жаночы голас:

— Солі, Ліда, дай солі.

Быццам віхор уварваўся ў ціхі дом, расхістаў акутыя вокны, разагнаў і раскідаў хатнюю прытульнасьць, растармасіў гардзіны, скінуў атрамантніцу і запляміў бялізну, павярнуў вазоны і раскідаў па паркетнай падлозе вільготную зямлю. Так неспадзявана было тут ўспрынята слова:

— Солі.

Пакінулі абурана яду, асабліва жанчыны. У зьдзіўленьні ўгледзелі ля століка дзьвюх новых харчуючыхся.

Адзін быў Андрон. Ён маўчаў і не заўважыў, што слова „солі“ выклікала гэткі перапалох, а ля другога сядзела Маслакова, яна таксама не заўважыла страшэннага эфэкту, які атрымаўся з яе „солі“. Яна ўстала і кідала позіркі на вакольныя столікі і, убачыўшы соль на століку, дзе сядзеў Чарнігоўскі, яна спытала, зноў бадзёра звонячы:

— Можна?

Столькі раскошы, столькі радасьці, столькі юнацкай дзёрзкасьці.

Чарнігоўскі пакланіўся і падаў Маслаковай адшліфаваную сальнічку. Галоўны інжынэр падкрэсьліваў сваю абрадаванасьць, што ён бачыць паміж спэцыялістамі сваю былую хатнюю работніцу.

Перарвана традыцыйная цішыня, разбуджаны з летаргічнага сну ціхі дом.

Занепакоеныя жанчыны пакінулі есьці і самі ня ведалі, што рабіць. Кожны ўпэўніўся, што цяпер можна гаварыць, можна размаўляць з суседнімі столікамі. Цішыня ў ціхім доме таксама мае межы.

Асьцярожна. Матальніца Маслакова закончыла полудзень. Перад Маслаковай расступаліся, калі яна праходзіла паміж столікамі, не сьпяшаліся ў кватэры. Ціхі дом хацеў бачыць на версе, у сонечным асьвятленьні вось гэтага чалавека, які прасіў солі, і жанчыны сваячасова паселі на зэдліках ля клюмбаў з краскамі і чакалі, пакуль пакажацца Маслакова.

Дзявочая сьпеласьць і дзікасьць паміж дзесяткамі добра забясьпечаных і крыху аджыўшых утрыманак спэцыялістаў, прастата, кантраст уздыму і застыглай цішыні выпіраў і выклікаў бясьсільнае абурэньне.

— Чаго патрэбна мужчынам?

— А вы думаеце, што яна такая наіўная.

— Яна ведае, чаго паказаць.

— Вось што патрэбна мужчынам.

Маслакова ўпяршыню прайшлася па ціхім падворку, зайшла да сябе ў пакой.

Яшчэ заўчора яна была звычайнай матальніцай, а сёньня яна кіруе цэхам і ўключана ў сэкцыю інжынэрна-тэхнічных сіл.

Сёньня зранку суседзі зьбіраліся ля яе старога пакою. На двор узьехаў пышны аўтамабіль і спыніўся ля пакою Маслаковай. Маслакова са сваім звычайным спрытам пералажыла сваю маёмасьць і дабро, выкінула з пакойчыку крэсла, канапку, столік, ложак і ўсё гэта ў машыну паклала. Пакуючы рэчы, яна спынілася, успамінаючы, што яна тут магла яшчэ забыць. Шофэр падганяў Маслакову. Шофэр лічыў для сябе неганаровым займацца перавозкай работніцы з аднэй кватэры ў другую. Дык ён сьпяшаўся, але Маслакова не адказвала. Яна заскочыла ў некалькі кватэр разьвітацца. На гэтым дварэ яна вырасла, і ёй хацелася разьвітацца з усімі. Усе яе тут ведалі, і ўсе суседзі, свае гарапашныя людзі, вышлі яе праводзіць.

— У гэтым, мабыць, іхняя сіла.

— А чаму ня нашая сіла?

— Я думаю... усёроўна... нашая, іхняя...

Маслакова зайшла ў Вэлькін пакой. Гаспадыня папраўляла сівыя валасы, глыбей засунула іх за хустку і сьпяшалася да сябе ў кватэру. Яна не спадзявалася, каб Маслакова прышла разьвітацца з ёю. Яна сама пачне, бо, уласна кажучы, дзяўчына нічога не адабрала ад яе, а цяпер усёроўна, яўрэй, не яўрэй. Але Маслакова ўсунулася ў цёмную спальню і гаспадыня тады абвясьціла з Вэлькінага пакою:

— Я тут.

— Бывайце здаровы, бабунька—расцалаваліся і толькі потым страсянула Вэльку, які моцна спаў у той ранак.

Вэлька спачатку не зразумеў, што тут робіцца, і толькі ля студні ён схамянуўся, куды Маслакова перабралася.

Цяпер Маслакова праходзіць падворкам да сябе ў пакой. Яе пакой на другім паверсе ціхага дому.

Тры дні ўзапар Маслакова палуднавала ў сталоўцы ціхага дому. Тры дні як адчуваецца патаемнае ажыўленьне ў закрытай кухні, якая дзень і ноч асьвятляецца электрычным сьвятлом, столікі прыбраныя, сьцены ўпрыгожаныя, падлога засьцелена дарожкамі, паветра прахладнае і маўклівае, а на чацьверты дзень Маслаковай ужо няма,—ня прышла, на пяты дзень таксама няма, на шосты таксама. Ня відаць, як яна праходзіць, ня відаць яе праз вакно, і ўначы яе пакой не асьветлены.

— Куды прапала дзяўчына?

— Ня відаць „інжынэрыхі.“

— Намесьніцы Лянга.

У жанчын лопае цярплівасьць, але не выпадае распытвацца, пакуль інжынэрыха ня вытрымлівае. Стоячы ля майстра, яна пытаецца так санліва і ленна:

— А вылучанай інструктаршы штосьці ня відаць?

Муж не адказвае. Муж не адказвае на шмат запытаньняў.

— Увесь двор жыць не дае,—пачынае нанава жонка.

— Што?—не разумее муж чаго хоча ад яго жонка.

— Ат... Маслакова ўчыніла вялікі фурор.

— Так?

— А без мяне ты ня ведаеш?

— Што мы ведаем, хто што павінен ведаць?

— А ўсё-ткі, дзе-ж яна?

— Яна мабілізавалася.

— Ма-бі-лі-за-ва-ла-ся?

— Ну, так.

— Куды?

— На торф.

— На торф?

Жанчыны даведаліся, дзе Маслакова. Жанчыны, засаромленыя супакоіліся, і на цэлы месяц зноў запанавала ціша ў ціхім доме, пакуль Маслакова зьвярнулася з торфу памізарнелая, масянжовая, стройная з галавой сьветла-русых валасоў, выблякнуўшых ад сонца, як лісьце кляновае ў глыбокую восень.

Сьвежы вецер уварваўся у дом спэцыялістаў. Пачалі наяжджаць сюды новыя работнікі, вылучэнцы на месца ад'ехаўшых замежнікаў, у большасьці паджылыя людзі. Вартаўнік ля дзьвярэй увачавідкі пабачыў, што яму няма чаго тут рабіць. Ён быў чалавек у гадох і разважаў так: „Дзеля чаго я стаяў ля варот— каб не прапускаць вось гэтых істот, цяпер-жа, калі яны тут самі гаспадараць, дык мне, бязумоўна, няма чаго вартаваць тут".

Аднойчы на падворку ціхага дому паказалася лесьвіца для лазаньня, бар'ер для скачкоў і сетка для валейболю. І Чарнігоўскі ў адзін выходны вечар так захапіўся валейболем, што жонка, бачачы яго ў гэткай вольнай позе—з кім—з Андронам, з Маслаковай і з фабрычнай моладзьдзю выкрыкнула з вакна трэцяга паверху:

— Залямон, ты спацеў, Залямон.

Барашоў падхапіў зьмену, якая адбылася ў ціхім доме. Дык ён у артыкуле зноў перахапіў мерку. Ён зноў перасаліў. Будучы ў Пачатава на партбюро, ён сказаў:

— Для нашых рабочых я добры дыплёмат.

— Але нам патрэбны замежны спэцыялісты.

— Амаль не,—адказаў Барашоў.

— Памыляешся, памыляешся—адказаў злосна Пачатаў.

А Барашоў упарта настойваў на сваім:

— Чаму нельга маладыя сілы падбадзёрваць?..

*З яўр. мовы пераклаў*
*ІЗРАІЛЬ ПЛАЎНІК.*

---

В. Я. ЛАГВІНОВІЧ

# АГРЭХ

Навакол чорнага кавалка поля ішла брыгада аратых.

— Ведаеш што?—зьвярнуўся Ярмалайка да Базыля—вось тут, за гэтым бугарком давай прыпынікцца.

— Я пабойваюся, што да паўдня ня скончым гэтага кавалка. Сёньня яго патрэбна засеяць? Здаецца, старшыня казаў так,— адказаў з запытаньнем Базыль.

— Заарем і засеем. Гэта ад нас залежыць. Толькі патрэбна хлопцаў падтаркнуць... Глядзі-ж... Выйдзе па-нашаму, па-ўдарнаму і не хапаючы, павольна—з усьмешкаю сказаў Ярмалайка Базылю.

Ярмалайка быў брыгадзір, сам разьбіў брыгаду на зьвеньні, падабраўшы адпаведных людзей для другога зьвяна, у якім у большасьці знаходзіўся сам. У тым-жа зьвяне быў Тодар, у апошні час ён самім старшынёю перакінуты сюды з другое брыгады.

Зайшоўшы за бугарок, зьвяно спыніла працу.

— Чаго сталі?—спытаў Тодар.

— Хадзі, закуры,—гукнуў Ярмалайка і патрос капшучок з махоркаю, падняўшы ўверх.—Ты мо' яшчэ не каштаваў, то пакаштуй падыдзі. Не шкадую, хоць апошнім, але частую.

— Заўсёды ты плачаш „апошнім частую", але ён, капшучок твой, ніколі ня быў пусты так, як ты ніколі ня быў тоненькі— гаварыў Тодар.—Ты вельмі стаў падобны на свой капшучок. Я думаю, калі-б паставіць цябе дагары нагамі, або перавярнуць капшучок кутасом угару, дык вы будзеце роўныя па форме, як дзьве ігрушы.

А ў галаве ішла думка: „От-то дзе лісічка. Ужо дзесяты раз капшучок патрасае. Надта ты стаў хавацца за гэты капшучок. Да старшыні—з капшучком падыходзіць, дзелавода—капшучком частуе, на полі—каштаваць падносіць капшучок. А каб хто паміраў, дык на лякарства ня даў-бы. Я ведаю цябе, злыдух. Абармоціна."

Але Тодарава слова Ярмалайка прыняў за жарты і весела зарагатаў з такога параўнаньня яго з капшучком.

— А што? і сапраўды капшучок добрая штука. З ім можна і пажартаваць, і адпачнуць. Дзякуй ім сыны не забываюць бацькі—

сяды-тагды і падкінуць з гораду. Ведаюць, што бацька гадаваў— бацьку памагаюць. А каб ня сыны, дык не патрос бы капшучком, а так—каштуй, на.

Ĭ Ярмалайкава рука паднесла капшучок Тодару, а другая моцна сьціснула невялікую клінаватую бараду.

Тодар узяў капшучок, выцер рукі аб падол кашулі і, шмаргануўшы носам, пачаў пальцам таптаць махорку ў піпку.

— Толькі вось што, Тодарка, ты ведаеш, дзе тут добра ваду можна чэрпаць і халодную. Вазьмі, брат, гладыш і скакані па ваду, а я перамераю, колькі ўжо скасілі. Пячэ надта—надвор'е, як дым.

Тодар трохі паморшчыўся, але ўзяў гладыш і накіраваўся праз кусты да рэчкі.

— Вось што, хлопцы—загаварыў Ярмалайка, калі Тодара засланілі кусты.—Нам сёньня што-б там ня было патрэбна па-ўдарнаму заараць і засеяць гэты кавалак. Мы-ж лічымся ўдарнікі, а таму павінны выканаць гэтую працу. Да познага полудня зааром, а адвячоркам засеем. Мы пакажам ударныя тэмпы, гэта для нас... самі ведаеце. Ĭ хоць плошча здаравенная на чатыры плугі, але свае абавязкі ведаем: бярэце на ўвесь плуг, а дзе льга, то і болей. Рабеце толькі так, каб агрэхі засыпаліся і ня тырчэлі наверсе. А пакуль Тодар... твая чарга сёньня, Базыль, мяняй коням хамуты, а як вельмі намуляе—за бугарком пераменім. А я хутка накалю яго каню плячо і натру кіслатою. Ты, Сьцяпан, сачы за Тодарам. Як толькі ён прыдзе—за работу па-ўдарнаму. Ага, яшчэ, калі што будзе гаварыць—ахватвайце яго працаднём, але, ведайце, асьцярожна.

Ярмалайка, накалоўшы Бураму плячо, узяўся за мятроўку.

— Кінь клыбаць, як бацян. Ідзі-ж, прынёс і за працу—падсукнуў Тодар Ярмалайку, падымаючы гладыш угару.

— От, маладзец. Я гэта разумею, дай, дай яго сюды—і Ярмалайка павярнуў на сябе гладыш. Вада пабегла па яго губах, па барадзе і грудзях, але піць Ярмалайка ня піў, а толькі абліваў сябе для людзкога вока.

— Вось што Тодар,—адняўшы ад губ гладыш, загаварыў ён,— гэты кавалак мы па-ўдарнаму павінны сёньня заараць і засеяць. Давай, Тодарка, падцягнемся, каб апраўдаць назву ўдарніка. Ну, але-ж ты і так разумееш.

— Гэта добра, але глядзі ты там, каб хлопцы агрэхаў ня пускалі. Нядобра яны надорваюць, глыбока запушчаюць плуг,— сказаў Тодар, паказваючы Ярмалайку на Базылёву баразну, якая больш была падобна да прарытай сьвіньнямі, чым прааранную плугам.

— А гэта нічога, барана падраўнуе, а калі возьмем упоперак, дык надта добра будзе—супакоіў яго Ярмалайка:—Ну, хлопцы, хутка за працу.

Зьвяно пашло навакол узоранага поля. Зашоркалі і зачокалі аб каменьні зяхцястыя сашнікі плугоў. Чорная істужка пера-

вярнутае зямлі клалася за імі. На трэцім абыходзе Тодар прыкмеціў, што яго Буры пачаў наравіцца на левае плячо, выгінаючы бок і матаючы галавою зьбіваўся з баразны. Базыль хвастаў пугаю сваю пару, лаяўся і бубніў. Яго коні не хацелі цягнуць, станавіліся, а потым раптоўна рвануўшы, рабілі скачкі. Ад гэтага баразна была няроўная, асталіся агрэхі. Гнеды пачаў кульгаць, тузаўся, супыняўся, адыходзіў назад, за што атрымліваў ад Базыля больш лупцаванкі, чым Каштанка. Ярмалайка са Сьцяпанам бралі не па сіле плугу барозны і пакідалі не надворанае поле, прыкідаючы яго толькі зьверху зямлёю.

Тодар ужо некалькі разоў супыняўся, аглядаў хамут у Бурага, мацаў падкладку, падымаў яму левую нагу, ляпаў па капыту, выбіраў грыву з-пад хамута і ніяк ня мог зразумець, чаму можа наравіцца Буры—усё было ў спраўнасьці.—Потым ён заўважыў на плячы чырвоную лапінку і калі даткнуўся да яе, дык буры здрыгануўся і махнуў на яго галавою. „Пачаў замульвацца—падумаў ён—стала горача, пацее“—і падправіўшы падкладку папрабаваў пусьціць плуг. Буры пашоў спакайней, але неўзабаве зусім стаў.

— Што табе за ліха з гэтым хамутом—сказаў ён заўважыўшы, што чырвоная лапіна разрастаецца.

— Трэба падмякчыць, зацьвярдзела—паўтарыў ён і зьняўшы споднюю кашулю, адарваў палу і стаў абкручваць ёю падкладку хамута.

— О, брат, мы цябе ўжо раз абагналі, адстаў, не качай, Тодар, а то ўдарніка згубіш,—начальніцкім голасам загаварыў Ярмалайка, напіраючы сваімі коньмі на плуг Тодара.

— Я ня ведаю, што такое? Ідзі ты паглядзі, нешта мой Буры з плячом наровіцца—зчырванела ўсё, ці гэта муляе, ці гэта так што?

— Ага,—зьдзівіўся Ярмалайка, мацаючы плячо Бурага. Сонца надта пячэ, горача, а ад гэтага скура робіцца мяккай і лёгка абмульваецца. Базылеў Гняды таксама троха замуляўся.

— Но-о-о, воўк вас рэж!—крычаў Базыль на коні, падыходзячы да аратых і лупцуючы пугаю па Гнядым.

Тодар не заўважыў, калі Базыль супыніўся, зайшоўшы за бугарок і зьмяніў ужо замуленым коням хамуты, надзеўшы на кожнага свае. Праўда, ён ня мог і бачыць—бугор закрываў яго ад Тодара.

— Нічога, Тодар, хвіліну перадыхнём і хутка дакончым—асталося нямнога—гаварыў Ярмалайка.

— Дакончым то дакончым, але як дакончым, паглядзі ты на гэта ворыва. Парыта, а не паарана—і Тодар паказаў рукою на баразну Ярмалайкі.

— А чым гэта дрэнна? Баразна шырокая, гэта ня шкодзіць, бараною выраўнім.

Але Тодар гэтых слоў Ярмалайкі ня чуў. Яго вочы ўпікліся на Базыля.

— Чаго ён там, абармоціна, лупцуе каня? Што яны вінаваты? Хамут, мо" дзе падбіўся, а ён на конях злосьць спаганяе. Ты глядзеў, што ў яго там...—зьвярнуўся ён да Ярмалайкі і накіраваўся да Базыля.

— Ай-яй-яй, паглядзі, паглядзі, брыгадзір. Як ён арэ. Абодвы плячукі Гнедага былі ашмуляны да мяса. З левага чырвонымі шнуркамі па гнядой шэрсьці сачылася кроў і зьбягала на нагу. Яго крыж укрыты быў на перакрэсткі рубцамі ад пугі, на якіх шэрсьць стаяла дыбам. Сам Гнеды хроп, моцна дыхаў, пацягаў галавою уперод з разьзяўленым ротам. Бакі яго, як кавальскі мех, падымаліся і апускаліся ўніз. Мокры потны шум падаў з яго бакоў на зямлю. Каштанка больш была спакойна і ня так абмулена.

— Я болей не працую. Распрагаю коняй: хамуты, хай бы іх агонь спаліў. Калгас... усё агульнае... Хамута добрага няма, а ў нейкі сацыялізм лезуць—лапатаў Базыль, адпрагаючы коняй і тузаючы вяроўкі.

— Не хамуты, а ты гаспадар такі. Чаму так дапусьціў? Дзе вочы былі? Павылазілі? Ты-ж каня скалечыў,—гаварыў Тодар, махаючы на Базыля рукой.

— А я што вінават? Я павінен працадзень выпрацаваць. А ў цябе то што? Чаго навярнуў вонь? Ідзі глядзі сваіх, а ня сунь носа да мяне.

Тодар, як аглушаны стаяў і ня ведаў, што больш сказаць. Яго думкі зблыталіся ў клубок і не маглі нічога прыдумаць.

— Абармот ты,—кінуў ён усьлед Базылю, які, пакінуўшы плуг у разоры, адыходзіў ад яго з коньмі ў напрамку рэчкі.

— Валацуга, а не чалавек. Коні пакалечыў. А ты чаго глядзіш, брыгадзір? Ты ж быў з ім—зьвярнуўся ён да Ярмалайкі.

— А што, я за ўсімі вамі дагледжу. За табою глядзі, за ім глядзі. Кожны павінен адказваць за сябе.

— Як? Ты думаеш за Гнядога не адкажаш? А дзе ты дзенешся? Адкажаш. Я давяду ўсяму сходу, як ты глядзіш за ўсім.

Паміж Тодарам і Ярмалайкам завязаліся спрэчкі.

— А ты то як робіш? Паглядзі на сваю баразну, куды яна годна? Бач... у сацыялізм цаляе, калгас вінават, хамут ня добры, абагулена... Я ведаю, вам добра ня будзе. Яшчэ не атрапаліся ад кулацкіх прывычак. Цяжка... шкода... не вярнеце былога, ня думайце. Не для таго на маёй сьпіне напісана: пастух, батрак, бядняк. Да сацыялізму на агрэхах не даедзеш.

— Чаго ты ўсходзіўся з агрэхам? Які тут табе агрэх? Што та за агрэх? Ты вот паслухай мяне. Ня злуй толькі. Я калі быў у Сібіры, то рабіў так: адну баразну выбярэш, а далей каціш праз баразну, праўда, бараною добра перабіраў, а расло, ой, як расло.

Ярмалайка падняў уверх руку.

— І на нашай зямлі нарасьце,—гаварыў ён.

— Ды што ты мне пра Сібір тлумачыш. Ты там усім быў: лісіцы ў пастку лавіў, куніцы ў будынках, рыбу глушыў і расло „во“. Нейкі чорт там цябе бачыў ці ведаў аб табе. Ідзі цяпер у Сібір... Заняў сабе пасёлачак, выбудаваў домік, жыў на ўсю нагу, а цяпер у калгас залез, ды яшчэ брыгадзірам зачасаўся. Ударнік, а конь які сёньня стаў, а гэта як наворана? Я пытаю. Так па-сібірскаму? Гэта па...

Тодар расхваляваны яшчэ гаварыў бы няма ведама колькі, але Ярмалайка прыняў непакойны стан, што было да гэтага знакам, ніжняя яго губа падалася далёка ўперад, перагнулася, як быццам, хацела зірнуць на бараду, потым, як п'яўка, пачала хавацца пад верхнюю, а левая рука ўзялася за клін барады.

— Я хачу табе сказаць,—пачаў ён, выгаварваючы цьвёрда словы і шавелячы вусамі,—што я ў калгас не залез, а мяне калгас прыняў на ўсіх правох, як і кожнага. І наколькі я сябе апраўдаў, гэта відаць з таго, што на сёняшні дзень калгас даверыў мне брыгаду.

— Прынялі. Залез, а не прынялі,—павышаным тонам загаварыў Тодар.—„Добры чалавек, можна прыняць“—і на гэтым ты быў прыняты. Цяпер я пазнаў тваю дабрату. Вось яна твая дабрата, глядзі. Яна ні раз у маю кішэню залазіла і цяпер яшчэ мацае яе.

Тодар паказаў на дрэнную баразну з-пад яго плуга.

— А гэта па-твойму агрэх?—запытаў Ярмалайка.

— А вот ты нагніся і праграбі, паглядзім,—прапанаваў Тодар.

— Ты яшчэ што заставіш рабіць?

— Ня хочаш. Спужаўся. Глядзі.

Тодар нагнуўся і адвярнуў прывораную зямлю, пад якою асталася ненадвораная палоска вяршкоў тры, нават з парослаю травою.

— А гэта па-твойму што? Нагніся, нагніся. Гэта па-сібірскаму, га?—пытаўся Тодар.

— Пакінь пляскаць. Ты хочаш прыдрацца. Я брыгадзір і ведаю, што раблю. Да цябе ў брыгадзе ўсё было добра, а гэта, як прышоў, так вот трэці дзень усё кудахтаеш на мяне, як куранятніца на ката. Нядобра? Ідзі ў другую брыгаду. Ты за мяне не працуеш, і плаціць ніхто за гэта табе ня стане. Мусіць там ня смачна. Да пры нас і ты больш выканаеш, чаго там.

— Ого-го. Загнуў куды. Ты мяне сюды ня прызваў і не адправіш. Не для гэтага я пугаю восем год ляскаў, каб ты мною распараджаўся, улезшы не ў свае гняздо. Я не сьляпы, ня думай. Дармо, што я нявучоны. Пуга ня вучыла кнігам, а жыцьцю, а бізун—барацьбе навучыў. Ня турбуйся, я чую, што сказана Леніным, я чую, што кажуць бальшавікі. Я слухаю, як вучыць нас партыя, я добра ўгледзеўся і бачу, што хочуць і куды вядуць нас камуністы. Я не ў такіх агнёх быў, а гэту

апошнюю бойку—сьцягну. Чысьціў цэлыя фронты і ачышчу ніву ад шкоднага зельля. Я партыі слухаю, а не цябе.

— Пара вам супакоіцца. Сышліся і гыркаюцца. Я абышоў кругом, а вы не нацешыліся адзін з аднаго. Бярэце за плугі, дакончым хутчэй,—абмінаўшы Тодара з Ярмалайкам абазваўся Сьцяпан і, шмаргануўшы за правую лейчыну, падшлепнуў пугаю, цмокнуў на коні, накіраваўшыся на разоры. Чародка галубоў паднялася спуджаная ляскам яго пугі і, зрабіўшы круг у паветры, апусьцілася на поле.

— Бачыш, Тодар, вонь паляцелі галубы. Паглядзі на іх, як яны дружна жывуць: дзяўбуць—кучкаю, ляцяць—кучкаю. У іх камуна. Між намі павінна быць такая арганізаванасьць, а ты злуешся, крычыш, так, як табе чаго не хапае.

Дакончыў апошняе слова Ярмалайка ляпнуў Тодара па плячуку, падаў жывот уперад і заварушыў вусамі, устанавіўшы мяккі погляд на Тодара, у якім адлюстравалася пабліскваючы зоркамі перамога.

Тодар павярнуў галаву, акінуў зіркам поле, і апусьціўшы павекі на вочы, здавалася, хацеў пранізаць вачмі Ярмалайку.

— А ты ўсё на свае гнеш. Ты хочаш навучыць жыць з табою галубком—робячы націскі на апошніх складох і расьцягваючы словы, выцягнуўшы да Ярмалайкі галаву і махаючы рукою Тодар закончыў:—У калгасе празвалі Ярмалайкам, то ты думаеш, што з Ярмалайкі ды стане галубок. Ты галубок?.. Я ў цябе пытаю. Ты ня галубок, ты каршун. Кравапійца, вот хто ты. Мала ты за свой век укоцаў такіх галубкоў. А цяпер хочаш быць каршуном у галубкох. Не, адсячы кіпцюры, выпрастай крывую дзюбку. Але коршун гэтага ня зробіць. Калі ён адсячэ кіпцюры і выпрастае дзюбу, то—здохне. Каршун і застанецца век каршуном. Каршуна патрэбна зьнішчыць, а тады і галубкі ня будуць выстаўляць свайго старажавога. Ты загнуў ня туды. Ого, баішся... прэ ад жаху, ад свайго клясавага імя і хочаш стаць галубком. Цяпер я табе скажу адкрыта, ты ня станеш галубком, бо ты каршун. А мы, такія як я і ён, паказаў на сябе пальцам—супроць каршуноў арламі сталім.

Выгаварыўшы цьвёрда з расстаноўкаю слова „арламі“ Тодар яшчэ прытупнуў нагою і сабраў лоб у маршчыны.

— Ты брэшаш,—пралепятаў Ярмалайка і адвярнуўшыся ад Тодара з сілаю дзёрнуў з кішэні капшучок і кінуўся да коняй, не заўважыўшы, як з капшучком вышмаргнуў ласкуток паперы, які ўпаў пад ногі Тодару.

Тодар падняў паперку і, прыцягнуўшы яе амаль да носа, пачаў чытаць:

„Многоуважаемый Ярмолович Викентий Сергеевич.

Мною получено ваше письмо. Мы очень высоко оценили вашу работу. Вспомните Сибирь... офицера... коня... шпоры... Вы там показали себя достойным офицером. Вы достойно

продолжаете свой долг и сейчас. Работайте. Побольше и покрепче создавайте вокруг себя свой актив. Будьте осторожны. Деньги вам будут пересланы другой раз.

Жму руку. Бурлаков."

Прачытаўшы паперку Тодар і астаўся нярухомы на месцы. Рукі, як прычэпленыя, тырчэлі ля носа з паперкаю, якая лапацела ў дрыжачых пальцах. Ногі падкасіліся ў каленях. Губы моцна ціснулі адна другую. У вачох мільгацеў абшмулены Гнеды, стаяў капшучок перавернуты кутасом уверх і вярцеліся агрэхі.

— Гм,—як з бочкі вырвалася ў яго з рота.—Пад коні. І ногі чуць не скачком рванулася з месца.

— Ага. Вось, якія ён куніцы лавіў. Я і думаў. Вот для чаго яму патрэбны быў капшучок. Гэта „галубок"—думаў Тодар, шпарка ідучы полем да людзей.

---

Л. БЭНДЭ

# ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫЯ НАТАТКІ

## М. Багдановіч

Максім Багдановіч—буйнейшы пісьменьнік беларускай буржуазіі. Творчасьць М. Багдановіча прыпадае на пэрыяд 1907-1917 году, на пэрыяд рэакцыі, што наступіла пасьля рэвалюцыі 1905 году, пэрыяд уздыму і пэрыяд імпэрыялістычнай вайны.

М. Багдановіч зьяўляецца надзвычай цікавым паэтам у тых адносінах, што ў яго паэзіі знайшлі сваё выяўленьне ідэі, настроі і жаданьні беларускай буржуазіі названага пэрыяду.

М. Багдановіч сын інтэлігента-настаўніка. У свой час ён зьяўляўся членам партыі „Народная воля“, яе правага крыла, з якога разьвілося лібэральнае народніцтва 90-ых гадоў тыпу Міхайлоўскага. Бацька Багдановіча з настаўніка пачатковай школы выбіўся ў настаўніка гімназіі, і ў той жа час стаў тыповым буржуазным этнографам, тыпу Шэйна. М. Багдановіч пасьля сканчэньня гімназіі вучыўся некаторы час у юрыдычным ліцэі. Сацыяльнае асяродзішча, у якім фармаваўся паэт, той матар'ял, на якім адбывалася яго культурнае і эстэтычнае выхаваньне, па сваёй сутнасьці далёка стаіць ад тых перадавых ідэй эпохі—ідэй рабочае клясы—марксызму, якія накладалі свой адбітак на ўсё грамадзкае разьвіцьцё таго часу, калі Багдановіч фармаваўся і разьвіваўся як паэт. Буржуазны лібэралізм з усімі ўласьцівымі для яго рысамі—вось ідэйнае асяродзішча, якое ўзгадавала М. Багдановіча, як паэта. Ідэі буржуазнага лібэралізму ў яго беларускай нацыянальнай афарбоўцы прасякаюць сабой паэтычную і ўсю публіцыстычную творчасьць М. Багдановіча, вызначаюць яе асяродак, знаходзяць сваё ўласнае выяўленьне.

Гэтыя ідэі выяўляюцца і ў featureнастайнай тэматыцы, праз featureнастайныя вобразы паэтычнай і публіцыстычнай творчасьці М. Багдановіча.

Творчасьць М. Багдановіча прыпадае на такі час, калі беларуская буржуазія, якая не пасьпела расьцьвісьці ў пануючую палітычна клясу, імкнулася да кансалідацыі, а для гэтага часта надзявала на сябе вопратку прадстаўніка „ўсяго беларускага народу“, выдаючы свае сугуба-клясавыя інтарэсы за „агульна-

народныя". — Гэтая буржуазія ўжо адчувала подых рабочай рэвалюцыі, была ахоплена страхам перад ёю, вяла ўсялякімі сродкамі барацьбу супроць яе. Гэтая, гістарычна-абумоўленая дваістасьць беларускай буржуазіі, асабліва ярка адлюстроўваецца ў творчасьці М. Багдановіча.

М. Багдановіч, зьяўляючыся таленавітым паэтам, паэтам вялікай мастацкай эрудыцыі, будучы добра знаёмы з узорамі сусьветнай клясычнай, асабліва славянскай, мастацкай літаратуры, у значнай меры (асабліва праз перайманьне) абагаціў беларускую літаратуру клясычнымі формамі і ўласьцівымі ёй тэхнічнымі прыёмамі. Ён па сутнасьці першы ў беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры ўзьняў тэхнічнае майстэрства беларускага вершу, параўнальна з яго папярэднікамі і многімі сучаснымі беларускімі паэтамі, на значную вышыню. Яго паэзія як бы выходзіла з вузкага этнаграфічна і нацыянальна абмежаванага кола беларускіх вобразаў, беларускага калёрыту, традыцыйных, а досыць часта і трафарэтных прыёмаў і часамі ўзьнімалася дасканаласьцю сваіх формаў і прыемаў да ўзроўню лепшых у гэтым сэнсе узораў больш разьвітых літаратур.

Гэты бок творчасьці М. Багдановіча становіць сабою тое прагрэсыўнае, каштоўнае, ня трацячае сваё культурнае значэньне для рэвалюцыйнага пралетарыяту, што ёсьць у літаратурнай спадчыны М. Багдановіча, хоць пазнавальная роля яго творчасьці гэтым не абмяжоўваецца.

Багдановіч у паэзіі і публіцыстыцы выразны трактаўнік беларускай буржуазіі—буржуазіі краіны нацыянальна-прыгнечанай расійскім самаўладзтвам. Беларуская буржуазія, будучы ўрэзана ў сваіх эксплёататарскіх апэтытах і магчымасьцях накапленьня тым, што яна прымушана была пераўступаць частку дадатковай вартасьці расійскай буржуазіі, часамі праяўляла нездавальненьне сваім становішчам каленіяльнай буржуазіі. Праўда, гэтае нездавальненьне ня прымала радыкальнай формы, а тым больш формы рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы, а заўсёды заканчвалася зьдзелкамі і кампрамісамі беларускае буржуазіі з рускай буржуазіяй і рускім чорна-соценным самаўладзтвам.

Як ужо гаварылася, беларуская буржуазія свае сугуба клясавыя інтарэсы часта апранала для абману працоўных мас у „агульна-народныя", у „агульна-нацыянальную „вопратку". Яна часамі не саромелася патрэсьці і жабрацкай торбай беларускіх працоўных сялянскіх мас, як сваяасаблівым штандарам, каб прыманіць да сябе народ. Так было ў палітыцы. А мы знаем, што палітыка кляс прамым чынам уплывае на літаратуру, накіроўвае яе, вызначае яе зьмест. Літаратура і палітыка гэта— ня два паралельна існуючых, адзін ад другога не залежных, ізаляваных—рады, як гэта вучыў Пераверзеў. Палітыка і літаратура знаходзяцца ў пастаянным, жывым узаемадзеяньні, дзе палітыцы належыць галоўная вядучая роля.

Палітычныя імкненьні беларускай буржуазіі, якія рэльефна сфармуляваў у сваіх публіцыстычных артыкулах М. Багдановіч,— знайшлі сваё рэльефнае афармленьне і ў яго паэзіі. Выяўляючы нездаволенасьць і імкненьні беларускай буржуазіі М. Багдановіч часамі ад інтымна-лірычных, глыбока-індывідуалістычных матываў сваёй творчасьці зварочваецца і да сацыяльнай тэматыкі, бярэ аб'ектам сваей паэзіі і становішча беларускага сялянства.

У сваіх „песьнях беларускага мужыка“ ён робіць спробы стварыць вобраз прыгнечанага стану беларускага селяніна, выявіць і адлюстраваць яго псыхіку.

Трэба адзначыць, што вобраз становішча сялянства ў яго паэзіі ў значнай ступені рэалістычны, што ён праўдзіва паказвае, асобныя бакі, моманты, кавалачкі жыцьцёвай праўды сапраўднага становішча беларускага сялянства, прыгнечанага памешчыцка-буржуазным ладам.

„Гнусь, працую, пакуль не парвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць;
Адтаптаў сотні вёрст пехатой я,
Будаваў я дарожкі, масты,
Ліўся пот мой, як рэзаў я‘ком‘я
Плугам глебы сухія пласты.
Працаваў над пяском, над дрыгвою
І ня мала там выцярпеў мук“.

Аднак, праўдзіва адлюстроўваючы асобныя моманты становішча сялянства ў перадрэвалюцыйны час, Багдановіч, далёкі ад разуменьня сапраўднага становішча сялянства, яго псыхікі, яго імкненьняў, яго барацьбы, як супроць памешчыцкай кабалы, так барацьбы паміж рознымі клясавымі групамі ўнутры самога сялянства. Рэалізм Багдановіча вузкі, абмежаваны рамкамі буржуазнага „аб'ектывізму“, рамкамі буржуазнай сьвядомасьці, буржуазных інтарэсаў. Вобразу селяніна Багдановіч надае свае пачуцьці, укладвае ў яго сваю псыхіку, свае погляды на жыцьцё, а разам з тым, сваё бязьвер‘е, пэсымізм, пасыўнасьць, сваю абмежаванасьць, заварожаным колам патайнага пярсьцёнка, у якім заменены жыцьцёвы працэс беспэрспэктыўнасьці.

Вобраз селяніна „У песьнях мужыка“, у вершы „Над магілай мужыка“ і інш. вершах напоўнены пасыўнай скаргай на лёс, прасякнуты бязвыхаднасьцю, палітычнай індыфэрэнтнасьцю.

Мужык у песьні Багдановіча сьпявае:

„А каб ведаў, што столькі пральлецца
Майго поту, ня стаў бы і жыць.
І ня прыдзецца мне пад зямлёю
Гэтых чорных сароміцца рук.
„Шчасьце-ж гляне і ў даль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сьніць...
Дык няхай-жа, няхай сабе рвецца
Мне жыцьцё, як сагніўшая ніць“.

У вершы „Над магілай мужыка“ памёршаму бедняку паэт ад імя самога сябе выказвае тыя-ж самыя настроі:

„Усё жыцьцё сваё змагаўся ты з зямлёю,
Але ўрэшце ўсё асіліла яна.
Дык скажы-ж ты мне, халодная магіла:
Для чаго-ж змагаўся цягам ён з жыцьцём?

Фаталізм, абрачонасьць цяжкім рокам вісьне над усім жыцьцём мужыка, над усім жыцьцём навакол. Нідзе і ніякага выхаду няма. Усе шляхі вядуць да магілы. Усё жыцьцё патайна замкнёнае ў круг, як заварожаны пярсьцёнак, з якога ніколі не знайсьці выйсьця.

„Быць можа пуціна жыцьця
Лягла пярсьцёнкам, друг,
І я ў краіне забыцьця
Ня раз раджаўся, як дзіця,
Прашоўшы поўны круг“.

З гэтага пункту сьветаўспрыманьня падыходзіць М. Багдановіч і да селяніна, і наогул да ўсёй рэчаіснасьці, якая яго абкружае. Няма чаго гаварыць, што гэтая філязофія ўпадку ня можа спрыяць аб'ектыўнаму, праўдзіваму, рэалістычнаму адлюстраваньню рэчаіснасьці, а няўхільна вядзе да скажонага адлюстраваньня рэчаіснасьці, да скажэньня пэрспэктывы. Іменна такім скажоным адлюстраваньнем рэчаіснасьці пэрспэктывы і характэрны цытаваныя вершы Багдановіча аб селяніне.

„Над зямлёю імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста ў ёй. О, як холадна жыць“.

Фармалістычнае ўяўленьне аб жыцьці, як зачараваным замкнёным коле прыводзіць да пэсымізму, да глыбокага індывідуалізму. Творы Багдановіча, як тэматычна, так і праблематычна адарваны ад злабадзённых сацыяльных праблем сваёй эпохі, далёкі ад перадавых рэвалюцыйных ідэй. Яны замкнёны ў вузкае кола індывідуалістычных перажываньняў буржуазнага інтэлігента — дэкадэнта. Гэта асноўная рыса паэтычнай творчасьці М. Багдановіча.

Праўда, пэсымізм, фатальнасьць у творчасьці М. Багдановіча не выпадковы і не зьяўляюцца вынікам біялёгічных фактараў, як гэта лічаць некаторыя акадэмікі, гэта не зьяўляеццца яго прыватнай уласнасьцю. Багдановіч, як паэт выявіў, індывідуалізаваў у сваёй паэтычнай творчасьці сьветаўпрыманьне, пэсымізм, адчай, ідэйны ўпадак, уласьцівы для той клясы, прадстаўніком якой паэзіі ён зьяўляецца; іменна беларускай буржуазіі часу яе заняпаду ў пэрыяд надыходу пралетарскай рэвалюцыі.

„Адчай уласьцівы тым клясам, якія гінуць, а кляса наёмных рабочых няўхільна расьце, разьвіваецца і мацнее ў ва ўсякім капіталістычным грамадзтве, у тым ліку і ў Расіі. Адчай уласьцівы тым, хто не разумее прычын зла, ня бачыць выхаду, ня здолен змагацца. Сучасны прамысловы пралетарыят да ліку такіх кляс не належыць“,—пісаў Ленін у 1910 годзе.

Пэсымізм, адчай, згуба пэрспэктывы на будучае, страх перад пралетарскай рэвалюцыяй, які перажывала буржуазія,—знаходзіць сваё спэцыфічнае выяўленьне ў яе паэта, у форме адыходу яго да сацыяльных праблем у сьвет вонкавай прыроды, у кола ціха-лірычных адчуваньняў, індывідуалістычных эстэтычных перажываньняў. Гэта вызначае сыстэму вобразаў і абалонку іх выяўленьня творчасьці Багдановіча.

„Срэбныя зьмеі", „Лясун", „Зьмяіны цар", „Падвей", „Русалка", „Зіма", „Завіруха" і г. д. і г. д.—вось тэматычнае кола значнай часткі твораў Багдановіча.

Пераважная частка твораў М. Багдановіча прасякнута містыцызмам, рэлігійнасьцю, перасыпана „вобразамі хрыста", або іншых рэлігійных містэрый.

„Але вось цераз цемень маланка блішчыць
Асьвячае мне вобраз хрыста...
яго крыж.
Аджывеш, здаецца, душою гарыш".

Рэлігійнасьць, містыка ў творчасьці Багдановіча дапаўняецца рамантыкай,—рамантыка ахутваецца містыкай. Ад рэальных грамадзкіх канфліктаў паэт адварочваецца, унікае іх вырашэньня, фантазіруе аб „краіне забыцьця", у якой шукае адпачынку для стомленай душы ад халоднага жыцьця. Гэта прыводзіць буржуазнага інтэлігента да ідэйнай апусташонасьці яго творчасьці, да містыкаванага, скажонага, перакручанага адлюстраваньня сацыяльнай рэчаіснасьці напоўненай суровай барацьбой кляс, патрасеньнямі, катаклізмамі.

Містычна-рэлігійная рамантыка, пошукі „краіны забыцьця" простай сьцежкай вядзе да нацыяналістычнай ідэалізацыі мінуўшчыны, да пошуку чараў у застыглых сталецьцях, „у забытым старадаўнім".

Асноўнай рысай буржуазнага рамантызму зьяўляецца адсутнасьць цьвярозага рэалістычнага падыходу, успрыняцьця і адлюстраваньня сацыяльнай рэчаіснасьці, ігнараваньня рэальных супярэчнасьцяй, клясавых канфліктаў і г. д.

Іменна такі рамантызм характэрны для творчасьці М. Багдановіча. Асабліва ярка ён выяўляецца ў цыклі вершаў, прысьвечаных „старой Беларусі".

Ігнараваньне рэальных сацыяльных супярэчнасьцяй свайго часу, павярхоўнае банальнае ўяўленьне аб мінуўшчыне, аб яе сутнасьці, ідэалізацыя яе, апаэтызацыя яе ў прыгожых, звонкіх, плястычна-строгіх формах—вось характэрныя рысы гэтага цыклю вершаў. Такое ўяўленьне аб мінуўшчыне характэрна для ўсіх ідэалёгаў беларускай буржуазіі.

„Душой стаміўшыся ў жыцьцёвых цяжкіх
бурах,
Свой век канае ён у манастырскіх
мурах.
Тут ціша, тут спакой—ні шуму, ні
клапот".

Летапісец, пра якога складзены гэты верш, уяўляецца М. Багдановічам безстароньнім, аб'ектыўным, халодным рэгістратарам здарэньняў:

„І сьпісвае ўсё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва
І добрыя яго, і кепскія дзяла
Апавядае тут. Так рупная пчала
Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх
кветак".

Старасьвецкі псалтыр, які бярэ ў рукі паэт, хвалюе яго, выклікае трапятаньне яго сэрца, ласьвяжае душу яго. З радкоў „Кірыліцы прыгожай", „І воску з ладанам прыемны пах адчуў"

„Вось псальма сьлічная: „Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю бога я".
Як вее сьвежасьцю яе краса жывая.
Як радасна далей сьпяшыць душа мая".

Рэальная рэчаіснасьць з яе супярэчнасьцямі і барацьбой, не дае спакою ідэалёгу клясы, якая губіць пэрспэктыву на будучыню, клясы, якая адчувае, што будучыня яе ў магіле. А гэтае не абяцае асаблівых чараў. Ён шукае ў мінулым, у старадаўнім чараў і для „душы спакой".

„Ёсьць чары ў забытым старадаўнім;
Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць
І жыць мінулым—гэткім мудрым, слаўным,—
Мы любім час далёкі ўспамянуць".

Адсюль замілаваньне Багдановіча да старых аджыўшых паэтычных форм і прыёмаў, культываваньне тэхнічных прыёмаў, уласьцівых паэзіі старых часоў.

„Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.
Таму вязнуўся я к рандо, санэтам,
І блісьнуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым сьветам,—
Так вершы зьзяюць даўняю красой".

Багдановіч разьвіваўся, як паэт у эпоху ўздыму нацыянальнага руху Беларусі, калі беларуская буржуазія мела пэўныя надзеі, і ў той жа час сілай гістарычных абставін была пазбаўлена пэрспэктывы на будучае, была ахоплена страхам перад рабочай рэвалюцыяй. Гэтая канкрэтная гістарычная абстаноўка абумоўлівала сацыяльна-псыхалёгічны стан беларускае буржуазіі, які рэльефна выяўлены ў рамантызме М. Багдановіча, у яго звароце да мінуўшчыны.

Рамантычнае захапленьне Багдановічам мінуўшчынай напоўнена статыкай, якая злучана з буржуазным нацыяналізмам, неадрыўна ад яго, прасякнута ім. Буржуазны рамантызм і на-

цыяналізм—гэта два неадлучныя спадарожнікі, якія ў мастацкай творчасьці наогул досыць часта бытуюць разам, адзін другога дапаўняюць, складаюць тым самым характэрную рысу і буржуазнага рамантызму і нацыяналізму. Гэта падкрэсьлівае, што і буржуазны рамантызм і нацыяналізм маюць аднолькавую сацыяльную базу.

Мінулае Беларусі ў Багдановіча авеяна саладкаватай рамантыкай барацьбы дзядоў з лясунамі, пушчамі, якія „не давалі ім жыць праўдзівым жыцьцём", патрыярхальнай цішынёю, спакойнай абмежаванасьцю.

Пад кутом ідэалізацыі мінуўшчыны Багдановіч паказвае і сучасны яму падняволены стан Беларусі. „Край родны", „родзіна-маці" уяўляецца яму і паказваецца ім цэльнай, непагрэшнай, цэламудранай, пасыўна-бязьдзейнай. Народ яе „цёмны, сьляпы, быццам крот", ім „заўсёды паграджае", душу яго абакралі і „ў ёй нават мовы няма". Гэты народ „увесь поўны сьмяротнай жуды", нявольны крыкнуць „ратуйце", а прымушаны толькі „дзякуй крычаць". Багдановіч, ідэалізуючы мінуўшчыну Беларусі, паказваючы сучасны яму стан паднявольнай Беларусі скажона, з пункту гледжаньня буржуазнага дэкадэнта-нацыяналіста далёкі ад праўдзівага адлюстраваньня рэальнага стану Беларусі, рэальных сіл, якія, змагаючыся супроць самаўладзтва, памешчыкаў і капіталістаў, змагаліся і за нацыянальнае вызваленьне Беларусі. Беларуская інтэлігенцыя—вось, што паводле ўяўленьня Багдановіча, зьяўляецца і віноўніцай паднявольнага стану і сілай, якая панясе старадаўнюю літоўскую пагоню.

Ажыўленьне нацыянальнага руху ўяўляецца яму і паказваецца ім, як бег „старадаўняй літоўскай пагоні", якую „не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць". „Войстрая брама сьвятая і ваякі на грозных канях" — пагоня,— заклікаецпа паэтам выратоўваць Беларусь, зьвярнуць „дзетак-Беларусі"—гэта значыць тых беларускіх інтэлігентаў, што сталі „чужынцамі", „што забылі цябе (Беларусь), адракліся, прадалі і аддалі ў палон".

Але і тут ня было веры ў Багдановіча. Адчуваючы, што ідэалы яго клясы трацяць глебу пад сабою, яго ахоплівае пэсымізм, бязьвер'е, жах. Ён зварочваецца да „таварышоў-братцаў" інтэлігентаў ня толькі з заклікам, сколькі з запытаньнем:

„Таварышы-братцы. Калі наша родзіна-маць
У змаганьні з нядоляй патраціць апошнія
сілы,—
Ці хваціць нам духу ў час гэты жыцьцё ёй
аддаць,
Бяз скаргі лягчы у магілу?".

Нацыяналізм Багдановіча таксама фаталістычны, як і ўвесь яго сьветапогляд. Фаталістычным нацыяналізмам прасякнуты амаль усе яго вершы на сацыяльныя тэмы. У вершы „Слуцкія ткачыхі", у якім прыгонным ткачыхам Багдановіч надае сваю ўласьцівасьць буржуазнага эстэта, гэты фаталістычны нацыяна-

лізм асабліва ярка выяўляецца. Адарваныя ад роднай хаты, ад дзяцей прыгонныя ткачыхі замест пэрсыцкага ўзору, які ім загадана ткаць, бязвольна ткуць „цьвяток радзімы васілька".

„Ты тчэш, бязвольная рука,
Замест пэрсыцкага узору,
Цьвяток радзімы васілька".

Гэтым жа правінцыяльна-абмежаваным, фатальным нацыяналізмам насычаны і рэдкія ў творчасьці Багдановіча вобразы сялян. Селянін Базыль у вершы „Як Базыль у паходзе канаў", паміраючы на імпэрыялістычнай вайне, „усё старонку сваю спамінаў".

„— Гэй, чалом табе, чалом, Беларусь,
Уся староначка бяздольная.
Не забыў твой сын сваёй маці,
За цябе у зямлі яму ляжаці".

Гэты верш характэрны і ў тым сэнсе, што ён выяўляе сапраўдную існасьць беларускага буржуазнага нацыяналізму, як халуя расійскага самаўладзтва. Гэты верш лішні раз падкрэсьлівае, што беларуская буржуазія ня думала аб барацьбе супроць расійскага самаўладзтва, а бачыла ў ім моцнага, але злога ў адносінах да яе, абаронцу яе-ж клясавых інтарэсаў супроць рэвалюцыйнага пралетарыяту. Ня лішне будзе ў сувязі з гэтым, падаць вытрымку з рэцэнзіі Багдановіча на кніжку сацыялшавініста Пляханава. У сваёй рэцэнзіі, напісанай у 1916 годзе на кніжку „Дзёньнік сацыял-дэмакрата Пляханава", М. Багдановіч піша:

„Сложилась она из трех небольших статей: введения к дневникам, оценки выступления Чхеидзе по вопросу об отношении к войне и заметки о необходимости самой интенсивной работы над изготовлением снарядов. Темы, как видит читатель, исключительно военные. Обработаны они с обычным для Плеханова достоинством его литературной манеры. Отметим, впрочем, что на социалистическую доктрину Плеханов в этих статьях старается опереться очень редко, и собственно социал-демократического в них почти ничего нет... своего читателя эта брошюра могла рассчитывать найти, прежде всего, в рабочей среде. Издатель, однако, поступил чрезвычайно странно: к шестнадцати страницам текста прибавил столько же страниц чистой бумаги и своих об'явлений, назначив за все это цену 40 коп. В результате ослаблено и само значение дневника".

У творах Багдановіча надзвычай рэльефна адлюстравана трусьлівасьць перад самаўладзтвам, згодніцтва беларускага нацыяналізму з расійскай буржуазіяй і самаўладзтвам.

У сваіх вершах Багдановіч не заклікае „беларускі народ" на барацьбу, не заклікае ён і тую інтэлігенцыю, якая яму ўяўляецца панацыяй ад усіх „зол і бед". У яго закліках „рушымся

брацьця, хутчэй у бой з жыцьцём, пакідаючы жах", нічога рэвалюцыйнага няма. Яны прасякнуты той жа бязвольнасьцю, тым жа духам „агульна-беларускай" ідэі.

Пасывізм, бязвольнасьць, фатальнасьць, абрачонасьць на пагібель, бязмэтнасьць жыцьця, пэсымізм, беспрасветнасьць,—вось асноўны характэрызуючы тонус творчасьці Багдановіча.

„Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.
І бяз ясных надзей, бяз трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы сайдзёмся, спаткаемся там
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму пасьпяшаліся так,
Калі ціха паўзучы чарвяк
Усё-ж дагнаў нас ля самай магілы".

Калі мы гаворым пра творчасьць М. Багдановіча, што яна пасывістычна, не актыўна-дзейная, нават з пункту гледжаньня інтарэсаў кансалідацыі беларускай нацыяналістычнай буржуазіі ў пануючую і палітычна клясу, то гэта зусім не азначае, што творчасьць М. Багдановіча не адыгрывала пэўнай актыўна-дзейнай ролі ў руках беларускай буржуазіі. Прасякнутая, напоўненая рэакцыйным зьместам, завуаляваным у прыгожыя формы, формы, якія досыць часта культываваліся дзеля самых форм, яна па аб'ектыўнаму сэнсу свайму зьяўлялася шкоднай для рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху беларускіх працоўных мас, не гаворачы ўжо аб шкоднасьці яе для пралетарскага руху.

Буржуазны „аб'ектывізм", адарванасьць ад канкрэтных сацыяльных супярэчнасьцяй, містычныя фантазіі і іх апяваньне, захапленьне ідэяй „чыстага мастацтва"—усё гэта мае дачыненьне да клясавых боек, бо гэта выражае барацьбу буржуазіі супроць аб'ектыўнага разьвіцьця рэчаіснасьці, разьвіцьця, якое няўхільна вяло да пагібелі буржуазіі, да пралетарскай рэвалюцыі. Пэсымізм, містыка і рэлігійнасьць, фатальнасьць і нацыяналізм, бязвольнасьць і пасывізм, беспрасьветнасьць, упадак і беспэрспэктыўнасьць, вось чым напоўнена і прасякнута да самых глыбінь творчасьць Багдановіча. Усё гэтае атручвала грамадзкую атмасфэру, было ў руках беларускай буржуазіі сродкам барацьбы супроць пралетарыяту, сродкам атручваньня сьвядомасьці працоўных мас. Вось гэтым і вызначаецца аб'ектыўная роля творчасьці Багдановіча ў клясавай барацьбе на тым канкрэтна-гістарычным адрэзку часу.

Ідэі, якімі напоўнены зьмест творчасьці М. Багдановіча, як гэта паказана ўжо, ад пачатку да канца рэакцыйныя. Але гэта зусім не азначае, што мы павінны, бязумоўна, адкідаючы гэты ідэйны хлам, увесь буржуазны бруд,—адкінуць тым самым усе элемэнты творчасьці Багдановіча. У творчасьці Багдановіча ёсьць

такія элемэнты, якія ня згубілі цікавасьці для пралетарыяту, для працоўных мас савецкай Беларусі.

Багдановіч — паэт вялікай мастацкай культуры, яго паэзія згустак усяго таго, на што была здольна, што магла становучага стварыць у галіне літаратуры беларуская буржуазія, жывучы ад эксплёатацыі рабочае клясы.

Паэт Багдановіч— таленавіты сын гэтай буржуазіі, у сваей паэзіі дасягнуў значнай дасканаласьці формы, тэхнікі беларускага верша. Форма, тэхніка верша ў сваёй дасканаласьці часамі дасягае ў Багдановіча да віртуознасьці, чаго не асабліва хапае нашым пралетарскім паэтам. Гэта ёсьць тое, што мы не адкідаем, а ствараючы сацыялістычную паэзію, павінны ўзяць, крытычна перапрацаваць, выкарастаць так, як гэта вучыў Ленін выкарыстоўваць буржуазную культурную спадчыну.

Паэзія Багдановіча, асабліва прыродаапісальная, асабліва тая, у якой няма чартоўшчыны, папоўшчыны, містыкі, нацыяналістычнага яду, з якой не аддае пахам разлажэньня і ўпадка, прыгожая паэзія дасканалых форм і тэхнічных прыёмаў.

„Прыгожае трэба захаваць, узяць яго, як узор, выходзіць з яго, нават калі яно „старое". Чаму нам трэба адварочвацца ад сапраўды-прыгожага, адмаўляцца ад яго, як ад выходнага пункту для далейшага разьвіцьця, толькі на той падставе што яно „старое"?—гаварыў Ленін Клары Цэткін.

Пралетарская паэзія, савецкая паэзія за гады пралетарскай дыктатуры дабілася шмат чаго ў сваім разьвіцьці. Яна перажыла ўжо свой пачатковы пэрыяд разьвіцьця, яна стала ўжо моцнай, культурнай, значна ўдасканаліла свае формы, абагаціла творчыя прыёмы багацейшым у сьвеце зьместам. Ёй ня трэба ўжо браць сапраўды прыгожае ў Багдановіча за свой выходны пункт. Але гэта ня значыць, што любому савецкаму, любому пралетарскаму беларускаму паэту трэба адвярнуцца ад таго, што ёсьць каштоўнага ў паэзіі М. Багдановіча.

---

В. ВОЛЬСКІ

# „ВІНДЗОРСКІЯ СВАВОЛЬНІЦЫ“

## Шэксьпіра ў Яўрэйскім Дзяржаўным тэатры БССР

У першым варыянце афішы, прысьвечанай прэм'еры „Віндзорскіх свавольніц“ у ЯДТ, гэта п'еса мела наступную назву:

Вясёлая буфанада
пра
Віндзорскіх грамадзян,
напісаная сэрам
Вільямам Шэксьпірам
у 1592 годзе,
літаратурна—апрацаваная на
яўрэйскай мове
Аронам Кушныровым,
з уключэньнем мноства песьняў розных аўтараў, з мноствам надзвычайна цікавых тэндэнцый, якія сьведчаць пра выразна - гіранічныя і пагардлівыя адносіны аўтара да клясы буржуазіі, у асяродзьдзі якой разгортваецца гэта надзвычайная камэдыя, напоўненая маньякамі, дурнямі, уласьнікамі, ідыётамі, злодзеямі, асталопамі, цынікамі, паразытамі, буржуазнымі маралістамі, распусьнікамі і іншай брыдой, што ганьбяць плянэту“.

Непамерна вялікі тэкст гэтай назвы, складзенай і адрэдагаванай самім пастаноўшчыкам спэктаклю рэжысэрам В. Ф. Хведаравым „досыць ярка вызначае—па думцы аўтара—як ідэалёгічны, так і фармальны раэрэзы спэктаклю“. [1])

З гэтым выказваньнем рэжысэра цалкам можна згадзіцца, бо фармалістычная прэтэнцыёзнасьць і ідэёвая спустошанасьць гэтай назвы загадзя ўжо гавораць аб нявернай накіраванасьці ўсяго спэктаклю.

Гэта тым больш характэрна, што на працягу досыць значнага часу ЯДТ ігнараваў праблему крытычнага выкарыстоўваньня клясычнай спадчыны і пастаноўка „Віндзорскіх свавольніц“ зьяўляецца для тэатру першай—пасьля гэтага пэрыяду—спробай сцэнічнай работы над клясычным матар'ялам.

---

[1]) Гл. газ. „ЛІМ“ № 1 за 6/1—1933 г.

Адносна характару значэньня гістарычнай п'есы, адносна магчымасьці выразіць праз гістарычную абалонку „найсучасьнейшыя ідэі ў іх чысьцейшай форме", мы маем зусім ясныя выказваньні клясыкаў марксызму.

У перапісцы паміж Марксам, Энгельсам і Лясалям адносна трагедыі апошняга з часоў рэфармацыі і сялянскай вайны ў Нямеччыне—„Франц фон-Зиккинген", Маркс, паступова разгортваючы грунтоўнейшы аналіз сацыяльна-клясавых тэндэнцый п'есы ў неадрыўнай сувязі з яе мастацкай спэцыфікай, падкрэсьлівае тое значэньне, якое ён наогул надае палітычнай актуальнасьці ў гістарычнай драме.

Адначасова Маркс рашуча супярэчыць супроць „ператварэньня індывідаў у простыя рупары духу часу". Гэта Маркс лічыць „буйнейшым недахопам" драмы Лясаля і раіць яму „больш шэксьпірызаваць". Маркс упікае Лясаля за тое, што не знайшоў у яго творы „характэрных рысаў у характарах", што асноўны герой драмы—Зіккінген—„абмаляваны занадта абстрактна", што аднастайна выяўлены Ульрых фон Гутэн, які быў па думцы Маркса „умніцай, адчаяным жартаўніком", а гэта ня было выкарыстана ў п'есе. „Між тым,—піша Маркс,—ці знойдзецца эпоха з больш рэзкімі характарамі, чым XVI век?"

Сэнс гэтага выказваньня Маркса робіцца для нас яшчэ больш ясным з лісту Фр. Энгельса, у якім апошні тлумачыць Лясалю, што „асоба характарызуецца ня толькі тым, што яна робіць, але і тым, як яна гэта робіць, і з гэтага боку ідэйнаму зьместу Вашай драмы не пашкодзіла-б, я думаю, калі асобныя характары былі некалькі рэзка разьмежаваны, супроцьстаўлены адзін аднаму". Далей Энгельс, таксама, як і Маркс, заўважвае Лясалю, што ён у гэтых адносінах мог бы „бяз шкоды палічыцца крыху са значэньнем Шэксьпіра ў разьвіцьці драмы".

З гэтых зусім яскравых выказваньняў Маркса і Энгельса, маючых буйнейшае прынцыповае значэньне для нашай драматургіі і тэатру, мы можам зрабіць належныя вывады аб тым, як трэба падыходзіць да вырашэньня на савецкай сцэне высунутай Леніным праблемы крытычнага выкарыстоўваньня клясычнай спадчыны мінулага. Па-другое, гэтыя выказваньні даюць нам яскравае разуменьне характару значэньня і каштоўнасьці для нас драматургіі Шэксьпіра.

Дзякуючы гэтым выказваньням для нас робіцца ясным, што ў сваім падыходзе да выбару і сцэнічнай трактоўкі твораў сусьветнай клясыкі, мы ў першую чаргу павінны кіравацца тым, наколькі сугучны адпаведны клясычны матар'ял асноўным рухаючым ідэям нашай сучаснасьці. Скрозь гістарычную абалонку клясычнага твору гэтыя ідэі павінны актывізаваць і арганізоўваць гледача, таксама як і ў сучасных творах.

Гістарычны падыход да сцэнічнай распрацоўкі кляcычнага твору павінен заключацца не ў фармалістычным дробязна-дэталёвым, пасыўным аднаўленьні на сцэне „духу времени“, а ў правільнай перадачы канкрэтных гістарычных вобразаў, ва ўмовах канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі ў адпаведнасьці з нашым разуменьнем гэтай абстаноўкі. Пры тым кожны вобраз павінен быць ня толькі сацыяльным тыпам, але і жывой, яскрава-выяўленай індывідуальнасьцю. У процілегласьць „дрэннай індывідуалізацыі“, схэматычнаму апрошчанаму ператварэньню дзейных асоб у „простыя рупары часу“ Маркс і Энгельс высоўваюць на першае месца і асабліва падкрэсьліваюць у Шэксьпіра яго ўменьне надаваць сваім героям па-мастацку яркі і канкрэтна-індувідуальны характар не ў пляне адцягнена суб'ектыўным (у духу „Шылераўшчыны“, як адзначае Маркс), але ў пляне сацыяльна-гістарычным, абумоўленым клясавай прыналежнасьцю героя і залежнасьцю яго ад умоў свайго часу і сацыяльнага асяродку.

Яны лічаць узорам драматургічнай творчасьці здольнасьць Шэксьпіра ствараць характары індывідуальныя, але адначасова і тыповыя, зьвязаныя дыялектычнай узаемадзейнасьцю з умовамі свайго часу, з агульным разьвіцьцём сюжэту і ідэі твору.

Патрабуючы ад гістарычнай п'есы моцнага, дакладнага рэалістычнага выяўленьня сапраўдных рухаючых сіл у аб'ектыўна-гістарычных канфліктах у тым выглядзе, як яны сапраўды разгортваліся, пры дапамозе маляўнічых мастацкіх сродкаў—праз „поўнае зьліцьцё вялікай ідэйнай глыбіні, сьвядомага гістарычнага зьместу... з Шэксьпіраўскай жывасьцю і багацьцем дзеяньня“ (Энгельс), яны знаходзяць якраз гэтыя якасьці ў Шэксьпіра, адзначаючы нават іх сукупнасьць спэцыяльным выразам „шэксьпірызаваньне“.

У сьвятле гэтых выказваньняў клясыкаў марксызму для нас робіцца зусім ясным, што ў справе выкарыстоўваньня на савецкай сцэне твораў клясычнай спадчыны ў аднолькавай ступені зьявіліся-б шкоднымі і непатрэбнымі ўсялякія спробы некрытычнага, панэгірычнага, музэйна-рэстаўратарскага і фармалістычнага падыходу да трактоўкі матар'ялу, таксама як і спрошчанай вульгарызацыі, штучнага і неарганічнага прыстасаваньня клясычнага твору да ідэалёгічных запатрабаваньняў сучаснасьці, мэханічнага адрыву клясыкі ад рэальнай і канкрэтнай гістарычнай сапраўднасьці. Сэнс працы над клясыкай павінен заключацца ў тым, каб высокая ідэёва-мастацкая якасьць клясычнага спэктаклю давала гледачу ў мастацкіх вобразах правільнае ўяўленьне пэўнай гістарычнай абстаноўкі, спрыяла-б правільнаму разуменьню ім рэальных гістарычных працэсаў, узьнімаючы гэтым на адпаведную вышыню культурны ўзровень працоўных мас—дапамагала-б нарэшце праз крытычнае ўсваеньне мастацкіх скарбаў мінулага—стварэньню сучаснага, савецкага, сацыялістычнага мастацтва.

Ці адпавядае пастаноўка „Віндзорскіх свавольніц“ у ЯДТ ў той ці іншай ступені хаця-б некаторым з гэтых запатрабаваньняў?

Трэба адзначыць, што выбар тэатрам клясычнага матар'ялу— асабліва з вялікіх скарбаў спадчыны Шэксьпіра нельга прызнаць асабліва ўдалым.

„Віндзорскія свавольніцы“ ня могуць лічыцца п'есай характэрнай для творчасьці Шэксьпіра. Паводле некаторых гістарычных вестак, а таксама і самога зьместу п'есы ёсьць пэўныя падставы меркаваць, што гэта камэдыя напісана Шэксьпірам (прыблізна каля 1600 г.) не па ўласным жаданьні і творчым імкненьні аўтара, а ў моц непасрэднага загаду каралевы Елізаветы—для аднаго з прыдворных сьвяткаваньняў у Віндзоры.

Магчыма, што менавіта дзякуючы гэтаму, тыя station ўчыя мастацкія якасьці ў творчасьці Шэксьпіра, якія адзначаліся Марксам і Энгельсам і аб якіх гутарка будзе ісьці ніжэй, у гэтай камэдыі праяўляюцца ў параўнаньні з іншымі яго творамі ў значна паслабленым выглядзе.

У сэнсе ідэёвай насычанасьці, паўнаты і яскравасьці вобразаў і характараў дзейных асоб, „Віндзорскія свавольніцы“ значна адстаюць ад мастацкага ўзроўню іншых твораў Шэксьпіра, адрозьніваючыся ад іх тым, што інтрыга займае ў ёй пераважнае, дамінуючае значэньне ў параўнаньні з прынцыповым зьместам і з характарыстыкай герояў. У апрацоўцы асобных вобразаў адчуваецца больш павярхоўнасьці. Нават Фальстаф, адзін з найбольш яркіх, моцных і калёрытных вобразаў, створаных Шэксьпірам, якім мы ведаем яго па драматычнай хроніцы „Король Генрих IV“, траціць тут свае мінулае значэньне, робіцца больш слабым, зьніжаным, звычайным, дзякуючы новай абстаноўцы, новым сітуацыям, у якіх апынуўся гэты сусьветна-папулярны пэрсанаж, дзякуючы патрабаваньням уплывовых заказчыкаў.

Пры стварэньні гэтай камэдыі перад Шэксьпірам стаяла, відавочна, задача прыстасаваць для закончанага ў „Генрихе IV“ характара Фальстафа, які зроблен цяпер асноўнай, цэнтральнай фігурай дзеі, адпаведную інтрыгу, усе ніці якой скрыжаваліся-б на ім. Для стварэньня пэўнага ліку асоб, неабходных для разьвіцьця гэтай інтрыгі, запазычанай між іншым з тагочаснай італьянскай і нямецкай літаратуры, Шэксьпір часткова прыцягнуў (бяз уліку храналёгічнай сувязі), нараўне з Фальстафам, некаторыя гатовыя ўжо пэрсанажы з іншых сваіх твораў (напрыклад, Куіклі, Нім, Бардэльф, Пістэль), ствараючых абкружэньне Фальстафа.

Дзякуючы гэтым абставінам, вобразы у „Віндзорскіх свавольніцах“ абмаляваны Шэксьпірам ня з тэй вычарпальнай мастацкай паўнатой, якая характэрна для іншых яго твораў. У параўнаньні з інтрыгай характарыстыка іх займае ў камэдыі другараднае месца.

Але адначасова з гэтым камэдыя мае і некаторыя досыць цікавыя рысы, якія тэатрам павінны былі быць улічаны і выка-

рыстаны. Паводле свайго зьместу, тэматыкі і маралізуючых тэндэнцый яна зьяўляецца адзінай сярод іншых твораў Шэксьпіра п'есай з буржуазнай накіраванасьцю. Шэксьпір разгортвае ў ёй цікавы, жывы і яскравы, крыху гіранічны малюнак правінцыяльна-буржуазных нраваў і быту „добрай, старой Англіі“ у часы каралевы Елізаветы. У гэтым творы Шэксьпір становіцца па сутнасьці на бок буржуазіі—прагрэсыўнай сілай таго часу, падкрэсьліваючы яе ўстойлівасьць, душэўную раўнавагу і сямейныя дабрачыннасьці. У асобе Фальстафа і яго няўдалых прыгод, ён высьмейвае і карае разьбешчанасьць, распусту і драпежніцтва прадстаўніка дэградуючай клясы фэадалаў. Але прасякнутасьць камэдыі маралізуючымі буржуазнымі тэндэнцыямі ніколькі не адбіваецца на лёгкасьці, бадзёрасьці і непрымусовасьці ў разгортваньні дзеі.

Ні адзін з гэтых момантаў не знайшоў у спэктаклі (пастаноўка В. Ф. Хведарава) свайго адлюстраваньня. Атрымалася гэта дзякуючы нявернай, негістарычнай, абстрагаванай трактоўцы матар'ялу. У гэтай пастаноўцы ня робіцца ніякіх спроб зразумець і ўскрыць перад гледачом сацыяльна-гістарычны сэнс камэдыі. Сацыяльныя супярэчнасьці ў гэтым творы, яго клясавыя тэндэнцыі засталіся тэатрам цалкам не заўважанымі. Замест таго, каб падхапіць і як мага паўней выявіць іх, тэатр пашоў па лініі стварэньня беззьмястоўнага, фармалістычнага і абстрагаванага спэктаклю, высьмейваючы нейкіх абстрактных ёлупаў, дурняў і ідыётаў наогул-плянітарным маштабе. Гэтае ператварэньне ўсіх дзейных асоб без выключэньня ў суцэльны статак безнадзейных дурняў і вар'ятаў, выклікае ў спалучэньні з падкрэсьленай грубасьцю і прымітыўнасьцю атракцыёнаў поўнае зьніжэньне ідэёвага і гістарычнага сэнсу пастаноўкі. Тэатр узбройваецца ў гэтым паказе супроць глупства, супроць распусты, супроць зайздрасьці, як нейкіх адвечных, па-за гістарычных і абсалютных катэгорый. Індывідуальныя імкненьні і ўчынкі дзейных асоб нічым ня зьвязаны з рэальнай гістарычнай сапраўднасьцю. Дзея і зьмест спэктаклю штучна адарваны ад свайго часу, бо імкненьні тэатру аднавіць (найбольш выразна ў III акце) асаблівасьці тэатру Шэксьпіра, сьведчаць толькі аб няверным разуменьні гістарычнага падыходу да трактоўкі клясычнага матар'ялу. У эпізодзе з тэатру „Глёбус“ ЯДТ ідзе па лініі пасыўнага гістарызму, па шляху аднаўленьня знадворнага гістарычнага калёрыту, „духу эпохі“, гэта значыць робіць якраз тое, супроць чаго выказваліся Маркс і Энгельс.

Выкарыстоўваньне ў пастаноўцы прыёмаў тэатру часоў Шэксьпіра, у якім не адчувалася яшчэ вялікай розьніцы паміж драматычнымі акторамі і блазнам-камэдыянтам, клёунам, жанглёрам, у якім ужываліся звычайна замест антрактаў, незалежна ад ходу дзеі асноўнай п'есы—клёунады, інтэрмэдыі, скокі і сьпевы, давалі для ЯДТ магчымасьць прасякнуць спэктакль фразамі, рэплікамі, жартамі, хаця і выпадаючымі з вобразу актора, і нямаючымі

дачыненьня да сцэнічнай дзеі, але затое непасрэдна зьвязанымі з сучаснасьцю і ўзмацняючымі „общение“ паміж сцэнай і відоўняй. На жаль, гэтыя моманты таксама ня выкарыстаны тэатрам у мэтах наданьня паказу палітычнай актуальнасьці, наадварот уведзеныя тэатрам тэкставыя ўстаўкі характэрны поўным ігнараваньнем элемэнтаў сацыяльнай і палітычнай сатыры.

У гэтым абстрактна-фармалістычным відовішчы, якое нагадвае хутчэй цыркавую клёунаду на сюжэтным і тэкставым стрыжні Шэксьпіра, тэатр нічога ня шукае, нічога не сьцьвярджае. У такім выглядзе і пры такой трактоўцы спэктакль ні ў якой меры не адбівае рэальнага гістарычнага працэсу, не выяўляе адносін тэатру да здарэньняў і вобразаў на сцэне.

Ідучы па шляху адцягненага гратэску, вострай гіпэрбалізацыі вобразаў, тэатр амаль цалкам пазбавіў іх сацыяльнага зьместу і сэнсу. Элемэнты здаровага і грубаватага цынізму, уласьцівага эпосе Барокко наогул і ангельскаму тэатру часоў Елізаветы у прыватнасьці, апынуліся ў цэнтры ўвагі тэатру. Пры агульнай няверпай трактоўцы матар'ялаў, яны ператварыліся ў пастаноўцы з моманту другараднага, падпарадкаванага ў момант першачарговага значэньня, набылі ў спэктаклі цэнтральнае і асноўнае месца.

Слабыя бакі гэтага твору Шэксьпіра (дамінуючае значэньне інтрыгі ў процівагу недастаткова поўнай абмалёўцы вобразаў) засталіся дзякуючы гэтаму не пераможаны тэатрам. Наадварот, няверная трактоўка яшчэ больш узмацніла, падкрэсьліла, высунула на першы плян гэтыя недахопы. У выніку гэтага Шэксьпір аказаўся ў даным спэктаклі ЯДТ значна паслабленым, зьніжаным, спустошаным. Праца над клясыкай у гэтай пастаноўцы засталася нічым не апраўданай, бо філёзофская глыбіня, высокае майстэрства драматургічнай тэхнікі, магутная рознастайнасьць мастацкіх сродкаў—усе гэтыя вартыя дакладнага вывучэньня і засваеньня высокія якасьці шэксьпіраўскіх твораў засталіся ў спэктаклі—часткова дзякуючы няўдаламу выбару п'есы, часткова дзякуючы няверпай трактоўцы матар'ялу—амаль зусім не выкарыстаны, альбо выкарыстаны вельмі слаба.

Няправільная, абстрактна-фармалістычная інтэрпрэтацыя клясыкі, пабудаваная на прынцыпах бія-мэханістычнай школы, значна абмежавала магчымасьці актораў у сэнсе працы над вобразам, як над канкрэтным носьбітам пэўнай сацыяльнай ідэі. Канструкцыя (мастакі Шляпянах і Крэйн)—адцягненая, абстрактная і статычная, адпавядаючая ў асноўным рэжысэрскай эксплікацыі, таксама нічым не дапамагае ні актору, ні гледачу. Яна не арганізоўвае іх у сэнсе лепшага ўспрыйманьня сацыяльна-гістарычнай сутнасьці абстаноўкі. Наадварот, застаючыся бяз зьмен, аднолькавай як для шынку, так і для пакояў Форда, яна нават перашкаджае выканаўцу ролі дакладней зразумець і ўскрыць свой вобраз.

Трэба аддаць належнае акторам: у шэрагу асобных выпадкаў, ня гледзячы на няспрыяючыя ўмовы, яны здолелі ўзьняцца над узроўнем нявернай мэтадалёгіі пастаноўшчыка, здолелі нават часткова перамагчы мэханістычныя тэндэнцыі ператварэньня іх у бяздушныя аўтаматы, манэкены.

Найбольш цяжкай роляй у п'есе зьяўляецца роля Фальстафа (Рывін). Гэты надзвычайна моцны і яркі характар быў у „Генрыху IV" цесна зьвязаны з вайсковым фэадальна-арыстакратычным асяродкам. Трапіўшы ў „Віндзорскіх свавольніцах" (аб чым гутарка ішла вышэй) у добрасумленнае кола правінцыяльнай буржуазіі і абуржуазіўшайся шляхты, гэты вобраз здрабнеў, зьнізіўся, страціў былое значэньне. Гэта ўжо не бясьсьмертны вобраз старога рыцара-авантурыста і філёзофа, вясёлага цыніка і жыцьцярадаснага скептыка, жартаўніка і праўдзіста, пазбаўленага прадрассудкаў эпікурэйца, які сьмяецца і кпіць з усяго сьвету, у тым ліку і над самім сабой. Ён ператварыўся ў звычайнага старога, ажырэўшага і „обрюзгшего" драпежніка, абжору, п'яніцу, хвастуна і распусьніка, які ня грэбуе ніякімі сродкамі, каб задаволіць свае жаданьні, і ў той жа час няздольны нават разабрацца ў тых прымітыўных пастках, якія расстаўляюцца яму правінцыяльнымі кумкамі. У такім прыблізна пляне зроблена гэта роля акторам Рывіным. Фальстаф у яго разуменьні проста жывы кавалак мяса, прымітыўная па-заклясавая істота з непамерна разьвітымі першабытнымі інстынктамі. Для гэтае ролі характэрны, як між іншым і для большасьці астатніх выканаўцаў у спэктаклі, аднолькавыя недыфэрэнцыяваныя адносіны да акружаючых дзейных асоб. Сьвядомая думка разважаньня замяняецца ў гэтым вобразе нейкімі падсьвядомымі рэфлексамі. Біялёгічная трактоўка ролі акторам пазбавіла яе таго значэньня, якое Фальстаф павінен быў мець у спэктаклі паводле месца, адведзенага яму драматургам.

У новым нязвычайным пляне зроблена роля Куіклі (Вольпіна). У тэксьце Шэксьпіра няма, між іншым, ніякага намёку на эратычнасьць гэтага вобразу. Пастаноўшчык лічыў патрэбным надаць ёй ад сябе новыя якасьці, стварыць ёй новыя адносіны да іншых дзейных асоб. Дзякуючы гэтаму, замест таго, каб узмацняць, зьнітоўваць інтрыгу, вобраз Куіклі ў спэктаклі парушае яе, набываючы новае значэньне і становішча, не прадбачанае драматургам. У гэтым пляне вобраз зроблен жыцьцёвым, сакавітым і яскравым. Адмоўныя ўплывы бія-мэханістычных тэндэнцый пастаноўшчыка найбольш поўна і яскрава выявіліся ў ролі м-ра Форда (Моін), пабудаванай акторам на перадачы ўнутраных адчуваньняў з надворнымі, штучна эфэктызаванымі, тэхнічнымі прыёмамі, якія ператварылі гэты вобраз з жывога і канкрэтнага ў няжыцьцёвы, эмацыянальна-мёртвы, мэханічна дэклямуючы манэкен. Гэта найбольш сухі, халодны і непераканальны вобраз ва ўсім паказе.

Актор Сокал у ролі доктара Какса стварыў жывы экспансыўны вобраз брэтэра і дуэлянта, з пэўным пачуцьцём меры,

перадаўшы асаблівасьці францускай гаворкі. Гэты вобраз характэрны добрасумленнай, уважлівай работай актора над асаблівасьцямі матар'ялаў.

У асобе Сьлендэра актор Рутштэйн стварыў востра гратэскавы вобраз недарэчлівага хударлявага ёлупа,—сваяасабліві гатунак недарасьля. Гэты камэдыйны вобраз з цікава распрацаванымі рухамі зроблен крыху напруджана. Яму нехапае камэдыйнай лёгкасьці.

Упэўнена, ярка і лёгка вядзе сваю ролю акторка Арэнчык (м-с Форд), але выканаўца, відавочна, не аўладала гістарычнымі асаблівасьцямі матэрыялу. Дзякуючы гэтаму роля м-с Форд у выкананьні Арончык мала чым адрозьніваецца ад аналёгічных роляй, зробленых акторкай у іншых пастаноўках.

Тое самае наглядаецца і ў ролі пастара Эванса (Трэпель). У гэтым абстрагаваным вобразе, цалкам адарваным ад умоў свайго часу, зробленым суха і няжыцьцёва, зусім ня выяўлены адносіны да іншых, штo між іншым, з посьпехам можна сказаць і ў адносінах іншых роляй.

●

Падагульваючы вынікі спэктаклю, неабходна падкрэсьліць, што ў „Віндзорскіх свавольніцах“ тэатр ня здолеў вырашыць задачы мастацкага раскрыцьця сацыяльнага сэнсу гэтага твору. Пастаноўка „Віндзорскіх свавольніц“ у ЯДТ зьяўляецца яскравым прыкладам беспрынцыповай бязідэйнай, апалітычнай, па-загістарычнай і шкоднай трактоўкі клясычнага матар'ялу. Такім лёгкаважным фармалістычным, вульгарна-спрошчаным спосабам аўладаць клясычнай спадчынай сусьветнай драматургіі і ў прыватнасьці спадчынай Шэксьпіра ніякім чынам нельга і немагчыма.

---

# ХРОНІКА

## КОНКУРС НА ЛЕПШЫ ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Умовы конкурсу

Выходзячы з неабходнасьці стварэньня для падрастаючага пакаленьня кніжкі „бальшавіцка-бадзёрай, заклікаючай на змаганьне і перамогу“, кніжкі, якая павінна служыць справе „падрыхтоўкі ўсебакова разьвітых членаў камуністычнай грамады“, НКАсьветы БССР, ЦСПСБ, ДзВБ, Арг. Камітэт ССПБ, ЦК ЛКСМБ і ЦКДД пры ЦВК БССР абвяшчаюць конкурс на лепшы літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны твор для дзяцей.

Конкурс не абмяжоўвае аўтараў у выбары тэм і матар'ялу.

Творы могуць быць напісаны любой літаратурнай формай (проза, паэзія, драматургія, казка) на аднэй з моў усіх нацыянальнасьцяй БССР і разьлічаны на дзяцей пэўнага ўзросту: школьнага або дашкольнага.

Для дашкольнага ўзросту твор можа быць пададзены як кніжка-малюнак.

Мова дзіцячай кніжкі павінна быць багатай, вобразнай, яркай, даступнай шырокім масам дзяцей.

Конкурс будзе праводзіцца адчыненым, але рукапісы можна прысылаць і пад дэвізам.

Тыя творы, якія ня будуць прэміяваны, але па пастанове журы будуць прызнаны годнымі для друку, ідуць у друк па згодзе з аўтарамі.

ПРЭМІІ:

1-я . . . 1—5000 руб.
2-я . . . 2—3000 „
3-я . . . 2—1000 „
4-я . . . 4— 500 „

СКЛАД ЖУРЫ:

Дунец (старшыня), Башкевіч (намесьнік), Браўковіч, Браншгэйн, Якімовіч, Чарот, Лібэрман, Рутэнбэрг, Майзіт, Сьвярдлоў, Усьмінская, Савенак, Гародкіна, Давідовіч.

Рукапісы прысылаць па адрасу: Менск, Савецкая 59, ДзВБ Юндзетсэктар. На конкурс.

## Мардоўская літаратура

У першых чыслах ліпеня ў Менск прыехала дэлегацыя мардоўскіх пісьменьнікаў: Аляксей Лук'янаў, Нікул Эркай і С. Лянцьеў.

Пісьменьнікі Мардовіі азнаёміліся з дасягненьнямі БССР ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, наведалі Дзяржбібліятэку, БДУ, Інстытуты, пабылі на прадпрыемствах Менску і Барысава.

Аргкамітэтам быў арганізаваны вечар сустрэчы мардоўскіх пісьменьнікаў з пісьменьнікамі Менску, на якім у парадку своеасаблівага творчага спаборніцтва з чыткай сваіх твораў выступілі пісьменьнікі Менску і прыехаўшыя дэлегаты.

З вялікай інфармацыяй аб дасягненьнях Мардовіі ў галіне культурнага будаўніцтва, росту мардоўскай літаратуры выступіў на вечары сустрэчы мардоўскі крытык і бэлетрыст Нікул Эркай.

Да Кастрычнікавае рэвалюцыі, кажа тав. Эркай, мардоўская літаратура не існавала. Уся друкаваная прадукцыя на мардоўскай мове ў дарэвалюцыйны час складалася з эвангельля і некалькіх рэлігійных падручнікаў.

Толькі Кастрычнікава рэвалюцыя дала вялізарныя мажлівасьці эканамічнага і культурнага разьвіцьця працоўным масам Мардовіі, якія ў мінулым знаходзіліся пад вячуваным уціскам царскага самаўладзтва і „свае“ нацыянальнай буржуазіі.

Зараз працоўныя масы Мардовіі пры дапамозе брацкіх рэспублік дабіліся вялічэзных посьпехаў у разьвіцьці эканомікі і культуры. Мардовія з краіны эканамічна-адсталай, няпісьменнай ператварылася ў краіну перабудаванай на сацыялістычны лад сельскай гаспадаркі, у краіну суцэльнай пісьменнасьці.

Значных посьпехаў дабіліся працоўныя масы Мардовіі ў галіне разьвіцьця літаратуры. Растуць новыя кадры пісьменьнікаў і паэтаў, якія ў сваёй творчасьці даюць яскравы паказ мардоўскай рэчаіснасьці, перабудовы на сацыялістычны лад вёскі, клясавай барацьбы.

Пачатак разьвіцьця эрзянскай літаратуры (трэба адзначыць, што мардоўская мова падзяляецца на дзьве мовы: макшанскую і эрзянскую) адносіцца да пэрыяду грамадзянскай вайны. У 1920 годзе ў горадзе Ульянаўску (былы Сімбірск) пачынае выдавацца эрзянская газэта „Чынь сьцямо“ (Усход сонца). У 1921 г. стала выходзіць яшчэ адна газэта „Экстэрэ сохіцэ“ (Чырвоны араты). У сучасны момант на арзянскай мове выдаецца такая пэрыядычная літаратура, як „Эрзянь комуна“, „Ленінень кіяра“, „Вайсэнь эрамо“ і часопісы: „Сятко“ (Іскра), „Піонэры вайгаль“. Ва ўсіх раёнах Мардовіі выдаюцца газэты на мардоўскай мове.

Непэрыядычная, грамадзка-палітычная і сельска-гаспадарчая літаратура пачала выдавацца толькі ў 1922 годзе. Да гэтага часу адносіцца і выданьне лемантара на эрзянскай мове. Пера-

ведзены на мардоўскую мову паасобныя артыкулы і прамовы Леніна, а таксама „Пытаньні ленінізму“ Сталіна.

Эрзянская мастацкая літаратура выдаецца ў ГІХЛ'е, „Маладой Гвардыі“, Мордзяржвыдавецтве, друкуецца ў газэтах і літаратурна-мастацкім часопісе „Сятко“.

Больш плённы творчы рост эрзянскай літаратуры прыпадае на 1925-26 год. У гэты час выходзіць першы калектыўны зборнік „Эрзань пьесат“ Васільева, Окіна, Шастакова, выдана шэраг зборнікаў і асобных твораў Часнакова („Ліакіява“, „Яврась валесь“, „Калдар гадоть ташто Койтне“, „Васень то ут“ і інш.).

Часнакоў займае выдатнае месца ў эрзянскай літаратуры. У ягонай творчасьці з вялікім майстэрствам адбіваецца мардоўская рэчаіснасьць, клясавая барацьба на вёсцы.

У 1929 годзе вышаў зборнік мастацкай літаратуры „Васень сятко“, у гэтым зборніку зьмешчаны ўзоры твораў амаль усіх эрзянскіх празаікаў і паэтаў (Часнакова, Лук'янава, Артура Моро, Дуняшына, Грыгошына і інш.)

Зараз у мардоўскай літаратуры цэнтральнае месца займаюць маладыя пісьменьнікі і паэты: Лук'янаў, Артур Моро, Эркай, Зінькоў. Іх творчасьць зьвязана з разьвіцьцём пралетарскай рэвалюцыі, з ростам сацыялістычнага будаўніцтва. Растуць з гушчы калгаснага сялянства новыя пісьменьніцкія кадры: Раптанаў, Радзін і інш.

Макшанская літаратура пачала разьвівацца з 1924 года. Зараз па ўсіх раёнах маюцца раённыя газэты, выдаецца цэнтральная газэта „Макшонь правда“, выпускаецца літаратурна-мастацкі часопіс „Колхозонь Эрраф“ (Калгаснае жыцьцё).

Да 1933 году выдадзена да дзесяці арыгінальных макшанскіх кніг лепшых паэтаў і пісьменьнікаў. Найбольш выдатным з макшанскіх пісьменьнікаў зьяўляецца Дарафэеў, аўтар „Урамонь мора“. Прадукцыя яго, галоўным чынам, перакладная, творы ў пераважнасьці насьледвальнага характару.

Расьце літаратурны маладняк. Як найбольш выдатных з маладых пісьменьніцкіх кадраў трэба адзначыць Безбародава, Ардзеева, Вібіна, Чумава, Мікулава.

Значна ўзрасла перакладная прадукцыя. На мардоўскую мову перакладзены „Мае унівэрсытэты“, „Мардоўка“, „Песьня пра сокала“, „Пра Леніна“, „Маці“ і інш. апавяданьні Горкага, „Чапаеў“ Фурманава, „Разгром“ Фадзеева, паасобныя апавяданьні Серафімовіча, „Каму на Русі жывецца добра“ Некрасава і інш.

Расьце і дужэе народжаная рэвалюцыяй мардоўская літаратура. Пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі Мардовіі,—кажа тав. Эркай,—мы перамаглі імкненьні асобных пісьменьнікаў, якія ідэалізавалі мінуўшчыну Мардовіі, разьбілі нацыяналістычныя і права-ухілісцкія ідэі, якія працягваліся асобнымі пісьменьнікамі ў сваёй творчасьці.

## Крызіс і буржуазная літаратура

Чатыры гады сусьветнага эканамічнага крызісу, які павялічваецца на базе ўсеагульнага крызісу капіталізму, падарваў падваліны ўсяго капіталістычнага сьвету.

Усякія сьцьвярджэньні, якія мелі месца з боку апалёгетаў капіталізму, аб якімсьці пераходзе ад крызісу да дэпрэсіі, абвяргаюцца фактамі катастрафічнага падзеньня вытворчасьці, ростам беспрацоўя.

У буржуазнай літаратуры, якая спрабуе асэнсаваць сучасны сусьветны крызіс, знайсьці капіталістычны выхад з крызісу, ёсьць рознастайныя тэндэнцыі вонкава процілеглыя, але па сутнасьці яны зьяўляюцца толькі рознымі формамі апалёгетыкі капіталізму.

Характэрна, што адна з тэндэнцый тэарэтычнага асэнсаваньня сучаснага эканамічнага крызісу ігнаруе асаблівасьці гэтага крызісу, які разьвіваецца на базе агульнага крызісу капіталізму, абвяшчае яго „звычайным“, „нармальным“ крызісам, крызісам, які нічым не адрозьніваецца ад крызісаў перажытых капіталізмам у мінулым.

У гэтай сувязі цікава падаць выказваньні францускага літаратара Кавеньяка.

Кавеньяк імкнецца знайсьці выхад з крызісу, заглядвае ў гісторыю дзеля таго, каб знайсьці ўрокі для сёнешняга дню. Ён піша“:

„Псыхалёгія, якая выклікала накапленьне капіталаў ва Эўрапэйскім грамадзтве, была дастаткова моцнай, каб супроцьстаць патрасаючым крызісам, якія праз пэўныя прамежуткі часу абрушваліся на грамадзтва, параджаючы войны і рэвалюцыі. Кожны раз капіталы разбураліся крызісам, хутка аднаўляліся і нават ўзрасталі“.

Кавеньяк цешыць устрывожанага крызісам буржуа тым, што крызісы былі і раней, і што капіталы, разбураныя крызісам, хутка будуць ня толькі аднаўляцца, але нават узрастаць.

Каштоўнасьць гэтай „тэорыі“ Кавеньяка вельмі нізкая і наўрад ці яна знойдзе прыхільнікаў.

Капіталістычны сьвет корчыцца ў сударгах эканамічнага крызісу і коціцца да свайго краху. Буржуазная мастацкая літаратура ня можа схаваць увесь жах гэтага крызісу. Яна, ня маючы намеру, выкрывае ўсю гніль буржуазнага грамадзтва, паказвае цывілізаванае барбарства сучаснай буржуазіі.

У гэтым сэнсе характэрна творчасьць мастакоў францускага імпэрыялізму. Вядомы францускі пісьменьнік Жульен Грын напісаў раман „Отбросы“, у якім ён апісвае „носьбітаў цывілізацыі“ буржуа. Грын выводзіць жыцьцё, якое ня можа мець апраўданьня, панаваньне шкурных інстынктаў, якім усе падначалены.

Ня менш красамоўна даў малюнак капіталізму другі буйны францускі пісьменьнік Франсуа Мар'як у сваім рамане „Гняздо змей". У гэтым рамане Мар'як з усёй яскравасьцю паказаў, што багацьце, інтарэсы нажывы вызначаюць сабою мараль і этыку буржуа. „Цынізм, даведзены да межаў, ні з чым не параўнальнае ханжаства, тупасьць, азьвярэньне—вось што характарызуе людзей, апісаных Мар'якам".

Вядомы францускі літаратар Анры Тэрыў, гаворачы аб кнізе Мар'яка, піша:

„Яшчэ ніхто не апісаў з такой празорлівасьцю усю агіднасьць буржуазіі, выродлівасьць капіталізму."

Пісьменьнікі Грын і Мар'як, якія даюць малюнак гніеньня капіталізму, не адны. Шэраг другіх францускіх пісьменьнікаў, як Дрые-ля-Рашэль, Поль Маран, Жорж Бернанос і інш., ня гледзячы на фальсіфікацыю сапраўднасьці, ня могуць схаваць праўду аб сваёй клясе, яны нехаця паказваюць працэс разлажэньня эксплёататарскай клясы, працэс гніеньня капіталізму.

Гэтыя масьцітыя пісьменьнікі францускай буржуазіі, ня маючы мажлівасьці схаваць праўду аб сваёй гінучай клясе, па-рознаму шукаюць шляхоў, каб выратаваць яе.

„Адраджэньне каталіцызму—баявая задача буржуазіі", гаворыць Мар'як. „Далоў навуку,—крычыць Бернанос,—навука выхоўвае рабоў, навука разлагае асновы грамадзкага парадку, выцясьняе рэлігію. Выкарчоўвайце яе". „Масы адышлі ад рэлігіі,—кажа Бернанос,—дзякуючы гэтаму вышлі з паслухмянства і рэвалюцыя зараз пагражае сьвету."

Капіталістычны сьвет бачыць выхад з эканамічнага крызісу ў вайне і ў першую чаргу ў вайне з Савецкім саюзам. „Падумайце толькі, якая прыгожая будучыня адчыніцца перад Эўропай, калі бальшавікі будуць зьнішчаны"—кажа францускі борзапісец Леббон.

Буржуазія лічыць прычынай усяго жаху, які ахапіў капіталістычны сьвет,—існаваньне савецкай краіны. Яна „гатова на ўсе дзікасьці, зьверствы і злоўжываньні, каб адстаяць капіталістычнае рабства, якое гіне."

Літаратура не ўяўляе сабою нешта адарванае ад палітыкі. Палітыка і літаратура знаходзяцца ў дыялектычным адзінстве, прычым палітыцы прыналежыць галоўная вядучая роля.

Сучасная літаратура імпэрыялістычнай Францыі заклікае да новай вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР. Увесь фронт літаратурнага руху і асабліва вайсковая літаратура стараюцца паказаць вайну, як нешта геральчнае, неабходнае. Вайна—вось сродак ратунку буржуазнай цывілізацыі, аб якім пяе буржуазная літаратура. У барацьбе з пралетарскай рэвалюцыяй, інтэрвэнцыі СССР, фашысцкіх пераваротах, адраджэньні рэлігіі, распальваньні нацыянальнай варожасьці буржуазная літаратура бачыць выратаваньне паміраючага капіталізму.



ЗЬМЕСТ



Адказны рэдактар Міхась Лынькоў.
Намесьнік рэдактара К. Зарэмбоўскі.
Рэдкалегія: Бацюшкаў, Бранштэйн, Галавач, Жылуновіч, Клімковіч, Колас, Крапіва, Чорны.

Выдавец: Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.
Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, Дом пісьменьніка.

